ББК 81.2 Бел
Б43

Выдаецца з 1974 г.



У артыкулах зборніка даследуюцца пытанні агульнага мовазнаўства, лексікі, словаўтварэння. У спецыяльным раздзеле змешчаны матэрыялы да дыялектнага слоўніка Гомельшчыны.
Прызначаецца спецыялістам-філолагам.

Б $\frac{70103-039}{М317-80}$ 52—80 4602000000

ББК 81.2 Бел
4Бел

## МАТЭРЫЯЛЫ ДЛЯ ДЫЯЛЕКТНАГА СЛОЎНІКА ГОМЕЛЬШЧЫНЫ*

### С

САБАКАВА'ТЫ *прым., зняваж.* задзірлівы. Збавіліся ад гэтага сабакава'тага чалавека, і лягчэй усім стала (Гаць, Акц.).

САБАЧАНЯ'ТКА *н., памянш. да* сабачаня. Якіх прыгожанькіх сабачаня'так прывяла сучка (Карчовае, Хойн.).

САБА'ЧКА I *ж., памянш. да* сабака. Якія харошыя саба'чкі (Насовічы, Добр.).

САБА'ЧКА II *ж.* 1. *ткацк.* частка ткацкага станка. Саба'чка — ета калодачка з дзіркамі, цераз якія прадзяваюцца шнуркі ад панажоў, каб панажы не з'язджалі (Кароткавічы, Жлоб.); Шчэ саба'чкі за ніты не пачапляла (Каравацічы. Рэч.+Неглюбка, Ветк.); Саба'чак чатыры ля панажоў (Юравічы, Калінк.); 2. слясак. Без саба'чкі дзвярэй не адчыніш (Дуброўка, Добр.); Як атчыняем дзверы, то націскаем пальцамі на саба'чку клямкі (М. Аўцюкі, Калінк.).

САБАЧКА'РНЯ *ж.* сабакарня. У нас за Церахоўкай сабачка'рня була (Дуброўка, Добр.).

САБА'ЧКІ *толькі мн. бат.* чарада. Саба'чкі маладыя цвітуць жоўценькім цвецікам (Неглюбка, Ветк.); Саба'чкі на нізкіх мястах растуць. Як станіш сена грэсць, дак іх начапляецца за ўсё (Хізы, Ветк.); Саба'чкі, яны ат кашлю і ат прастуды добра (Р. Бурыцкая, Лоеўск.). *Парайн.* ваўчкі'.

САБО'РНА (САБО'РНО) *м.* сабака. Вунь пабег Міхайлаў сабо'рно (Камаровічы, Петр.).

САБУГО'РЫЦЬ *зак.* дагледзець. Матку сабуго'ра, а сама к дацце (В. Нямкі, Ветк.).

СА'ВАН *м.* пакрывала для нябожчыка. Са'ван у яе быў цюлявы (Хутар, Светл.); Дзед Антось ўжо са'ван гатуе (Ломыш, Хойн.).

САВАШНІ'К *м.* сланечнік. Савашнікі' бальшыя дужа ўрадзіліся (Апанасаўка, Гом.). *Парайн.* сана', сло'ній, сон I, со'начнік, со'нкі, со'нца, со'ўнешнік (со'нечнік), се'мянні'к *у 2 знач.*

---

* Матэрыялы для слоўніка падрыхтавалі: Г. А. Даўгяла, В. А. Ляшчынская, В. І. Мядзведзева, Т. С. Янкова.

САВЕ′ТКА *ж.* хустка *(фабрычная).* Саве′тка — просценькая беленькая хусцінка. Яна палажыла краяц хлеба ў саве′тку, завязала і дала пастушку. Яна была завязана саве′ткай (Дарашэвічы, Петр.).

САВО′К *м.* 1. шуфлік. Поўны саво′к быў залы (Мормаль, Жлоб.); Саўко′м бярэш зярно і кідаеш, тады палова застаецца (Бывалькі, Рэч.+ Неглюбка, Ветк.); 2. міска *(драўляная).* Калісь паставяць саво′к і ядуць з яго (Палессе, Чач.); Насып мукі ў саво′к (Юравічы, Калінк.); 3. мерка *(2 фунты).* Ён нам за ета ў канцэ дасць дзесяць саўко′ў зярна і будзь здароў (Ларышчава, Добр.).

СА′ВЫ *толькі мн., рэліг.,* свята *(зімой).* Усе са′вы токі снег воліў, нельга было з хаты вуйці (Бялёў, Жытк.); Са′вы ў нас пачці і не спраўляюць (Юравічы, Калінк).

САВЯ′К (САЎЯ′К) *м., бат.,* падасінавік. Савя′к — ўсё роўна, што падасінавік, краснагаловік (Беразнякі, Петр.); Некаторыя кажуць пудосіннік, а му дак саўя′к (Стадолічы, Лельч.); Саўякі′ у нас растуць у лозах (Баравое, Лельч.); Саўякі′ ляжаць, люба глянуць (Буйнавічы, Лельч.+Бялёў, Жытк.; Чэмернае, Маз.).

САГА′Н *м.* чыгун. Сага′н картопель стаяў на заслоне (Забінне, Петр.).

САГА′НІК *м., памянш.* да саган. Прынесі хуценько сага′нік (Грабаў, Петр.).

САГЛА′С *м.* згода. Быў ў хаце сагла′с. быў і парадак (Шырокі, Б.-Каш.); Без сагла′су й гаспадарку ні даглядзіш (Руднае, Дворышча, Хойн.); Пасля доўгіх спораў усе разышліся ў сагла′се (Н. Рута, Гом.).

САГЛА′СНА *прысл.* дружна, згодна. От і сагла′сна жывём з суседам (Стадолічы, Лельч.).

САГЛУМІ′ЦЬ *зак.* сапсаваць. Андрэева карова мне ўсё капусту саглумі′ла (Узнаж, Рэч.); Мне кохту саглумі′ла яна, трэба перашыць (М. Аўцюкі, Калінк.+Чалюшчавічы, Петр.).

САГНА′ЦЬ I *зак.* прапалоць, выкапаць *(рад).* Колькі ты радоў сагна′ла? (Мормаль, Жлоб.).

САГНА′ЦЬ II *зак., перан.* разбудзіць. Хацелі дзеўкі дзёрыкаў напеч і прасілі: «Зго′ніце нас уранку» (Бялёў, Жытк.).

САДАНУ′ЦЬ *зак.* стукнуць. Як садану′ насцаком бота (Кабанаўка, Жлоб.); Як садану′ў у той гвоздзік, аж тапор затупіўся (Быч, Карм.).

САДЖА′ЛЬНІЦА *ж.* сейбітка *(бульбы)*. Тая саджа′льніца з табой будзе працаваць (Дарашэвічы, Петр.); Калі хазяіна нема, дык будзеш і саджа′льніцай (Піркі, Браг.+Калінін, Пагоннае, Хойн.) У нас цяпер у калхозі мала саджа′льніц (Юравічы, Калінк.). *Парайн.* се′вальніца, се′янніца.

САДЗІ′БА **ж.** сядзіба. У яго была самая вялікая садзі′ба (Бялёў, Жытк). *Парайн.* са′дзьба, селішча *ў 2 знач.*

СА′ДЗЬБА *ж., тое, што* садзі′ба. У нас са′дзьба невялікая, але з нас хопіць (Бялёў, Жытк.). *Парайн.* се′лішча *ў 2 знач.*

САДНЕ′ЦЬ *незак.* шчымець, ныць. Яшчэ шычас ногі садне′юць (Быч. Карм.).

САДО′К І *м.* 1. *памянш. да* сад. Ідзі ў садо′к ды нарві груш (Запясочча, Жытк.); 2. кветнік. А ў садку′ ў яго такія кветкі (Каравацічы, Рэч.); Пасадзіла кветкі ў садку′, а яны прыйшлі і парвалі (Б.-Люшава, Б.-Каш.).

САДО′К ІІ *м.* камплект колаў *(для воза)*. Пазыч у суседа садо′к (Багуцічы), Ельск.). *Парайн.* ставо′к III.

САЖ *м.* хлеў *(невялікі)*. Загані гусей у саж (Хвойнае, Хойн.).

СА′ЖАНЬ (СА′ЖЭ′НЬ) *м. і ж.* 1. мера даўжыні *(2, 13 м)*. Ну а тры аршыны — гэта ўжо і будзе са′жань (Піркі, Браг.); Зрабіў пакос на са′жэнь (М. Аўцюкі, Калінк.); Я думала, ета вяроўка будзе са′жняў трынаццаць. а яна толькі дзесяць (Завайць, Нар.+М. Аўцюкі, Калінк:; Багданавічы, Карм.; Багуцічы, Ельск.; Гармавічы, Жлоб.; Ламавічы, Акц.; Ларышчава, Добр.; Марозавічы, Б.-Каш.; Насовічы, Добр.); Адмераў ён мне два са′жні зямлі (У. Буда, Добр.+Юравічы, Калінк.)//мера дроў. Налажылі са′жань дроў (Аравічы, Хойн.+Дубраўка, Ларышчава, Добр.; Піркі, Браг.; Стадолічы, Лельч.); 2. прылада для вымярэння. У брыгадзіра нашага, наверна, са′жань боляй, чым нада (Быч, Карм.); Чо ты бегаеш з са′жням па полі, як дурань (Норкаўшчына, Карм.+Алексічы, Хойн.; М. Аўцюкі, Калінк.; Дубраўка, Добр.; Марозавічы, Б.-Каш.; Хізы, Ветк.); Поле мераюць сажэ′нню (Багданавічы, Карм.). *Парайн.* кавы′лка.

САЗЯРО′Д *м.* азярод. Дзве нядзелі мае снапы сохнулі ў сазяро′дзі, а ўся радно нявысахлыя (Хутар, Светл.).

САКА′ *ж.* асака. Сака′ расце ў пожні. Сака′ — ета

высокая трава (Неглюбка, Ветк.)//сена. Саку′ ня хочуць каровы есьці (Неглюбка, Ветк.).

САКАЛЕ′ЦЬ *зак.* акалець, замерзнуць. Ты сакале′ў, лажысь спаць (Астроў, Раг.).

САКАЛІ′ЦА *ж., заал.* сакаліха. Сакалі′ца быстра летает. Кохці ў сакалі′цы бальшыя (Дубраўка, Добр.); Сокал адзін паляцеў на здабычу, сакалі′ца засталася ў гняздзе (Ямпаль, Рэч.). *Парайн.* сако′лка I.

САКАЛЯНЯ′ТКА *н., памянш. да* сакаляня. Сакаляня′тка — дзіцянё сокала (Насовічы, Добр.).

САКАТА′ЦЬ *незак.* 1. кудахтаць. Курыца сако′ча, несціся будзе (Ямпаль, Рэч. +Юравічы, Калінк.); Чуеш, як бусел сако′ча (Дуброўка, Добр.); 2) *перан.* гаварыць *(хутка).* Сако′ча языком, што курыца, і цяпер во ні дае гаварыць (Барталамееўка, Ветк.)//смяяцца. Такая смешная дзеўка: з нявошта сако′ча і сако′ча без упынку (Хальч, Гом.); Сако′ча на ўсю хату (Мормаль, Жлоб.+ +Бялёў, Жытк.; Н. Гута, Гом.).

САКАТУ′Н *м.* певень. Сакату′н з рання пачынае спяваць (Баравікі, Светл.).

САКЕ′РА (СОКЕ′РА, СОКІ′РА) *ж.* сякера. На дрывотні ляжыць саке′ра (Засінцы, Ельск.); Соке′ра ляжала под повэццю (Бялёў, Жытк.); Возьмі сокі′ру да поколі дровы (Дарашэвічы, Петр.+Аравічы, Хойн.; Баравікі, Светл.; Верасніца, Жытк.; Вуглы, Нар.; Запясочча, Жытк.; Заспа, Рэч.; Камаровічы, Петр.; Красная Ніва, Хойн.; Лужы, Жлоб.; М. Аўцюкі, Калінк.; Чырвоная Дуброва, Рэч.); Дровы сякуць саке′рай (Юравічы, Калінк.).

САКЕ′ЦЬ *незак.* сячы. Ляжэце, а нада було б дровы саке′ць (Хамінка, Лоеўск.). *Парайн.* се′каць, се′кці, се′кчы.

САКО′ЛІЦЬ *незак.* вышываць *(мярэжкай).* Канцы рушніка трэбо шчэ сако′ліць. Я сако′ліла кабат (Старажоўцы, Жытк.).

САКО′ЛКА I *ж., заал., тое, што* сакалі′ца. Паляцела сако′лка (Вуглы, Браг.+Насовічы, Добр.).

САКО′ЛКА II *ж.* мярэжка. У падушцы зробляна сако′лка з працягнутай ніткай. Сако′лка ўдалася прыгожай (Старажоўцы, Жытк.). *Парайн.* сако′льчык.

САКО′ЛКА III *ж.* майка. Я б купіў сабе сінюю сако′лку ды ўсе малыя (Шалухоўка, Ветк.); Ужо ў сако′лцы холадно хадзіць (Н.-Мазолаў, Жлоб.+Белы Параезд, Петр.; Сізаны, Ельск.).

САКО′ЛЬЧЫК *м., тое, што* сако′лка II. Ты б ражкі сако′льчыкам абрубіла (Каравацічы, Рэч.).

САКСУ′Н *м., заал.* качка *(дзікая)*. Саксуны′ толькі ў час пералётаў тут бываюць (Каранёўка, Гом.).

СА′ЛА *н.* тлушч *(гусіны)*. Гусінае са′ла вельмі добра прылажуваць да нарываў (Завайцы, Нар.); Нема ў мене зоўсім са′ла гусінага (М. Аўцюкі, Навінкі, Калінк.).

САЛАДУ′ХА I. *ж., кулін.* страва *(з запаранага квашанага цеста)*. Задзелала саладу′ху ды й сама не рада (Меркулавічы, Чач.); Саладу′ху затруць жытняй мукой, паставяць, і яна дзелаецца сладкай (Насовічы, Добр.); Калісь, як сахару ні было, дак толькі варылі ету саладу′ху (Неглюбка, Хізы, Ветк.+Дзям'янкі, Дуброўка. Уць, Добр.; Забалацце, Раг.; Залессе, Чач.; Запясочнае Лельч.; Калінічы, Нар.; Навінкі, Калінк.).

САЛАДУ′ХА (СОЛОДУ′ХА) II *ж.* груша. Саладу′ха — самая харошая груша. Прынясі, дзед, дзеўкам солоду′хі, хай бэлэзваюцца (Грушаўка, Нар.); Бацько прывез дзецям цэлы мех саладу′хі (Бялёў, Жытк.).

САЛАМА′ХА *ж., кулін.* страва. Мамо, навары салама′хі (Ломыш, Тульгавічы, Хойн.)//варэнне *(чарнічнае)*. Ваша салама′ха вельмі ўжо салодкая (Багуцічы, Ельск.).

САЛАМ'Ё *н.* дымаход. Без салам'я′ не будзе печы (Галаўчыцы, Нар.); Трэ сённі вучысціць салам'ё, а то ўсе чарніцай пузарыстала (Стадолічы, Лельч.).

САЛА′МКА *ж.* бульба *(вараная)*. Аццадзі сала′мку і патаўчы (Антонаўка, Добр.); *Парайн.* салёнка, сало′нікі, со′ланка (со′лінка, со′лянка).

САЛАМЯ′НІК (САЛО′МЕНІК, САЛО′МЕННІК) *м.* матрац. У мяне і цяпер е саламя′нік (Кірава, Браг.); Ганна сало′менік новы зрабіла (Белы Пераезд Петр.); У лаўцы ёсць сало′меннікі (Камаровічы, Петр.+Вуглы, Ельск.). *Парайн.* се′льнік (сенні′к *у 2 знач.*), сяня′нка.

САЛАМЯНО′ *н.* журавель *(калодзежа)*. Ганна ўзялася за саламяно′ і зачэрпнула вады (Асінаўка, Чач.). А тая папярочка, што зямлі дастае, як ваду цягнеш, саламяно′м завецца (Мяркулавічы, Чач.).

САЛАПА′ТЫ *прым., зняваж.* які высоўвае, высалапляе язык. Хіба ж без уродаў бывая? То салапа′ты, то дурны. У Дунькі ж дзеўка салапа′тая (Дуброўка, Добр.).

САЛАПА′ЙКА *аг., зняваж., перан.* разява, размазня. Тая салапа′йка як возьме рэшата, дык ніколі не прынясе (Заспа, Рэч.). *Парайн.* салапе′ка, салапя′ка.

САЛАПА′ЦЬ *незак., перан.* гарэць *(аб вялікім агні)*. Не кладзі болей дроў у печ, а то агонь і так салапа′е (Паганцы, Светл).

САЛАПЕ′КА *аг., зняваж., тое, што* салапа′йка. Салапе′ка пайшла (Улукаўе, Гом.). *Парайн.* салапя′ка.

САЛАПЯ′КА *аг., зняваж., тое,* што салапа′йка. У маёй сястры сын і вялікі ўжо, але дурны і салапя′ка сільны (Дарашэвічы, Петр.). *Парайн.* салапе′ка.

САЛЁНА *н.* малако *(да ацёла)*. Перад самым ацёлам завецца салёна, а пасля — малодзіва (Асінаўка, Чач.). *Парайн.* смала′ II, смаліна′, смо′лак, смо′лка.

САЛЁНІКІ *толькі мн.* грыбы *(соленыя)*. Мае салёнікі нешта пачалі плеснуць (Даманавічы, Калінк.+Стадолічы, Лельч.).

САЛЁНКА (САЛО′НКА) *ж., тое, што* сала′мка. На снеданне зварылі салёнку (Улукаўе, Гом.); На вячэру елі сало′нку (Капань, Рэч). *Парайн.* салёнкі, сало′нікі, со′ланка (со′лянка, со′лінка).

САЛЁНКІ *толькі мн., тое што* сала′мка. Высыпай салёнкі, будзем снедаць (Бабовічы, Гом.+Апанасаўка, Пакалюбічы, Гом.). *Парайн.* сало′нікі, со′ланка (со′лянка, со′лінка).

САЛО′НІКІ *толькі мн., тое, што* сала′мка. Я зварыла сало′нікі сёння (Піркі, Браг.); Звары сёння сало′нікаў (Аравічы, Хойн.); Заўтра я вам зраблю з кіслым малаком сало′нікаў (Піркі, Браг.+Заспа, Рэч.; Іванаўка, Хойн.; Кабанаўка, Жлоб.; Каменка, Маз.; Ломыш, Хойн.; Ровенская Слабада, Рэч.; Тульгавічы, Хойн.; Холмеч, Ямпаль, Рэч.). *Парайн.* салёнка. со′ланка (со′лянка, со′лінка).

САЛО′НЫ *прым.* салёны. От малако сало′нае ў маёй каровы (Дубраўка, Добр.).

САЛО′ХА *ж.* жанчына *(неахайная)*. Зноў мая сало′ха як вылезла, ні можна паглядзець (Мікулічы, Браг.). *Парайн.* самахня′.

САЛХВЕ′ТА *ж.* сурвэтка. Надзя вышыла салхве′ту красівую. Я чатыры салхве′ты звязала (Заходы, Рэч.+Загор'е, Чач.)//абрус. У хаці прыбралі дзеўкі, салхве′та на стале красівая (Пакалюбічы, Гом.).

САЛЬНІ′ЧКА *ж., памянш. да* сальні′ца. Наберы солі трошкі ў сальні′чку (Калінічы, Нар.).

САЛЬЦІСО′Н *м., кулін.* вантрабянка. Пячонку, сэрцэ, почкі ў чугун і атварваюць, тады пад гнёт і ў печ. Хоць

і год сальцісо′н той стаіць (Холмеч, Рэч.+Грабаў, Петр.; Паселіч, Хойн.; Хізы, Ветк.; Юравічы, Калінк.).

САМАВА′ЛКІ *толькі мн.* валёнкі *(самаробныя).* Самава′лкі цяплейшыя за куплёныя валёнкі (Бабовічы, Гом.+Вышамір, Рэч.).

САМАВЯ′З *м.* гальштук. То мо бачыла ў майго самавя′з (Бялёў, Жытк.).

САМАДУ′ЖКІ *толькі мн.* санкі. Сеў на самаду′жкі, накрыўся радзюжкай (Грушаўка, Нар.). *Параўн.* самату′жкі, самацяʼжкі, са′нькі.

САМАДУ′МКА *ж.* самагон. Самаду′мка чаго завуць? — А калі задумаў, то выціснуў (Быч. Карм.).

САМАЛУ′К *м.* гультай. Што ета за такі самалу′к вырас дак і не знаю! (Леніна, Хойн.).

САМАЛЮ′БЕЦ *м.* самалюбівы чалавек. Твой чалавек самалю′бец, бо ні з кім не здароваецца (Хільчыцы, Жытк.).

САМАПІ′СКА *ж.* аўтаручка. Купіў сын самапі′ску, а яна не піша добра (Шылавічы, Б.-Каш.+Віць, Хойн.); Скончылася ў самапі′сцы чарніла (Акцябрскі, Акц.).

САМАПЛА′ВАМ *прысл.* сваім ходам. Самапла′вам плылі, ніхто не правіў (Аравічы, Хойн.).

САМАРДЫ′КА *аг., асудж.* нягодніца. Сціхні, самарды′ка! (Баравікі, Светл.).

САМАРО′БКА *ж.* самаробак. Выкінь гэтую самаро′бку (Запясочча, Жытк.)..

САМАСА′Д *м.* самасей *(мак).* На градзе было шмат маку — самаса′ду (Карма, Добр.).

САМАСА′ДАК *м.* кураня, якое курыца выседзела тайна. Мая квахтуха самаса′дкаў вывела (Забалацце, Раг.). *Параўн.* самасе′дак, самасе′йка.

САМАСА′ДКА *ж.* квахтуха. Самаса′дкі — добрыя курачкі (Баравікі, Светл.). *Параўн.* самасе′дка, сядуха II.

САМАСЕ′ДАК *м. тое, што* самаса′дак. З гэтых самасе′дкаў самыя харошыя курчата выходзяць (Марозавічы, Б.-Каш.+Бабовічы, Гом.). *Параўн.* самасе′йка.

САМАСЕ′ДКА *ж., тое, што* самаса′дка. Наша кура — самасе′дка, выседзела куранят у суседнім агародзе (Халочча, Чач.+Дубраўка, Добр.; Хізы, Ветк.); Мо штук пяць самасе′дак учора агледзела (Багданавічы, Карм.+ +Дубраўка, Добр.; Неглюбка, Ветк.). *Параўн.* сяду′ха II.

САМАСЕ′ЙКА *ж.* 1. *тое, што* самаса′дак. У гэтым годзе ўсе кураняты ў мяне — самасе′йкі (Кароткавічы, Жлоб.); Сама курыца нанесла і вывела самасе′як (М. Аўцюкі, Калінк.); 2. пазашлюбнае дзіця. Ты мне самасе′йку ў падоле не прынясі (Піркі, Браг.).

САМАТУ′ЖКІ (САМАЦЮ′ЖКІ) *толькі мн., тое, што* самаду′жкі. Samaту′жкі ў нас не купляюць, самі робяць — самі цягаюць (Аравічы, Хойн.); Дровы я толькі і прыпасаю самату′жкамі (Злодзін, Маз.); Дзеці на самату′жках пясок возяць (Піркі, Браг.+Багуцічы, Ельск.; Баравікі, Светл.; Грушаўка, Нар.; Дубраўка, Добр.; Запясочнае, Маз.; Кажушкі, Хойн.); Дай мне свае самацю′жкі, цётка, прывесці мех (Стадолічы, Лельч.). *Парайн.* самаця′жкі са′нечкі, са′нькі.

САМАХВА′Л *аг., асудж.* хвалько. То ж баба — самахва′л: перад усімі хвастаецца, выхваляецца (Дубраўка, Добр.); Такога самахва′ла, як Сяргей, я не бачыла (Ларышчава, Добр.).

САМАХНЯ′ *ж., асудж., тое, што* сало′ха. Ой, самахня′ ты, куды пайшла (Баравікі, Светл.).

САМАХО′ДЫ *толькі мн.* басаножкі. Уступі ў самахо′ды, ды збегай цыбулькі нарві на агародзі (Вышамір, Рэч.).

САМАЦЯ′ЖКІ *толькі мн., тое, што* самаду′жкі. Налажыў я ета самаця′жкі дрывамі і пачаў паціху дабірацца да хаты (Быч., Карм.); На самаця′жках прывёз дроў (Палессе, Чач.). *Парайн.* самату′жкі (самацю′жкі), са′нечкі, са′нькі.

САМЕ′НТА (САМЕ′НТО) *прысл.* якраз. Ну, саме′нто я тобе поверу (Грушаўка Нар.).

САМЕ′НЬКІ *памянш. да* сам. Ой, я да вас саме′нькі прышоў (Грушаўка, Нар.).

САМО′К *м., памянш. да* сом. Рыбы не налавілі, адзін само′к паймаўся (Запясочча, Жытк.).

САМСЦІ′ЦЦА *зак.* адпомсціць. Ён хацеў самсці′цца (Лукі, Жлоб.).

САМУРА′Й *м.* 1. *перан.* дзіця *(гарэзлівае)*. Ціхо, самура′і, разбегаліся (Бялёў, Жытк.); 2. *перан.* насякомае *(шкоднае)*. Ось, самура′й, куды забраўся (Бялёў, Жытк.).

САМШЫ′ЦЬ *зак.* паставіць *(зруб на мох)*. Хлопцы самшы′лі баню (В. Нямкі, Ветк.).

САНА′ *ж., тое, што* савашні′к. Якая высокая сана′

парасла (Барталамееўка, Ветк). *Параўн.* сло′ній, сон I, со′начнік, со′нкі, со′нца, со′ўнешнік.

САНАПРА′ДКА *ж.* самапрадка. Санапра′дка стаяла каля печы (Ухоў, Ветк.); Пралі лён на санапра′дку (Насовічы, Добр.+Быч. Карм.; Неглюбка, Стаўбун, Хізы, Ветк.). *Параўн.* санапра′ха.

САНАПРА′ХА *ж., тое, што* санапра′дка. Дай-ка мне твае санапра′хі, іна добра цягне (Залессе, Чач.); Зрабіў мой Сцёпка калісь харошую санапра′ху (Загор'е, Чач.+Стаўбун, Ветк.).

СА′НЕЧКІ *толькі мн., памянш. да* санкі. Пастаўлю пад павеццю са′нечкі, аж німа — узяў хтось (Прудок, Калінк.).

СА′НКІ *толькі мн., перан.* ніжняя сківаца. Дужа баляць мае са′нкі — ніяк роту не разіну (В. Нямкі, Ветк.).

СА′НЬКІ *толькі мн., тое, што* самаду′жкі. Цімох на са′ньках муку прывёз (Грабава, Жытк.+М. Аўцюкі, Калінк.); Цэлы дзень коўзаўся б на са′ньках (Ламавічы, Акц.). *Параўн.* самату′жкі (самацю′жкі), самацяʹжкі.

САПА′ *ж.* матыка. Сапа′ — ета прылада для апрацоўкі зямлі (Стаўбун, Ветк.). *Параўн.* сапа′чка, са′пка, се′чка *ў 1 знач.*

САПАВА′ЦЬ *незак.* матычыць. Я буду сапава′ць бульбу (Дуброўка, Добр.); Бульбу сапу′ем, полем, а падрасце — апкапуем (Там жа).

СА′ПАВЕЦ *м.* сап. Са′павец бывае ў коней (Дарашэвічы, Петр.). *Параўн.* сапа′тка.

САПА′ТКА *ж., тое, што* са′павец. Ой, цяжкая хвароба сапа′тка (Забалоцце, Раг.).

САПА′ЧКА *ж. тое, што* сапа′. Возьмі сапа′чку да ограбі бульбу (Букча, Жытк.). *Параўн.* са′пка, се′чка *ў 1 знач.*

САПЕ′ТКА *ж.* 1. кош (*лазовы з двюма ручкамі*). Для пераноскі торфа ў руках рабілі сапе′тку. Натапчы поўную сапе′тку сена і дай карове. Сапе′ткай торх носяць, бульбу (Дубраўка, Добр.); 2. вулей. Раней дзелалі сапе′ткі з лазы і абмазывалі глінай (Карма, Добр.).

САПІ′ЛА *аг.* сапун. У яе мужык сапі′ла: сядзіць і сапе, а слова ні скажа (Дубраўка, Добр.).

САПІНА′ЦЬ *незак.* супыняць. Апяць нас у дарозе сапіна′юць (Грушаўка, Нар.).

СА′ПКА *ж., тое, што* сапа′. Са′пка такая вострая,

чуць нагу не парэзала (Насовічы, Добр.); Вазьму са′пку і на агарод падамся (Бялёў, Жытк.); Вазьмі са′пку і пасапуй буракі (Дубраўка, Добр.); Я поле са′пкай абрабляю (Малешава, Жытк.+Верасніца, Жытк.; Заходы, Рэч.). *Параўн.* сапа′чка, се′чка *ў 1 знач.*

САПЛО′Ш *прысл.* скрозь, падрад. Калісь у пост не елі мяса, а цяпер усё сапло′ш ідзець (Палессе, Чач.).

САПО′ЛІЦЬ *незак., неадабр.* рагатаць. Чаго вы ўсё врэмя сапо′ліця, німа з чаго тут (Крыўка, Раг.).

САПРЫ′ЧКА *ж., спец.* клін (*у навоі*). Сапры′чка — гэта невялікі клін (Піркі, Браг.+Нісімкавічы, Чач.; Сівенка, Ветк.).

САПУ′ХА *ж.* засланка. Мажа ўже сапу′ху трэба закрыць? (Піркі, Браг.).

САРАКА′ *толькі мн., рэліг.* 1. свята (*у пост*). Сарака′ — ета у памяць сарака′ мучэннікаў (Холмеч. Рэч.+ +Юравічы, Калінк.); На сарака′ дзецям арэлі вешалі (М. Аўцюкі, Калінк.); На сарака′ дзяўчаты ў скакалкі гуляюць (Аравічы, Хойн.+Ламавічы, Акц.; Ломыш, Хойн.). *Параўн.* саракі′; 2. памінкі (*праз сорак дзён пасля смерці*). У сарака′ адпраўляюць (Холмеч, Рэч.). *Параўн.* сарако′ўка IV, сарачы′ны.

САРАКАВУ′ШКА *ж.* лапаць (*на 40 вушкаў*). Хораша спляце — вось табе і саракаву′шка (Піркі, Браг.); Мар'я сплела хорошые саракаву′шкі (Стадолічы, Лельч.+Юравічы, Калінк.).

САРАКАЛЕ′ТКА *ж.* дзеўка-перастарак, векавуха. Во, Вольга Нікалаеўна—саракале′тка ў нас (Хізы, Ветк).

САРАКАПЫ′Т *м., заал.* саракуш. Гавораць, ёсць ужо ў лесе саракапы′ты (Кароткавічы, Жлоб.).

САРАКІ′ *толькі мн., тое, што* сарака *ў 1 знач.* Калі гэта ў нас саракі′ былі? Думала запішу, дай забылася (Дубрава, Беразнікі, Петр.).

САРАКО′ЎКА I *ж.* 1. дошка (*40 мм таўшчыні*). Када 40 мм, дак ета сарако′ўка (Халочча, Чач.+Бярозкі, Браг.; Багданавічы, Карм.; Грычынавічы, Жлоб.): 2. цвік (*40 мм даўжыні*). Спрытны гваздзік сарако′ўка (Піркі, Браг.); У мяне адны сарако′ўкі засталіся (Кароткавічы, Жлоб.); Ідзі ў лаўку і купі сарако′ўкі (Халочча. Чач.+Забалоцце, Раг.; М. Аўцюкі, Калінк.).

САРАКО′ЎКА II *ж.* лямпачка (*40 ват*). Купі сарако′ўку, бо ета згарэла (Янова, Ветк).

САРАКО′ЎКА III *ж.* бульба (*дробная*). У гэтым го-

дзе няма бульбы, адна саракоʹўка (Б.-Люшава, Б.-Каш.).

САРАКОʹЎКА IV *ж., тое, што* саракаʹ *ў 2 знач.* Па дзеду трэба правіць саракоʹўку (Баравікі, Светл.). *Парайн.* сарачыʹны.

САРАМЯʹЖЫ *прым.* сарамяжлівы. От хлопец сарамяʹжы (Стаўбун, Ветк.); Большы хлопчык у нас вельмі сарамяʹжы (Задпа, Рэч.+Вышалаў, Петр.); Ну, чаго ты такі сарамяʹжы? (Неглюбка, Ветк).

САРАНАʹ *ж.* 1. *заал.* саранча. Саранаʹ з'ядае дрэвы (Дарашэвічы, Петр.); 2. *перан., зборн.* дзятва. Напладзіў сараныʹ што б табе чорт! (Холмеч, Рэч.).

САРАПАʹН *м.* сарафан. Сарапаʹн у цябе прыгожы (Камаровічы, Петр.); Сарапа'н я табе купіла (Там жа).

САРАПУʹТА *ж.* сыракваша. Гарлач сарапуʹты паставіла аттапліваць у печ (Асінаўка, Чач.); На гуляння я сабраўся, штаны рабыя надзеў, сарапуʹты нахлебаўся і вісялей на жысць глядзеў (Палессе, Чач.); Сарапуʹту аддаю свінням (Асінаўка, Чач.). *Парайн.* скакуʹха II.

САРАЧЫʹНЫ *толькі мн., тое, што* саракаʹ *ў 2 знач.* Сарачыʹны — памінкі на саракавы дзень (Хутар, Светл.); Пазвалі жанчын, наварылі розных страў ды і сарачыʹны зрабілі (Баравікі, Светл.); А на сарачыʹны зноў людзей багато було (Баравое, Лельч.+Беразнікі, Петр.; Гармавічы, Жлоб.; Ломыш, Хойн.). *Парайн.* саракоʹўка IV.

САРВАʹЦЬ *зак., перан.* забраць. Калі б хто прыехаў да і сарваʹў яе адтуля (Аравічы, Хойн.).

САРДЭʹЧАНЬКА *ж., памянш. да* сэрца. Ой, баліць маё сардэʹчанька (Запясочча, Жытк).

САРОʹКА *ж., кулін.* аладка. Хіба ж у горадзе ў вас добрыя сароʹкі без печы? На газе не іспячэш (Бялёў, Жытк.); Замясіла цеста, зараз сароʹкі буду пекці (Там жа).

САРОʹЧАЧКА *ж., памянш. да* сарочка. Падай мне чыстую сароʹчачку, перадзену дзіця (Ч.-Буда, Добр.); Перамый яму сароʹчачку (Баравікі, Светл.); Сароʹчачкі маленькія такія, мякінькія (Р.-Барталамееўская, Чач.).

САРПАʹНКІ *толькі мн.* кужаль. Сарпаʹнкі будуць на сповівала (Верасніца, Жытк.).

САРТОʹЎКА *ж.* гатунак бульбы. Накінуліся былі на сартоʹўку, але цяпер зводжуюць, гніе штось (Быч, Карм.).

САРУ′ДАВАЦЬ *зак.* справіцца. Яна са сваёй пайкай аніяк ня сару′дая (Быч, Карм.).

САРУ′Н *м.* шарпак. Сару′н сёння не правальваецца (Неглюбка, Ветк.). *Парайн.* се′ран, се′рань, сяро′н.

САСНЯ′К *м.* сасоннік. Сасня′к расце асобенно дзе пяскі (Ламавічы, Акц.); Во′сь і прайшлі мы сасня′к малады, а вунь там стары (Бялёў, Жытк.); Хадзем у сасняк, дак хоць грыбоў прынясём (Пярэдзелка, Лоеўск).

САСО′ЛКА *ж.* лядзяк. Сасо′лкі звісаюць з стрэх (Броніца, Б.-Каш.). *Парайн.* сасю′ска.

САСЮ′СКА (САСУ′СКА) *ж., тое, што* сасо′лка. З страхі свешваюцца бальшыя сасю′скі (Бялёў, Жытк.); Бач, якія ледзяныя сасу′скі (Юравічы, Калінк.).

САТВАРЫ′ЦЬ *зак.* вытварыць. От сатвары′ў мой унук! (Дубраўка, Добр.).

САТКНУ′ЦЬ *зак.* абуць (*на босу ногу*). Я абуў сапог з парцянкай, а ён саткну′ў боты (Чалюшчавічы, Петр.).

САЎКА′ЦЦА *незак.* швэндацца. Муй чолавек усё утро саўка′ўся (Аравічы, Хойн.).

САЎКО′ТНІЦА *ж.* ягада (*цёртая*). От сходзім за малінай ды наробім увечары саўко′тніцы (Бялёў, Жытк.).

САЎМЕ′СНЫ *прым.* змешаны. Бяроза, алешына — то саўме′сны лес (Дарашэвічы, Петр.).

САЎРАМЯ′НКА (САЎРЭМЯ′НКА) *ж.* хата (*для часовага жылля*). Ганна ў саўрэмя′нцы жыла, пакуль свой дом не адрамантавала (Кароткавічы, Жлоб.).

СА′ЎЧА *м.* сват (*на вяселлі*). У нашай вёсцы бяруць са′ўчу не аднаго, а мо дзесяць (Бялёў, Жытк.).

САХА′ I. *ж.* саха. Аралі сахо′й землю (Насовічы, Добр.).

САХА′ II *ж.* шула, слуп. Добрыя, моцныя ж стаў сахі′ (Аравічы, Хойн.); Сахі′ станавіць нада ў гумне (Хізы, Ветк.+Пярэдзелка, Лоеўск.); 2. стоўб (*калодзежа-журайля*). Во ета тоўсты стоўб, на якім вочап, ета ў нас саха′ (Дубраўка, Добр.); Саху′ дзелалі дубоваю, каб доўга стаяла (Любань, Б.-Каш.); Журавель дзяржыцца на сахе′ (Аравічы, Хойн.+Быч. Карм.).

САХА′Р *м.* сахор. Вяроўка парвалася, саха′р сагнула (Ст. Буда, Б.-Каш.).

САХАРЫ′ЦЬ *незак.* цукраваць. Мы ўжэ сваю смародыну сахары′лі (Дзяржынск, Нар.).

САХАРЫ′ЦЦА *незак.* цукравацца. Цэлая ліпоўка мёду пачала сахарыцца (Пабеда, Ветк.).

САХА′ТЫ *м., заал.* лось. Ты бачыла, як сёння саха′ты хадзіў на гародзе? (Кароткавічы, Жлоб.); Такі прыгажэнны саха′ты прабег (Ручаёўка, Лоеўск.).

СА′ЧАК (СА′ЧЫК) *м.* сачок (*жаночае адзенне*). Цэж трэба, са′чык аблез ад сонца (Грушаўка, Нар.); Вось надзенеш гэты са′чак, дык будзеш прыгажэй (Глушкавічы, Маз.); Адзень са′чык, цяплей будзе (Заходы, Рэч.+Бялёў, Жытк.; Іванаўка, Хойн.; Ліхаўня, Нар.; Хвойнае, Хойн.).

САЧО′ЎКА I *ж.* шпулька. Сачо′ўка патрэбна, каб пераматаць ніткі з адной на другую (Баравікі, Светл.).

САЧО′ЎКА II *ж.* грэбень. Сачо′ўка — ета грэбень, што абдзіраюць лён (Ламавічы, Акц.).

САЧЫ′ЎКА *ж.* мука *(з бобу)*. Каржы з сачы′ўкі былі трохі пляўкаватымі (Баравікі, Светл.).

САЧЫ′ЦЬ *незак.* шукаць. Цэлы дзень сачы′ла я кнігу (Зарэчча, Жлоб.).

САША′ *ж.* шаша. Да сашы′ дабрацца б, а там да горада рукой падаць (Ямпаль, Рэч.); Да нас новую сашу′ вядуць (Н.-Мазолаў, Жлоб.); Сашу′ паклалі ў нас (Забалоцце, Раг.+Бабчын, Хойн.; В.-Нямкі, Ветк.); Па сашы′ дзень і ноч ішлі немцы (Запясочча, Жытк.+Антонаў, Ельск.; К.-Ніва, Хойн.; Н.-Гута, Гом.; Пакалюбічы, Гом.; Палессе, Чач.). *Парайн.* сашэ′йка.

САШКРО′БАК *м.* 1. хлябок *(з астаткаў цеста)*. Сашкрабі, будзе яшчэ сашкро′бак (Неглюбка, Ветк.); 2. *перан., іран.,жарт.* дзіця (*апошняе*). А, ведама, сашкро′бак! (Дубраўка, Добр.).

САШЫ′ЦЬ *зак.* сшыць. Устала ў досвітку, дак адзін рубец сашы′ла (Каравацічы, Рэч.).

САШЭ′ЙКА *ж., тое, што* саша′. От па сашэ′йцы каменай у нас ездзіць машын багата (Стадолічы, Лельч.).

САЯ′К *м.* спадніца *(суконная)*. Колісь мая матка саякі′ насіла (Бялёў, Жытк.). *Парайн.* сая′н.

САЯ′Н *м., тое, што* сая′к. У яе сая′н ляжаў некалькі год (Бялёў, Жытк.); Трэба надзець са′ян, а то на дворэ велікі вецер (Бярэзнікі, Жытк.); Купіла мацеры на новы сая′н (Слабодка, Ветк.); Ой, які красівы ў цябе сая′н (Шырокая, Б.-Каш.+Аголічы, Петр.; Асінаўка, Чач.)// сарафан. Надзяюць сіні сая′н (В. Нямкі, Ветк.).

СВАДЗЁБНІК *м.* удзельнік *(вяселля)*. Свадзёбнікі ўчаструюць у свадзьбі (Багуцічы, Ельск.).

СВАДЗЁБНЫ *прым.* вясельны. Свадзёбныя песні есць і сумныя, і вясёлыя (Чалюшчавічы, Ельск.).

СВАЛО′К (СВО′ЛАК) *м.* бэлька. Сламаўся свало′к у хлэві ўчора (Грушаўка, Нар.+Гарадзец, Раг.); Хіба такі сво′лак робяць? (Там жа).

СВАРЭ′КА *аг.* чалавек (*сварлівы*). Сварэ′ка паганая, яго ніхто не любе (Неглюбка, Ветк.).

СВАЯ′К *м.* 1. сваяк (*родны*). Ды ён мене далёкі свая′к (Марозавічы, Б.-Каш.); 2. швагер. Жду сваяка′, пашоў бы ў госці ўмесці (Неглюбка, Ветк.+У. Буда, Добр.); У нас швагры не кажуць, а сваякі′ (Баравікі, Светл.); Сваякі′ як саберуцца, дык бежы з дому (Холмеч, Рэч.+Марозавічы, Б.-Каш.; Неглюбка, Ветк.; Чацвярня, Жлоб.; У. Буда, Добр.). *Парайн.* сваякі′нь.

СВАЯКІ′НЬ *м., тое, што* свая′к *ў 2 знач.* Наш добры сваякі′нь (Неглюбка, Ветк.).

СВАЯКІ′НЯ *ж.* швагерка. Прыходжвае яго сваякі′ня, кажа, што дзецям нечага адзець (Быч, Карм.); Наша сваякі′ня добра жыве (Неглюбка, Ветк). *Парайн.* свая′чына, све′сць.

СВАЯ′ЧЫНА (СВАЯ′ЧЫНЯ) *ж., тое, што* сваякі′ня. Ета ты сваячы′на. сестрынаму мужыку (Дубраўка, Добр.); Сваячы′на ў нас была (Неглюбка, Ветк.+ +У. Буда, Добр.); Дома была сваячы′ня (Неглюбка, Ветк.). *Парайн.* све′сць.

СВЕ′ЖА *прысл.* вільготна, сыра. Пасля дожджу на вуліцы вельмі све′жа (М. Аўцюкі, Калінк.+Дзякавічы, Жытк.; Марозавічы, Б.-Каш.; Насовічы, Добр.; Ручаёўка, Лоеўск.).

СВЕЖЫНА′ (СВЯЖЫНА′) *ж.* свежаніна. Убілі парасёнка, вот і свежына′ (Неглюбка, Ветк.+Хізы, Ветк.; Холмеч, Рэч.); Хто уб'е кабана, заве суседзей на свяжыну′ (Дубраўка, Гом.). *Парайн.* свяжа′ціна.

СВЕ′РБ *м.* зудзенне. У яго быў све′рб (Марозавічы, Б.-Каш.+Забалацце, Раг.; М. Аўцюкі, Калінк.). *Парайн.* свярбе′нне, свярбо′та.

СВЕ′РДЛІЦЬ *незак.* свідраваць. Нашто ж ты тут све′рдліш дзірку, слуп стары? (Неглюбка, Ветк.); Вазьмі свердзел, дай све′рдлі дырку (Хізы, Ветк.); Хлопцы ў сцене све′рдлілі дзірку (Р. Шлягіна, Ветк.).

СВЕ′РДЛІК *м.,* памянш. да свердзел. Ты не браў майго сверділка? (Задуб'е, Раг.).

СВЕ′СЦЬ (СВЕ′СЬ) *ж., тое, што* сваякі′ня. Све′сць

прыходзіла ў госці (Піркі, Браг.); Погукай све′сць у госты (Грушаўка, Нар.); У маей све′сці сын пашоў у армію (Краўцоўка, Гом.+Аравічы, Хойн.); Мой сын на жончыну сестру све′сць кажэ (Стадолічы, Лельч.); У мяне све′сь — разлучніца (Ламавічы, Акц.). *Параўн.* свая′чына.

СВІДЗІ′ЛЬНІК *м.,* бат. кізільнік. Свідзі′льнік красівы вельмі. Распускаецца красненькім цветам, вочкі ў ём чорненькія пасярод (Гармавічы, Жлоб.). *Параўн.* свідзіна′.

СВІДЗІНА′ *ж., бат., тое, што* свідзі′льнік. У свідзіны′ прыгожыя кветкі (Пагост, Жытк.).

СВЕ′ДЗЕР *м.* світэр. Све′дзер зусім ужо парваўся (Грабава, Жытк.); Стары све′дзер адзеў ба (Малешаво Жытк.); Вон ходзіш ў одном све′дзеры (Грычынавічы, Жытк.).

СВІ′ДРЫК *м., памянш. да* све′дзер. Адзела сві′дрык, і цяплей стала (Белы Пераезд, Петр.).

СВІЗІ′НА *ж., бат.* куст. Свізі′на расце ў лузе. На ёй чырвоныя ягадкі, як ражэчкі (Чалюшчавічы, Петр.).

СВІНАВА′ТЫ *прым., неадабр.* хамаваты. Яна была такая свінава′тая (Быч, Карм.).

, СВІНАКРО′П *м., бат.* драсён. Свінакро′п — трава такая дробная. Горкі ён. Вон у мяне ў бульбе сколькі хочаш свінакро′пу (Хізы, Ветк.+Ламавічы, Акц.; Юравічы, Калінк.); Свінакро′п добра худоба есць (Марозавічы, Б.-Каш.); Свінакро′п у просе больш расце (Пярэдзелка, Лоеўск.+Стадолічы, Лельч.); Свінакро′п — тако зелле, яно проста так на полі расцець, нікуды яго ня рвуць (Р. Бурыцкая, Лоеўск.+Баравікі, Светл.; Неглюбка, Ветк.; Падворак, Лельч.).

СВІНАПА′С *м.* пастух (*свіней*). Рыгор пашоў у саўхоз свінапа′сам, хай трохі папрацуя (Неглюбка, Ветк.).

СВІНА′РКІ *толькі мн., бат.* грыбы. Свіна′ркі — ета грыбы жаўтаватыя, тоўстыя. Іх ядзяць (Каравацічы, Рэч.); Свіна′ркі, як сыраежкі, тоўстыя, крэпкія, сівыя (Баравікі, Светл.); Я чуць была не атравілася свіна′рками (Даманавічы, Калінк.+Бялёў, Жытк.; Пярэдзелка, Лоеўск.). *Параўн.* сві′нкі, свіну′хі, свіну′шкі.

СВІНЯ′ЧЫКІ *толькі мн.* бульба (*дробная, для свіней*). У мяне цяпер плохія картоплі ўродзілі, адныя свіня′чыкі (Бярэзнікі, Жытк.).

СВІ′НКІ *толькі мн., бат., тое, што* свіна′ркі. Сві′нкі

чыстыя, ні чарвівыя (Гарадзец, Раг.); Сві′нкі растуць бальшыя (Дубраўка, Добр.+Беразнякі, Петр.; Ліпнякі, Лоеўск.; Неглюбка, Хізы, Ветк.). *Парайн.* сві′нні, свіну′хі, свіну′шкі.

СВІ′ННІ *толькі мн., бат., тое, што* свіна′ркі. Сві′нні да рыжакаў пахожы (Забалоцце, Раг.+Быч Карм.; Забалоцце, Б.-Каш.); Мой зяць адных сві′нней прынёс, здаровых! (Дубраўка, Добр.). *Парайн.* сві′нкі, свіну′хі, свіну′шкі.

СВІННЯ′ I *ж., заал.* жывёла (*дамашняя*). Свінню′ ў хлеў загані (Быч, Карм.).

СВІННЯ′ II *ж., перан.* скляпенне (*у печы*). Верхняя частка ў печы — ета ж і есць свіння′ (Хізы, Ветк.); Выlажыць галоўнае свінню′ (Маркавічы, Гом.+Бабовічы, Гом.; Балсуны, Ветк.); Нам ужо склалі свінню′, скора зробяць усю печку (Балсуны, Ветк.).

СВІНО′ШНІК *м.* свінушнік. У дварэ дак што ў свіно′шніку (Бывалкі, Рэч.).

СВІНТУ′Х *м., перан., асудж.* свіння′. Ой, свінту′х расце ў Цішка: ідзе па вуліцы і ніколі не паздароўкаецца (Замошша, Жытк.).

СВІНУ′ХА *ж., бат.* баркун. Свіну′ху даюць сінням як лякарство (Бялёў, Жытк.).

СВІНУ′ХІ *толькі мн., бат., тое, што* свіна′ркі. Уздоўж дарогі раслі свіну′хі (Пабеда, Ветк.). *Парайн.* сві′нкі, сві′нні, свіну′шкі.

СВІНУ′ШКІ *толькі мн., бат., тое, што* свіна′ркі. Свіну′шкі я і за грыбы не лічу (Каранёўка, Гом.); Не бяры ты етых свіну′шак, хваця і падасінавікаў (Халочча, Чач.). *Парайн.* сві′нкі, сві′нні, свіну′хі.

СВІНЧА′ *н., заал.* парася. Свінча′ ў мяне ладное ўжо вырасла (Лядцы, Светл.); Сёння свінча′ купіла (Юравічы, Калінк.).

СВІНЧА′ТКА (СВІНЧА′ТКО) *н., заал., памянш да* свінча′. Здалі адно свінча′тко, друго здалі (Аравічы, Хойн.).

СВІ′РАНЬ *м.* свіран. Восенню наш сві′рань повен збожжа. Сві′рань — месца захавання вулляў зімой (Багуцічы, Ельск.).

СВІРО′ЛА *ж.* свістулька (самаробная). Сві́ро′лы з жыта робяць (Піркі, Браг.).

СВІРЫ′ЦЬ *незак.* гарэць (*ледзь-ледзь*). Лампа ледзь свіры′ць (Забалоцце, Раг.).

СВІСТАПЛЯ'СКА *аг., неадабр.* абыякавы чалавек. Вунь пайшоў свістапля'ска (Дубраўка, Добр.).

СВІСЦЁЛКА *ж.* свісток. Вылепяць з гліны свісцёлку і мальцам даюць (Забалоцце, Раг.).

СВІТАЯ'ННІК *м., бат.* зверабой. Світая'ннік добра сушыць, калі цвіцець (Марозавічы, Б.-Каш.).

СВІЦЕ'ЛЬ *м.* каганец. Свіце'ль ні гарыць, німа карасіну (Р. Шлягіна, Ветк.).

СВІЯ'ЗЬ *аг., заал.* дзікая качка. Ужо прыляцелі свіязі' (Бялёў, Жытк.).

СВОД *м.* вусце. Дзве рачушкі цяклі радам, а сво'ду не было (Івакі, Добр.).

СВОЙ *м.* сувой. Які цяжкі свой (Грычынавічы, Жытк.)//палатно. Беленькі еты свой, як снег (Сялюцічы, Петр.).

СВЯЖА'ЦІНА *ж., тое, што* свежына'. Свяжа'ціны наклалі цэлую бочку (Бабовічы, Гом.).

СВЯЖЫ'ЦЦА *незак.* канаць. Як горла прарэжаш, дак ён доўга не свяжы'цца (Быч, Карм.).

СВЯЗНЫ' *прым., будаўн.* сувязны (*пра бервяно*). Над прасценкамі кладзецца связно'е бервяно (Р. Шлягіна, Ветк.).

СВЯЗЬ *м., будаўн.* месца стыку бярвенняў. Бярвенні, з якіх кладзецца связь, згнілі (Багуцічы, Ельск.).

СВЯКО'Р *м.* свёкар. Свяко'р учора п'яны быў (Чацвярня, Жлоб.).

СВЯКРО'ЎНА *ж.* свякроў. Не ўзлюбіла мяне свякро'ўна з першага дня (Піркі, Браг.).

СВЯРБЕ'ННЕ *н., тое, што* сверб. Свярбе'нне не давала яму пакоя (Марозавічы, Б.-Каш.); Рана гоіцца, але страшнэ свярбе'нне (Няяслоў, Петр.+Бабовічы, Гом.; Пярэдзелка, Лоеўск.). *Парайн.* свярбо'та.

СВЯРБО'ТА *ж., тое, што* сверб. Ой, штосьці свярбо'та напала (Забалоцце, Раг.). *Парайн.* свярбе'нне.

СВЯРБУ'ЧКА *ж.* кароста. Ужэ свярбу'чкі дастаў (Дубраўка, Добр.). *Парайн.* свярбя'чка.

СВЯРБЯ'ЧКА *ж., тое, што* свярбу'чка. Высыпала свярбя'чка (Грушаўка, Нар.+М. Аўцюкі, Калінк.).

СВЯРДЗЁНІКІ *толькі мн., кулін.* пельмені. Маша, падай нам свярдзёнікі на стол (Горваль, Рэч.).

СВЯРДЛЁЎКА *ж.,* сажалка. Пайшлі дамоў, ды пагоніш гусей на свярдлёўку (Глінішча, Хойн.).

СВЯ′СЛА *ж.,* звязак. Я надраў аж пяць свя′слаў лазы (Баравікі, Светл.).

СВЯЦЕ′ЛЬНІЦА *ж.,* абрад. дружка (*з боку жаніха*). Свяце′льніца выбіралася з сясцёр родных, а хоць дваюрадных (Быч, Карм.). *Парайн.* свяцёлка, свяці′лка.

СВЯЦЁЛКА *ж., тое, што* свяце′льніца. Разам з маладымі сядзіць свяцёлка (Дуброва, Петр.). *Парайн.* свяці′лка.

СВЯЦІ′ЛКА *ж., тое, што* свяце′льніца. Свяці′лка — ета сястра жаніха ў час вяселля, сядзіць на куту пад божніцай з свячой (Усоха-Буда, Добр.); Свяці′лка на куце сядзіць і свечкі дзяржыць (Рагі-Імеркі, Гом.+ +Дубраўка, Добр.; Зялёныя Лукі, Гом.; М. Аўцюкі, Калінк.; Махновічы, Маз.). *Парайн.* свяцёлка.

СВЯЧА′К *м.* лучнік. Над свечако′м уся столь была закопчана (Холмеч, Рэч.).

СЕ *указ. часц.* *гэта.* А се ўже як началісь саўхозы і калхозы, жыву здзесь (Глухавічы, Браг.).

СЕ′БРУЧКА *ж.* саперніца. У се′бручкі его адбіла (Піркі, Браг.).

СЕ′ВАЛКА *ж.* кораб. Се′валка на рушнік і цераз плячо, жыта сеялі і мералі (Дубраўка, Добр.). *Парайн.* се′ўнік.

СЕ′ВАЛЬНІЦА *ж., тое, што* саджа′льніца. Се′вальніцы сабраліся, а трактара няма (Неглюбка, Ветк.). *Парайн.* се′янніца.

СЕ′ВЕР *м.* вецер (*халодны*). Падуў се′вер (Насовічы, Добр.). *Парайн.* сі′вер *у 1 знач.,* сі′верка.

СЕ′ДАЛА *н.,* перан. месца сядзення (*рыбалова*). Пайшоў на сваё се′дала (Баравікі, Светл.+Ломыш, Хойн.).

СЕ′ДАЧКА I *ж., памянш. да* се′дка I. Се′дачка сёдні ўстала, нада накарміць, а то яечкі пастынуць (Марозавічы, Б.-Каш.).

СЕ′ДАЧКА II *ж., памянш да* се′дка II. У мяне многа се′дачкі (Стаўбун, Ветк.).

СЕ′ДЗЕНЬ *н.* 1. дзіця, якое не ходзіць. Во ўжо сядзіць, як се′дзень які, ні ходзя (Хізы, Ветк.+Холмеч, Рэч.); Ногі крывыя былі не хадзіў доўго, се′днем звалі (Хізы, Ветк.); Гавораць, што тры гады сядзіць у се′днях (Бабовічы, Гом.); 2. *перан.* чалавек невысокага росту. Гэта недаростак, се′дзень (Неглюбка, Ветк.). *Парайн.* сяду′н.

СЕ′ДКА I *ж. квахтуха.* Се′дку я ўжо не садзіла, яна сама вывела (Мрозавічы, Б.-Каш.).

СЕ′ДКА II *ж.* фасоля (*якая не ўецца*). Мы кручанку пачці не садзім, а больш се′дку (Марозавічы, Б.-Каш.).

СЕ′ЙНІЦА *ж.* сеяльшчыца (*мукі*). А се′йніца была здалёку (Марозавічы, Б.-Каш.); Се′йніцы даўней былі (Неглюбка, Ветк.+Кароткавічы, Жлоб.).

СЕ′КАЦЬ *незак., тое, што* саке′ць. Мы сёння се′калі з бацькам дровы (Бялёў, Жытк.). *Параўн.* се′кці се′кчы.

СЕ′КЦІ *незак., тое, што* саке′ць. Дык раней жа лес панскі быў, дак і забаранялі нам яго се′кці (М. Аўцюкі, Калінк.+Іванаўка, Хойн.); Пайду заўтра се′кці лес на хату (Завайць, Жытк.+Багуцічы, Ельск.; Баравікі, Светл.); Не здолею ўжо і бульбу се′кці (Меркулавічы, Чач.+М. Аўцюкі, Калінк.; Марозавічы, Б.-Каш.); З самага начала зімы нада було се′кці сечку карові (Пагоннае, Хойн.). *Параўн.* се′каць, се′кчы.

СЕ′КЧЫ *незак., тое, што* саке′ць. Дровы так у печ не засунеш: іх трэба се′кчы тапаром (Марозавічы, Б.-Каш.); А ты не гулёў бы, а пайшоў бы да дровы се′к (М. Аўцюкі, Калінк.+Заспа, Рэч.); Трэба бульбу се′кчы (Заспа, Рэч.). *Параўн.* се′каць, се′кці.

СЕ′ЛЕГ (СЕ′ЛЕК) *м., заал.* качар. Яна вутка, а ён се′лег (Ручаёўка, Лоеўск.); Гэтай вясной ліса задушыла нашага се′лека (Грушаўка, Нар.).

СЕ′ЛІШЧА *н.* 1. сельбішча. Прышлі немцы на се′лішча і забралі коней (Грушаўка, Нар.); Мой муж буў з гэтага се′лішча, а я суседняго (Бялёў, Жытк.); 2. *тое, што* садзі′ба. Се′лішча колісь было ў нас вялікае (Крупка, Маз.+Багуцічы, Ельск.); Няхай тваё се′лішча запустуе да травой зарасце (Антонаў, Ельск.+Аравічы, Хойн.; Бялёў, Жытк.; Вуглы, Нар.; Запясочнае, Жытк.); Такое се′лішча засталося (Ломыш, Гом.+Н. Гута, Гом.; Паганцы, Светл.); На том самом се′лішчы становім хату (Чалюшчавічы, Петр.). *Параўн.* садзьба.

СЕ′ЛЬНІК (СЯЛЬНІ′К) *м., тое, што* саламя′нік. Беры, донька, сена да набі се′льнік (М. Аўцюкі, Калінк.+ +Лучыцы, Чалюшчавічы, Петр.); У хаце пабялю, усё перамую і сяльні′к новы напухаю (Каменка, Маз.); Не блага на сяльніку′ спаць, калі шчэ сена свежае, ды яшчэ пахне! (Рафалаў, Браг.+Бялёў, Жытк.); К праздніку набівалі сяльнікі′ саломай (Пачанцы, Светл.+ Ламавічы Акц.); Трэбаісці напхаць сяльнікі′ ці сенам

ці саломай (Юравічы, Калінк.); Калісь спалі на сяльніка′х (Копань, Рэч.+Багуцічы, Ельск.). *Параўн.* сеня′нка, се′ннік *у 2 знач.*

СЕЛЯДЦО′ЎКА *ж.* бочка (*ад селядцоў*). Селядцо′ўка — ета бочка з-пад селядцоў (Хізы, Ветк.).

СЕ′МАКА *ж.* зернетка (*гарбуза*). Ой, се′мака пустая! Нада се′макаў аставіць на насенне (Пабеда, Ветк.). *Параўн.* се′мачка, се′мка.

СЕ′МАЧКА *ж., тое, што* се′мака. На скавародзе паджарывалісь се′мачкі (Пагоннае, Хойн.). *Параўн.* се′мка.

СЕ′МКА *ж., тое, што* се′мака. Ой, смашныя се′мкі, як паджарыш (Хізы, Ветк.); Бабы вечарам се′мкі лускаюць (М. Аўцюкі, Калінк.+Багданавічы, Карм.; Баравікі, Светл.; Гармавічы, Жлоб.); Чагось се′мак хочацца (Ст. Буда, Б.-Каш.+Ліцвінавічы, Карм.; Стаўбун, Ветк.); Ну, дай мне се′мак хоць жменьку (Халочча, Чач.+Пярэдзелка, Лоеўск.). **Параўн.** се′мачка.

СЕ′М'Е (СЕ′М'Я) *н., зборн.* 1 семя. Цяпер се′м'я не трэба, алей е ў магазінах (Бывальскі, Рэч.+Насовічы, Добр.); З се′м'я наб'ем алей (Верасніца, Жытк.+Калінін, Хойн.); Дзеці на печы забаўлялісь се′м'ем (Пагоннае, Хойн.); 2. масла. У яе стаяў цэлы бутыль се′м'я (Бялёў, Жытк.).

СЕМНА′ЦЦАТКА (СЯМНА′ЦЦАТКА) *ж., перан.* жанчына (*маладжавая*). Насця яшчэ сямна′ццаткай выглядае (Асінаўка, Светл.+Зарэчча, Жлоб.).

СЕ′МЯННІ′К *м., бат.* 1. агурок (*насеннік*). Із семянніка′ выбірай семяно (Дубраўка, Добр.); А я багата ні астаўляла, ўсяго чатыры се′меннікі (Н. Дуброва, Акц.); Нада сабраць се′мяннікі (Барталамееўка, Ветк.)//дрэва (насеннікавае). У Бежкаве вырашылі мы пакінуць пяць семяннікоў клёну (Баравікі, Светл.+Ручаёўка, Лоеўск.); Гэтыя сосны на семянні′к пакінем, а сухастой вырубім (Бялёў, Жытк.); 2. *тое, што* савашні′к. Якія ў гэтым годзе высокія семяннікі′ (Ветка Ветк.). *Параўн.* сана′, сл′оній, сон I, со′начнік, со′нца, со′ўнешнік (со′нечнік).

СЕМЯННІ′ЦА *ж.* бульба (*насеннікавая*). Толькі ж не кідай семянні′цы, яна будзе скора гнісці (Ст. Буда, Б.-Каш.).

СЕМЯНО′ *н.* насенне. Пагарэў сёлета лён, да семяно′ не такое, як трэба (Ст. Буда, Б.-Каш.); На семяно′ самоё отборное астаўлял зерно (М. Аўцюкі, Калінк.); На семяно′ захаваем, а астачу памелем (Бывалькі, Рэч.);

Адбіраюць на семяно′ і ў засекі сыплюць (Баравікі, Светл.+Астрагляды, Браг.; Гармавічы, Жлоб.); А хто яго забірае, тое семяно′? (Хізы, Ветк.).

СЕНАРЭ′ЗКА *ж.* сячкарня. Сенарэ′зкай рэжуць сена і салому на рэз (Багданавічы, Карм.).

СЕ′НАЧ *прысл.* сёння *(ноччу)*. У мяне се′нач падваротніцу хтосьці ўкраў (Крыўск. Б.-Каш.).

СЕ′ННІК (СЯННІ′К) *м.* 1. пуня. Я цэлы се′ннік нацягала сена (Жгунь, Добр.+Займішча, Добр.); Вот у мяне сянніка′ нету, я сена ў стог складаю (Дубраўка, Добр.); Як поўны сянні′к натопчаш сена, дык карове на зіму хватае (Марозавічы, Б.-Каш.); Трэба ўжо скласці сена ў сянні′к (К. Балсуны, Ветк.); На раз засталося толькі сена ў сянніку′ (Піркі, Браг.). *Парайн.* сяльні′к; 2. *тое, што* саламя′нік. Раней на кравацях толькі і булі сеннікі′ (Чалюшчавічы, Петр.). *Парайн.* се′льнік (сяльні′к), сяня′нка.

СЕННІЧО′К *м., памянш. да* сеннік *у 2 знач.* Ой, пуд табой жа сеннічо′к мокры (Юравічы, Калінк.).

СЕ′ПАЦЬ *незак., экспрэс.* злаваць. Чаго ты се′паеш? (Навасёлкі, Хойн.).

СЕРАДАВІ′НА *ж.* сярэдзіна *(вёскі)*. На серадаві′не жыве мая дачка з зяцем (Амелькаўшчына, Хойн.+ +Стаўбун, Ветк.).

СЕРАДАПО′СЦЕ (СЕРАДАПО′СЦЯ). *н., абрад.* сярэдзіна посту. У сераду чацвёртай нядзелі вялікага посту серадапо′сце (Дарашэвічы, Петр.+Бялёў, Жытк.; Дубраўка, Добр.; Чалюшчавічы, Петр.); Серадапо′сця — палова посту (Ломыш, Хойн.+Стадолічы, Лельч.).

СЕРАДКО′ВЫ *прым.* сярэдні. Серадко′вая дошка выпіленая з сярэдзіны бервяна (У. Буда, Добр.). *Парайн.* серадо′льшы.

СЕРАДО′ЛЬШЫ *прым., тое, што* серадко′вы. Мой серадо′льшы сын ужо ў дзесятым класе (Сяўкі, Лоеўск.+Грушаўка, Нар.); Серадо′льшага ў армію забралі (Кавалі, Акц.+Велін, Рэч.; Піркі, Браг.); Я твайго серадо′льшага сёння ў Мозыры бачыў (Юравічы, Калінк.); Серадо′льшую дачку замуж выдала (Узнаж, Светл.+ +Заспа, Рэч.; Краўцоўка, Гом.; Прудок, Калінк.).

СЕ′РАН *м., тое, што* сару′н. Снег засераніла, па се′рану цяпер напрамкі хадзіць можна (Холмеч, Рэч.). *Парайн.* се′рань, сяро′н.

СЕРАНО′К (СІРАНО′К) *м., памянш. да* се′ран. Се-

рано′к бывая вясной пасля замаразкаў (Баравікі, Светл.); Харошая дарога да Рудні — усё ўрэмя сірано′к (Палессе, Чач.).

СЕРАНУ′ХА *ж., заал.* змяя. Серану′ха жарая, бліскучая, быццам медная (Марозавічы, Б.-Каш.).

СЕ′РАНЬ *м., тое, што* сару′н. Сразу выпаў снег,— і ўжо се′рань (Піркі, Браг.). *Параўн.* се′ран, сяро′н.

СЕРАЎНО′ *прысл.* усё роўна. Сераўно′ будзе па-моймy (Грычынавічы, Жытк.).

СЕРБІЯ′НКА (СІРБІЯ′НКА) *ж.* танец. Сербія′нку тожа танцавалі з прыпеўкамі (Юравічы, Калінк.); Вой, як я люблю сірбія′нку танцаваць (Зарэчча, Жлоб.).

СЕРПАЕ′ЖНІК *м., бат.* крываўнік. Ад гэтай хваробы серпае′жнік добра (Бялёў, Жытк.). *Параўн.* серпарэ′жнік, серпарэ′з, серпарэ′знік *у 1 знач.*

СЕРПАРЭ′ЖНІК *м., бат., тое, што* серпае′жнік. Расце па межах, закапываюць рану, каб не шла кроў — вось што серпарэ′жнік (Забалоцце, Раг.). *Параўн.* серпарэ′з, серпарэ′знік *у 1 знач.*

СЕРПАРЭ′З *м., бат., тое, што* серпае′жнік Серпарэ′з добра кроў астанаўлюе. Як кроў ідзе, дак патры лісцік серпарэ′зу (Дуброўка, Добр.). *Параўн.* серпарэ′жнік, серпарэ′знік *у 1 знач.*

СЕРПАРЭ′ЗНІК (СІРПАРЭ′ЗНІК, СЯРПАРЭ′ЗНІК) *м., бат.* 1. *тое, што* серпае′жнік. Серпарэ′знік — лячэбная трава (Юравічы, Калінк.); На полі рос серпарэ′знік (Неглюбка, Ветк.+Бялёў, Жытк.); Сірпарэ′знік каровы ні едуць (Марозавічы, Б.-Каш.+Аравічы, Хойн.); Атарві сярпарэ′зніку да прыкладзі, кроў і пярастаня (Р. Бурыцкая, Лоеўск.+Саўгасная, Б.-Каш.; Холмеч, Рэч.). *Параўн.* серпарэ′жнік, серпарэ′з; 2. *тое, што* сака′. Серпарэ′знік ля вады расце, бывала, як пойдзіш на рэчку, усе ногі парэжыш (Хізы, Ветк.); Рвала траву ды серпарэ′знікам руку парэзала (Халочча, Чач.).

СЕРЦАВІ′НА *ж.* стрыжань. Давай серцаві′ну выкінем, гнілая (Хізы, Ветк.+Р. Бурыцкая, Лоеўск.).

СЕ′СТРУХНА *ж.* сястра *(дваюрадная)*. Проходзь, проходзь, се′струхна (Мілашэвічы, Лельч.).

СЕСТРЫ′ЧНА *ж.* пляменніца. Жыву я с сестры′чною, бо сестра моя, царство ёй небесное, померла (В. Бярэзнікі, Жытк.).

СЕСТРЫ′ЧЫ′Ч *м.* пляменнік. Мой сестры′чыч вельмі вучоны (В. Бярэзнікі, Жытк.).

СЕ′ЎНІК *м., тое, што* се′валка. Се′ўнік беры і пайшлі (Грабава, Жытк.+В. Бярэзнікі, Жытк.).

СЕ′ЧАНКА *ж.* сечка *(з сена, саломы)*. Зімой се′чанку парэм і карові даем (Чалюшчавічы, Петр.).

СЕ′ЧАНЬ (СЕ′ЧЕНЬ) *ж.* 1. сечка *(з буракоў, капусты)*. Прыгатовіць нада се′чані свінням (Р. Бурыцкая, Лоеўск.); 2. капуста *(квашаная)*. Пашаткуюць капусту, укісне яна, от і се′чень называюць (Аравічы, Хойн.).

СЕ′ЧКА *ж.* 1 *тое, што* сапа′. Зрабі ты мне се′чку, а то бульбу ўжо час палоць (Ветка, Ветк.). *Параўн.* сапа′чка, са′пка; 2. зубіла. У інструменталцы ніводнай се′чкі (Вуглы, Ельск.).

СЕ′ЯННІК *м.* сейбіт *(бульбы)*. Пойдзеш ка мне се′яннікам? (Холмеч, Рэч.). *Параўн.* се′яншчык, сяве′ц, сяво′к I, сяўба′к, сяўбе′ц, сяўбі′к, сяўбі′т, сяўшчы′к.

СЕ′ЯННІЦА *ж., тое, што* саджа′льніца. Сёдні ў мяне саджалі шэсць се′янніц (Забалоцце, Раг.+Калінін, Б.-Каш.). *Параўн.* се′вальніца.

СЕ′ЯНШЧЫК *м., тое, што* се′яннік. Там се′яншчыкі стаялі (Дарашэвічы, Петр.). *Параўн.* сяве′ц, сяво′к I, сяўба′к, сяўбе′ц, сяўбі′к, сяўбі′т, сяўшчы′к.

СЁДНІ *прысл.* сёння. Сёдні хадзіла ў магазін, казалі, рыбу прывязуць (Хізы, Ветк.); Ну, глядзі, хоць сёдні скажы (Заходы, Рэч.+Неглюбка, Ветк.).

СЁЛЕТАК *м.* конь *(аднагадовы)*. За сёлеткам тожа нада глядзець, а то кабылы няма (Залессе, Чач.).

СЁЛЕТКА (СЁЛЯТКА) *аг.* цяля *(аднагадовае)*. Пакуль із той сёляткі кароўку выгадуеш (В. Нямкі, Ветк.).

СЁННЯ *прысл.* сяголета. Сёння мне споўніцца дваццаць год (Бялёў, Жытк.+Дарашэвічы, Петр.); У тым годзе добры быў ураджай, а сёння нічога не будзе (Бялёў, Жытк.).

СІВАДРА′КА *ж., заал.* удод. Сівадра′ка паляцела (Грушаўка, Нар.); Шчэ сівадра′ка на балоце не крычала, а ты ўжэ ўстала (Там жа).

СІВАКРА′КА (СІВОКРА′КА) *ж., заал.* сіваваронка. У сівакра′кі галубые пёрышкі, красівыя такія (Ручаёўка, Лоеўск.); Пёркі ў сівокра′кі пахожы на голуба, а крылы зялёныя (Аравічы, Хойн.). *Параўн.* сівара′к.

СІВАРА′К *м., заал., тое, што* сівакра′ка. Аперенне ў сівара′ка сізае, красівае (Дуброўка, Добр.).

СІ′ВЕР *м.* 1. *тое, што* се′вер. Сі′вер аж да цела дастае (Кароткавічы, Жлоб.); Сі′вер зноў — не выйдзеш

з хаты (Янова, Ветк.+Гарадзец, Раг.); Сі′верам хвацiла гарбузы (Лучын, Раг.). *Парайн.* сі′верка; 2. пах *(ветру)*. Ета дзежка сі′верам аддае (Лукі, Жлоб.).

СІ′ВЕРАЦЬ *незак.* трэскацца *(пра скуру)*. Ногі сі′вералі ад ветру (Дарашэвічы, Петр.).

СІ′ВЕРКА *ж., тое, што* се′вер. Сі′верка да канца прадувае (Дзякавічы, Жытк.); Сі′верка прайшла (Ручаёўка, Лоеўск.). *Парайн.* сі′вер *у 1 знач.*

СІ′ВЕРКІ *толькі мн.* трэшчыны *(на скуры)*. Пакуль воду прывязеш з Днепра, дык усе рукі ў сі′верках (Холмеч, Рэч.).

СІВО′КРАНА *ж., заал.* сініца. Вунь сіво′крана палянела (Камаровічы, Петр.). *Парайн.* сінічо′к, сі′нчык.

СІВО′НДРА *ж., заал.* варона. Сіво′ндра зляцела на дуб (Дзяржынск, Лельч.).

СІГА′ЛІСТЫ *прым.* даўганогі *(з шырокім крокам)*. Ёмка сігае — ну й сіга′лісты (Неглюбка, Ветк.).

СІ′ГАНЬ *м.* крок. Да яе адзін сі′гань, а ты не схадзіла (Харошаўка, Добр.); Тры сі′гні, от далёка (Займішча, Добр.). *Парайн.* сіге′нь.

СІГА′ЦЬ *незак.* крочыць *(шырокім крокам)*. Ні сіга′й па метру (Палессе, Чач.).

СІГЕ′НЬ *м., тое, што* сі′гань. Якая сама, такі і сіге′нь (Хізы, Ветк.+Ларышчава, Добр.).

СІ′ДАР *м.* 1. Мяшок. Завернулы кота в сі′дора понэслы в лес долэко (Грушаўка, Нар.); 2. абед *(з сабой)*. Ну і сі′дар у цябе сёння (Н. Гута, Гом.).

СІ′ДЗЬБА *ж.* сядзенне *(у засадзе)*. Пачалася сі′дзьба (Баравікі, Светл.).

СІ′КАЦЬ *незак.* цячы *(струменем)*. А кроў так і сі′кае, так і сі′кае (Ніўкі, Добр.).

СІКІЛЬГА′ *ж.* качарга. Падвярні сікільго′й у пячы (Равішча, Жлоб.).

СІ′КЛА *ж.* шчупак. Тут сі′кла можа ўцекці (Бялёў, Жытк.). *Парайн.* сінчу′к, сіня′ўка I.

СІКО′ЛКА (СІКО′ЎКА) *ж., заал.* рыба. Сіко′лка любіць чарвякоў (Багданаў, Карм.); Сіко′ўкі невыгодныя, яны вельмі маленькія (Дарашэвічы, Петр.).

СІКУ′Н *м., кулін.* варэнік. Зварылі з чарнікі сікуны′ (Капань, Рэч.).

СІ′ЛА *прысл.* многа. Анюта, у цябе сёлета вішняў сі′ла (Бялёў, Жытк.+Грычынавічы, Жытк.; Палессе, Чач.).

СІЛАМО′ЦЦЕМ *прысл.* праз сілу. Галава баліць, сі-

ламо′ццем паднялася (Быч, Карм.); Яна капае бульбу сіламо′ццем (Хвойнае, Хойн.).

СІЛЬКА′ЦЬ *незак., экспрэс.* есці. Сеў ды сілька′е сабе суп (Ніўкі, Добр.).

СІЛЯГА′ *ж.* лаза. Сілягу′ сякуць, прыворваюць у баразну, і яна расце (Дарашэвічы, Петр.).

СІЛЯ′ЦЬ *незак.* чэрпаць. Сіля′й мне ваду кружкай (Неглюбка, Ветк.+Палессе, Чач.).

СІНЁЎКА *ж.* спадніца. Трэба сінёўку падкласць, бо доўгая (Р .Каменева, Лоеўск.). *Параўн.* спані′ца (споні′ца).

СІНІ′ЗНА *ж.* цвіль. Дрэва сіні′знай узялося (Хізы, Ветк.). *Параўн.* сінюха′.

СІНІЧО′К *м., тое, што* сіво′крана. Сінічо′к — ета серанькая пцічка жоўтапузенькая, часта ў раму дзяўбе (Вуглы, Браг.). *Параўн.* сі′нчык.

СІНЧУ′К *м., тое, што* сі′кла. Маленькую шчучку ў нас называюць сінчу′к (Чалюшчавічы, Петр.). *Параўн.* сіня′ўка І.

СІ′НЧЫК *м., тое, што* сіво′крана Весела ціўкае сі′нчык на дворэ (Дзяржынск, Лельч.); Сі′нчыкі і ўзімку ў нас жывуць (Навінкі, Калінк.). *Параўн.* сінічо′к.

СІНЮХА′ *ж., тое, што* сіні′зна. Калі дзерава ў сыром стаіць, дык паяўляецца сінюха′ (Ламавічы, Акц.).

СІНЯ′К І *м., бат.* грыб *(ядавіты)*. У нашай дзярэўні сіняко′ў ні бяруць (Даманавічы, Калінк.). *Параўн.* сіня′ўка ІІ.

СІНЯ′К ІІ *м.* зямля *(сіняя неўрадлівая)*. Сіняя зямля бувае, так і завом сіня′к (Холмеч, Рэч.).

СІНЯ′К ІІІ *м., бат.* трава. Ідзем по дорозе, то столькі ўжо етого сіняка′ (Стадолічы, Лельч.).

СІНЯ′ЎКА І *ж., тое, што* сі′кла. Хіба гэтая шчука, гэта ж яшчэ сіня′ўка (Бялёў, Жытк.+Мілашэвічы, Лельч.; Ломыш, Хойн.; Старажоўцы, Жытк.); У нас етых сіня′ўка завуць (Чалюшчавічы, Петр.). **Параўн.** сінчу′к.

СІНЯ′ЎКА ІІ **ж., тое, што** сіня′к І. Сіня′ўкі самыя паследнія растуць (Ручаёўка, Лоеўск.+Багуцічы, Ельск.); Сёдні мая Томка сіня′вак набрала, думала, што ета апенькі (Дубраўка, Добр.).

СІНЯ′ЦІНА **ж.** палатно **(сіняга колеру).** Асталося метраў пяць палатна, хочу зрабіць сіня′ціну (Баравое, Лельч.).

СІНЯЦІ′ННЕ *н.* фарбаванне *(у сіні колер)*. Сіняці′н-

не маё нейкае неўдалае, мусіць, перабагаціла краскі (Даманавічы, Калінк.).

СІРАЦІ′НКА *аг., памянш да* сірата′. Я ж сама сіраці′нкай гадавалася (Хізы, Ветк.).

СІРЫ′ЧКА *ж., заал.* птушка. Сіры′чка нанясе яечак і сядзіць на іх (Аравічы, Хойн.).

СІТАВА′ *ж.* дрэва *(трухлявае).* Сі′тава на хату не пойдзе, не доўго пастаіць (Бялёў, Жытк.); Ета сітава′ — яна тут не выдзяржыць (Халочча, Чач.).

СІ′ТАВЕЦЬ *незак.* трухлець, парахнець *(аб дрэве).* Нада паглядзець, каб драўніна не пачала сі′тавець (Халочча, Чач.).

СІ′ТАВЫ *прым.* сітны. Сі′тавую муку для пірагоў бяруць (Юравічы, Калінк.).

СІ′ТКА I *ж., заал.* сітаўка. Сі′тка прыляцела, хутко лето (Махновічы, Маз.); Сі′тка ўсё па дарогах любіць (Вышалоў, Петр.+Грушаўка, Нар.).

СІ′ТКА (СІ′ТКО) II *н.* сетка *(пчалярская).* Без сі′тка не падыходзь нават да вулья (Багданавічы, Карм.); Надзень сі′тко на галаву, бо пчолы покусаюць (Бялёў, Жытк.).

СІ′ТНІК I *м., бат.* трава *(балотная).* Расце сі′тнік еты на лугу на нізкіх мястах (Хізы, Ветк.+Пагост, Жытк.); Тры вазы Коля ўкасіў сі′тніку (Антонаў, Ельск.+Аравічы, Хойн.); На сырых мястах можно найсці сі′тнік (Неглюбка, Ветк.); Сі′тнік мала бярэ скот (Ламавічы, Акц.). *Параўн.* сітня′к.

СІ′ТНІК II *м.* хлеб *(сітны).* Сі′тнік вельмі ўкусны (Чалюшчавічы, Петр.). *Параўн.* сі′тніца.

СІ′ТНІЦА *ж., тое, што* сі′тнік II. Гаспадыня напякла сі′тніцы (Н. Гута, Гом.+Уваравічы, Б.-Каш.).

СІТНЯ′К *м., бат., тое, што* сі′тнік I. Сітня′к вусокі, як хвошч, па балоту расце кучкамі (Ручаёўка, Лоеўск.); Сітняку′ ў нашых балотах хапае (Піркі, Браг.); Сітня′к і каровы добра едзяць (Піркі, Браг.+Пярэдзелка, Лоеўск.).

СКАБА′ *ж., пеРан.* жанчына *(худая).* От ужэ Анюта вусахла, скаба′ (Калінічы, Нар.).

СКАБА′ЧКА *ж., перан., памянш. да скаба* . Ніна, заатэхнік, такая скаба′чка што далей некуды (Крыўск, Б.-Каш.).

СКАБІ′ЦЬ *незак.* скрэсці *(бульбу).* Скабі′ ножыкам,

не зразай шакупкі (Неглюбка, Ветк.). *Параўн.* скаблі'ць *у 1 знач.,* скло'біць *у 1 знач.*

СКА'БКА *ж.* стрэмка. Пад ногаць ска'бку загнала і не магу вынесці (Бабовічы, Гом.+Пярэдзелка, Лоеўск.; Шырокае, Б.-Каш.); Дай мне шпыльку ска'бку выняць (Азяраны, Раг.); Загнаў ска'бку, дык нарывае (Халočча, Чач.+Пакалюбічы, Гом.; Хізы, Ветк.); Не лазь па дрэву, а то заскабіш ска'бкай рукі (Буйнавічы, Лельч.+ +Марозавічы, Б.-Каш.; Неглюбка, Ветк.);//А Хрысціна як ска'бка — усюды ўлезе (Мармоль, Жлоб.); Прывёў жонку, як ска'бку, худую (Дубраўка, Добр.).

СКАБЛЕ'ННЕ *н.* акорванне. Зяць во як прывязе мне дроў, дык я сама вазьму струг і пачынаю скабле'нне (Хізы, Ветк.).

СКАБЛІ'ЦЬ *незак.* 1. *тое што* скабі'ць. Бульбу толькі і скаблі'ць маладую трэба, а то ўвесь смак прападае (Меркулавічы, Чач.); Надта ня хочацца скаблі'ць (Хізы, Ветк.+Насовічы, Добр.); Як старую бульбу, дык лупім, а маладую ско'блім (Марозавічы, Б.-Каш.). *Параўн.* скло'біць *у 1 знач.;* 2. акорваць. Нарабіў жэрдак, высушыў, цяпер скаблі'ць трэба (Бялёў, Жытк.). *Параўн.* скло'біць *у 2 знач.*

СКАБЛЯНУ'ЦЬ *зак.* скрабянуць. Да я цябе скаблянул'ла добра па хропці (Салтанаўка, Б.-Каш.).

СКАБО'РШЧЫЦЬ *зак.* сапсаваць. Антак, Матруна, табе зусім касцюм скабо'ршчыла (Бобрык, Петр.).

СКАВАРО'ДНІЦА *ж., кулін.* скавароднік. Скаваро'дніцы пякуць на скавародцы (Палессе, Чач.); Трэба спеч скаваро'дніцы (Неглюбка, Ветк.). *Параўн.* скараво'днік.

СКАВАРО'К *м.* скварка. Падсмажаныя скаваро'кі елі ў снеданне (Любань, Б.-Каш.).

СКАК *м., заал.* конік *(насякомае).* Скакі па траве скачуць (Аравічы, Хойн). *Параўн.* скачо'к.

СКА'КІ *толькі мн.* танцы. Якія гракі, такія і ска'кі (Халočча, Чач.). *Параўн.* скаку'хі, ска'чкі.

СКАКУ'ХА I *ж.* танцорка. Яна ў мяне пявуха і скаку'ха (Дубраўка Добр.); Я як була моладая, то вельмі скаку'ха була (Аравічы, Хойн.).

СКАКУ'ХА II *ж., тое, што* сарапу'та. Моцна наш дзядок любя скаку'ху — цэлы гарлач з'еў (Палессе, Чач.).

СКАКУ'ХІ *толькі мн., тое, што* ска'кі. Пашлі на скаку'хі нашы дзяўчаты (Камаровічы, Петр.). *Параўн.* ска'чкі.

СКАЛАНДА′ *ж.* скандал. Вечна там так, як устрояць бабы скаланду′, хоць вушы затыкай (Быч, Карм.); Век жывуць са скаландо′й.

СКАЛАЦІ′ЦЬ *зак.* збіць *(масла)*. У нас як сабярэ хто смятаны, дак скало′ціць у макотрыку (Палессе, Чач.).

СКА′ЛІ *толькі мн., спец.* разведка *(пчаліная)*. Пашлі мае пчолы ў ска′лі (Быч, Карм.+Стадолічы, Лельч.); Пчолы паляцелі на ска′лі (Забалоцце, Раг.). *Параўн.* скалля′, ска′ль.

СКА′ЛІЦЦА *незак., экспрэс.* 1. смяяцца. Не сядзіць спакойна, а ўсё ска′ліцца (Запясочча, Жытк.+Зарэчча, Жлоб.; Паганцы, Светл.); 2. прыжмурвацца. Чаго ты ска′лісся? (Шарыкі, Ельск.+Антонаў, Ельск.).

СКА′ЛКА *ж.* трэска *(для здабывання агню)*. Ска′лку з губою крешуць аб кресало (Вуглы, Нар.).

СКАЛЛІ′ЦЬ *незак., спец.* разведваць *(аб пчолах)*. Пчолы скалля′ць (Неглюбка, Ветк.). *Параўн.* скалява′ць.

СКАЛЛЯ′ (СКАЛ’Я′) *ж., спец., тое, што* ска′лі. Скалля′ ў пчол — ета разведка (Неглюбка, Ветк.); Пчолы разведуяць новыя мяста — ету разведку называюць скалля′ (Дубраўка, Добр.+Быч, Карм.; Марозавічы, Б.-Каш.; Хізы, Ветк.); Скалля′ на цветах лётае (Холмеч, Рэч.+Багданавічы, Карм.; Баравікі, Светл.); Скалля′ ўжэ паляцела (Сямёнаўка, Рэч.+Пабеда, Ветк.; Стаўбун. Ветк); Лятаюць у скал’ю′ пчолы (Піркі, Браг.+Бабовічы, Гом.). *Параўн.* ска′ль.

СКАЛО′ЦІНА *м.* маслёнка. Скало′ціна застаецца, як масла саб’еш (Багданавічы, Карм.); Скало′ціна смашная з хлебам (Капань, Рэч.). *Параўн.* скало′цьвіна, скало′чанка.

СКАЛО′ЦЬВІНА *ж., тое, што* скало′ціна. Скало′цьвіна — астаткі пасля таго, як зробяць масла (Р. Бурыцкая, Лоеўск.+Барталамееўка, Ветк.); У місцы стаяла скало′цьвіна (Ухоў, Ветк.+Асінаўка, Чач.); Скало′цьвіну ў нас вельмі Сцёпка любя (Хізы, Ветк.+Жгунь, Добр.; Неглюбка, Ветк.). *Параўн.* скало′чанка.

СКАЛО′ЦЬ *зак.* закалоць. Мы ўжо кабана скало′лі (Аравічы, Хойн.); Скало′лі ж парася (Піркі, Браг.).

СКАЛО′ЦЦА *зак.* згубіць след *(пра сабаку)*. Тут Трызор і скало′ўся (Юравічы, Калінк.).

СКАЛО′ЧАНКА *ж., тое, што* скало′ціна. Як здзела-

еш масла, то застаецца скало′чанка, ці маслянка (Асінаўка, Чач.). *Параўн.* скало′цьвіна.

СКА′ЛЬ *м., спец., тое, што* ска′лі. Ля вулля ска′ль скалюе (Дабрынь, Ельск.+Антонаў, Ельск); Пчолы адправіліся ў ска′ль (Астрагляды, Браг.+Багуцічы, Ельск.; Ламавічы, Акц.); У етым годзе слабая ска′ль у маіх вуллях (Заходы, Лельч.+Юравічы, Калінк,). *Параўн.* скалля′ (скал'я′).

СКАЛЯВА′ЦЬ *незак., спец., тое, што* скаллі′ць. Пчолы скалява′ць паляцелі (Холмеч, Рэч.); Пчолы ужа скалю′юць, хоць цвету шчэ няма (Дубраўка, Добр.+Бабовічы, Гом.); Ну, ета кагда пчолы дзелаюць разведку, тада гавораць, што пчолы скалю′юць (Хізы, Ветк.).

СКАПА′ЦЬ *зак.* 1. выкапаць *(бульбу)*. Бульбу скапа′ем увосень, перабяром і ў капец харонім (Баравікі, Светл.); У калгасе скапа′лі ўсю ўжо бульбу (Антонаў, Ельск.+Сцяпы, Жлоб.); 2. праараць *(першую баразну)*. Спачатку трэба скапа′ць першы склад (Пучын, Браг.).

СКАПЕ′Ц *м.* 1. капец *(для захавання бульбы)*. Скапе′ц — ета калі бульбу ў яму ложаць (Баравікі, Светл.); 2. хатка *(бабра)*. Бабёр наверху робіць такі скапе′ц (Чалюшчавічы; Петр.).

СКАПІ′ЦЬ *зак.* скінуць, скласці *(сена ў копы)*. Скопічам як захопіш, дык сразу цэлую кучу ско′піш (Марозавічы, Б.-Каш.); Мы скапі′лі канюшыну раней за вас (Пясчанікі, Жытк.); Скапі′лі ўсю балаціну (Пруда, Калінк.).

СКАПІ′Ч (СКО′ПІЧ) *м.* вілы *(для скідання гною з воза)*. Гной скідаюць з воза пры дапамозе скапіча′ (Чкалава, Гом.); Ско′піч яшчэ захаваўся ў нас (Ст. Буда, Б.-Каш.+Дзям'янкі, Насовічы, Добр.). *Параўн.* ско′пач.

СКАРАВАДА′ (СКОРОВОДА′) *ж.* скаварада. У міне адна бальшая скаравада′ (Хізы, Ветк.+Неглюбка, Ветк.); Одного разу купіла аж тры скороводы′ (М. Аўцюкі, Калінк.); Возьмі скороводу′ і намаж сала (Вуглы, Нар.+Ст. Рудня, Жлоб.).

СКАРАВО′ДНІК *м., тое, што* скаваро′дніца. Цяпер рэдка пякуць скараво′днікі (Хізы, Ветк.).

СКАРАДА′ *ж.* рунь. Харошая скарада′ на нівах (Калінін, Хойн.+Хвойнае, Хойн.); Каровы хадзілі па скарадзе′ (Пагоннае, Хойн.+Белы Пераезд, Петр.).

СКАРАДЗЬБА′ *ж.* скароджанне. Ідзець скарадзьба′

папару (Стаўбун, Ветк.); У калгасе ўжо пачалася скарадзьба′ (Ст. Буда, Б.-Каш.+Дубраўка, Насовічы, Добр.; Ліцвінавічы, Карм.).

СКАРАДЗЬБІ′К *м., той, хто* скародзіць. Скарадзьбі′к — ета той, што скародзіць (Стаўбун, Ветк.).

СКАРО′МНАЕ *субст.* ежа (*малочная і мясная*). Ой, бабкі, я ж скаро′мнае ем (Неглюбка, Ветк.); Не пашчу, ем усё скаро′мнае (Каравацічы, Рэч.); Сённі пятніца, дак не кладзі сала, нельзя есці скаро′мнае (Неглюбка, Ветк.+Хізы, Ветк.).

СКАСАВУ′РЫЦЬ *зак.* скасіць (*вочы*). Чаго ты зліўся і вочы свае скасаву′рыў (Марозавічы, Б.-Каш.+Асінаўка, Чач.).

СКАСАВУ′РЫЦЦА *зак., перан.* злавацца Скасаву′рыўся, усердзіўся і пайшоў (Залессе, Чач.).

СКА′ТНЫ *прым.* пакаты (*бераг*). Як разагнаўся па ска′тнаму берагу (Кароткавічы, Жлоб.).

СКА′ЦЕРКА (СКА′ТЭРКА, СКА′ЦІРКА, СКА′ЦЯРКА). *ж.* абрус. Ска′церка вязаная як купленая атрымалася (Нісімкавічы, Чач,+Баравікі, Светл.; Чалюшчавічы, Петр.); Сёння мне хочацца заслаць новую ска′церку (Н. Гута, Гом.+Піркі, Браг.; Янова, Ветк.); Трэба купіць нітак ска′церку звязаць (Каравацічы, Рэч.+Халочча, Чач.); Ціпер такіх ска′церак не найдзеш, як калісь былі (Р. Бурыцкая, Лоеўск.+Піркі, Браг.; Рудня, Чач.; Ручаёўка, Лоеўск.; Ухаў, Ветк.); Колісь ска′тэркі рабілі самі (Забалоцце, Раг.); У залі белыя ска′ціркі кладу (Баравікі, Светл.+Р. Шлягіна, Ветк.); Ёсць у мяне ска′цірка ў восім нітоў (Загор'е, Чач.+ +Ч. Паляна, Б.-Каш.); Гэта ска′цярка ў цябе красівая (Барталамееўка, Ветк.+Харошцы, Акц.; Хізы, Ветк.); Гэта ска′цярка самаробная ці купляная? (Хізы, Ветк.).

СКА′ЧКІ *толькі мн., тое, што* ска′кі. Возле бальніцы на пітачку ска′чкі кажды вечар бываюць (Асінаўка, Чач.); Дзеўкі пайшлі на ска′чкі (Там жа). *Параўн.* скаку′хі.

СКАЧО′К *м., заал., тое, што* скак. Скачо′к добра скача на полі (Марозавічы, Б.-Каш.); Скачо′к — добрая прыманка для рыб. У нас гэтых скачко′ў многа (Хізы, Ветк.+Халочча, Чач.; Юравічы, Калінк.); Рыбу ў нас на скачко′ў лавілі (Халочча, Чач.).

СКВАРО′ЧАК *м., памянш.* З'ясі скваро′чак і наясісь (Баравікі, Светл.).

СКВІ′Л *м.* сварка. Цяпер і плач і скві′л з-за работы (Быч, Карм.).

СКВЯРЭ′ЦЬ *незак., перан.* верашчаць. Чаго ты сквяры′ш, як жаба на карчу? (Палессе, Чач.).

СКЕ′ПКА *ж.* шчэпка. Пакладзі ў грубу ске′пак (Вуглы, Ельск.); Пойду ске′пок трохі прынясу сюды (Бялёў, Жытк.+Стадолічы, Лельч).

СКЕ′ПАЧКА (СКЕ′ПОЧКА) *ж., памянш. да* ске′пка. Бежы, дзеўко, ске′почок назбірай на роспал (Вуглы, Нар.).

СКІДА′ЦЬ *незак.* знімаць, збіраць (*смятану*). Была кароўка, скі′ну гладышачку смятаны. Цяпер няма кароўкі, няма малачка, і смятаны не скіда′ю (Дубраўка, Добр.).

СКІКА′ЦЬ *незак.* скакаць. Вот ужэ ўдаўся, скіка′е і скіка′е (Ломыш, Хойн.).

СКІ′НУЦЬ I *зак. да* скіда′ць. Трэба скі′нуць з глячка вяршыну (Неглюбка, Ветк.).

СКІ′НУЦЬ II *зак.* ацяліцца (*да тэрміну*). Ета ж нада, карова наша целя скі′нула (Каравацічы, Рэч.+Багдановічы, Карм.; Карчавое Хойн.; Навінкі, Калінк.); Летась карова скі′нула нежывое цяля (Сівенка, Ветк.+Халочча, Чач.); Вунь Ганніна карова скі′нула цяля (С. Дуброва, Акц.+Бялёў, Жытк.).

СКІПА′ЦЬ *незак.* шчапаць (*лучыну*). Я буду скіпа′ць, а ты йдзі к цяпельцу пагрэйся (Палессе, Чач.)// калоць (*дровы*). Сённі ішчэ пагуляй, а заўтра будзім скіпа′ць дровы (Асінаўка, Чач.).

СКІ′РДА *ж.* 1. сціртa (*у полі*). Скі′рда складаіцца з снапоў каласамі ўнутр, чатырохвугольная (Ліцвінавічы, Чач.+С. Буда, Б.-Каш.); Мы з мужыком пашлі на поле скірдаваць салому і ні склалі ні адной скі′рды, таму што пашоў дождж (Ларышчава, Добр.); Я тут лажу скі′рду, а ты далей (Бялёў, Жытк.+Калінін, Пагоннае, Хойн.; Насовічы, Добр.)//сціртa (*у гумне,* на таку). Звозяць снапы на ток, а там складаюць у скі′рды (Бывалькі, Рэч.); У гумне было пятнаццаць скі′рдаў жыта (Баравікі, Светл.); 2. укладка, мера дроў. У мяне ўжо на зіму не адна скі′рда дроў стаіць, а то во і з мужыкамі жывуць, а ў двары ні палена (Хізы, Ветк.); Налажыла ў хлеве цэлую скі′рду дроў (М. Аўцюкі, Калінк.+ +Завайць, Нар.; Ларышчава, Добр.); За дзень можна і тры скі′рды дроў накласці (Баравікі, Светл.); Дровы

ў сараі ў нас у скі′рды складзены (Юравічы, Калінк.). *Парайн.* сці′рда.

СКІЦЕ′Р *м.* свежаніна (*якую даюць суседзям, родзічам*). Ета ж суседзі ўчора кабана забілі, дай і мне скіцера′ прынеслі, добрае такое мяса, дык я от галубцоў надзелала (Міхалькі, Гом.).

СКЛАДА′НЧЫК *м., памянш.* сцізорык. Куды ні іду, а склада′нчык у кармані ляжыць (Р. Бурыцкая, Лоеўск.).

СКЛАДАЎШЧЫ′К *м.* кладаўшчык. Прышоў складаўшчы′к, і мы палучылі збожжа (Пераpоў, Жытк.).

СКЛА′ДКА I *ж.* лаўка. Яна свой чамайдан на іхнюю скла′дку паставіла (Бялёў, Жытк.).

СКЛА′ДКА II *ж.* складчына. Хадзілі на скла′дку (Махновічы, Маз.).

СКЛАЗНЯ′К *м.* скразняк. Не сядзі каля вакна, там склазня′к (Неглюбка, Ветк.).

СКЛАПУ′ЧЫ *прым.* сквапны. Хозяін у заработкі йдзе, тож такі склапу′чы на грош (Стаўбун, Ветк.).

СКЛА′СЦІ *зак.* надзець. Мамо, я складу′ нове плац'е (Грычынавічы, Жытк.).

СКЛА′СЦІСЯ *зак., перан.* памерці. Ну, скла′лася Дзянішчыха, ох, доўга жыла (Катловіца, Браг.).

СКЛЕЗАВА′ЦЬ *незак.,* буд. умацоўваць (*бервяно ў шулу*). Склезу′юць на две стороны, штоб полено ўвошло ў шулу (Стадолічы, Лельч.).

СКЛЕП *м., тое, што* свіння′ II. Склеп стоіць у печы, а на его ложыцца чэрэн (Стадолічы, Лельч.).

СКЛЕ′ПАЎКА *ж.* жаба (*у склепе*). Скле′паўка заўсёды жыве ў склепе (Ямпаль, Рэч.).

СКЛІ′Н *м.* склеп. Уваб'і ў склі′н замка (Пучын. Браг.).

СКЛО′БІЦЬ *незак. 1. тое, што* скабі′ць. Скло′біла картоплю, прыстаўлю, хай кіпіць (Бялёў, Жытк.). *Парайн.* скаблі′ць *у 1 знач.*; 2. *тое,* што скаблі′ць у 2 знач. Скло′бяць дрэво сакераю сначала, потам рэжуць на доскі (Стадолічы Лельч.).

СКЛУ′БКА *ж.* жэрдка. Склу′бка добрая с сасны (Ламавічы, Акц.).

СКЛЫ′КА *ж.* склока. Яна нагавора, і склы′ка палучаецца (Дубраўка, Добр.).

СКНА′РА *аг., неадабр.* чалавек (*скупы*). Ён скна′ра і не раскінецца даць табе грошай пазычыць (Дубраўка,

Добр.+Грушаўка, Добр.); Ну і скна′ра гэты чалавек (Хізы, Ветк.+Холмеч, Рэч.). *Парайн.* скна′рыца, скупа′жа, скупя′нджа, скупярдзя′ка.

СКНА′РЛІВЫ *прым.* скупы. Ён скна′рлівых людзей не любіў (Караваціčы, Рэч.).

СКНА′РЫЦА *ж., тое, што* скна′ра. Хіба выпрасіш у тае скна′рыцы што (Пясчанікі, Жытк.). *Парайн.* скупа′жа, скупя′нджа, скупярдзя′ка.

СКО′ЛЮЗНАСЦЬ *ж.* багацце. Глянула ў сундук, а там такая ско′люзнасць, вочы разбягаюцца (Зарубана, Маз.+Зладзін, Маз.).

СКО′ЛЮЗНА *прысл.* колькі Донечка, о ско′люзна табе цацак папка купіў! (Стараселле, Добр.+Буйнавічы, Маз.).

СКО′МА *ж.* ахвота. Брала ско′ма на гуркі (Палессе, Чач.).

СКОН *м.* скананне, смерць. Наканец-та адмучыўся ён, наступіў скон (Хімы, Раг.).

СКО′ПАЧ *м., тое, што* скапі′ч *(ско′піч)*. Вазьмі ско′пач да сюды ідзі (Неглюбка, Ветк).

СКО′ПЧЫК *м., памянш.* буго′рчык (*пры акучванні бульбы*). Бульба павінна быць добрая, раз ско′пчыкі парэпаліся (Корпаўка, Рэч.).

СКО′ПЫЧ *м.* куча (*гною*). За амбарам стаіць невялікі ско′пыч гною (Шалухоўка, Ветк.).

СКАРУ′НЬКА *прысл., ласк. да* ско′ра. Я прыйшла да хаты скару′нька, а яго ўжо няма (Бялёў, Жытк.).

СКРАБАТУ′ХА *ж.* церніца. Разабралі да адной скрабату′хі (Улыч, Гом.).

СКРАБЁЛКА *ж.* скрабалка, скрэбла. Скрабёлкай абскрабляюць атмёршаю кару (Дубраўка, Добр.).

СКРАБУ′ХА *ж.* трапальшчыца. Жанчына, якая скрабе лён, то скрабу′ха (Дарашэвічы, Петр.).

СКРА′ВАК *м.* скосак. Хіба ж гэта каса? Гэта ж скра′вак нейкі (Вуглы, Ельск.).

СКРА′ВАЧАК *м.* акравак. Там яшчэ засталося некалькі скра′вачкаў (Стаўбун, Ветк.).

СКРА′ДКА *ж.* схоў, схованка. Я схаваўся ў скра′дку і сяжу сабе (Стаўбун, Ветк.).

СКРА′ДЛА *н.* крыло. Певун як замахая сваім скра′длам, як закукарэча (Дарашэвічы, Петр.).

СКРУ′ЗЬ *прысл.* скрозь. Нашым дзецям з-за гэтага

говару скру́зь трудна: і ў школе, і ўедуць куды (Грушаўка, Нар.).

СКРУЦІ́ЦЦА *зак., перан., неадабр.* звязацца *(з кімнебудзь)*. А то шчэ скруці́ўся з другой, паўлюбляўся (Бялёў, Жытк.).

СКРЫГА́ЛА *н.* перакрыжаванне. Машына даехала до скрыга́ла і остановілося (Бялёў, Жытк.); Як выйшла яна на скрыга́ла, то не ведае куды ісці (Бялёў, Жытк.).

СКРЫГІТА́ЦЬ *незак.* 1. скрыгатаць. Перапіў, аж зубамі скрыгі́ча (Марозавічы, Б.-Каш.); Усю ноч зубамі скрыгіта́ў (Зарэчча, Жлоб.); 2. *перан.* кугукаць. Сова вельмі голосно скрыге́ча по весне (Стадолічы, Лельч.). *Параўн.* скугугукаць.

СКРЫ́ГЕЛЬ *м.* кавалак. Адрэзаў і еў скры́гель сала (Холмеч, Рэч.).

СКРЫЛІ́ *толькі мн.* садавіна *(нарэзаная і высушаная)*. Насушылі цэлую сумку скрылёў (Зялёныя Лукі, Гом.+Капань, Рэч.); У скрыля́х матылі завяліся (Апанасаўка, Гом.); бульба (Нарэзаная). Скрылі́ пажараць добра — смашней будзе (Мормаль. Жлоб.).

СКРЫЛЬКІ́ *толькі мн., памянш. да* скрылі́. Парэж на скрылькі́ бульбу (Неглюбка, Ветк.); Ну і скрылькі́ у цябе палучаюцца (Бабовічы, Гом.).

СКРЫ́НЬКА (СКРІ́НЬКА) *ж.* вулей *(дашчаны)*. Улей-то выдоўбаная колода, а скрі́нька робіцца з дошчэчэк (Грушаўка, Ветк.); Зрабі нову скры́ньку на рой (Грушаўка, Ветк.); 2. скрыня *(для адзення)*. Скры́нак для адзення пошці ні ў кого нема цяпер (Юравічы, Калінк.).

СКРЫ́НЯ *ж.* ступка *(медная)*. У скры́ні можна мак церці (Баравікі, Светл.).

СКРЫПА́К *м.* скрыпач. Быў у нас раней скрыпа́к свой (Кароткавічы, Жлоб.).

СКРЫ́ПЕ́ЛЬ *м., бат.* губа. У дубніку мы знайшлі багата скры́пелеў (Антонаў, Ельск.+Пярэдзелка, Лоеўск.; Хвойнае, Хойн.); Скрыпе́ль такі таўсты ле дзерава расце. Калісь его атрывалі да сушылі, як запаляць, дак гарыць цэлыя суткі, ні дыма німа, нічога (Ручаёўка, Лоеўск.); Скры́пялям пчол скрозь падкураюць (Р. Бурыцкая, Лоеўск.).

СКРЫ́ПЛЯ *ж.* трэска *(для дымара)*. Калі дубовымі скры́плямі падкурваць пчол, дык яны самі садзяцца ў раёўню (Ламавічы, Акц.).

СКРЫСЕ'ННЕ *н.* нядзеля. Заўтра, напэўна, будзе скрысе'нне (Салтанаўка, Б.-Каш.).

СКРЭ'СУВАЦЬ *незак.* зразаць. Сёгодні цэлый дэнь скрэ'сувала бадылле (Грушаўка, Нар.).

СКУБА'ЦЬ *незак.* скубці (*траву*). Гусь патроху скуба'е сабе траву (Іскра, Чач.); Курыца скуба'е траву (Піркі, Браг.+Завайць, Нар.); Колісь голодоўка була, дык верас скуба'лі (Бялёў, Жытк.). *Парайн.* слу'бці.

СКУГА'ЛКА *ж.* сава. Скуга'лка недзе крычыць (Дзяржынск, Лельч.).

СКУГО'ЛІЦЬ *незак. перан., неадабр.* плакаць. Ні скуго'ль, надаела ўжэ (Чырвоны Мак, Гом.).

СКУГУГУ'КАЦЬ *незак., тое, што* скрыгіта'ць *у 2 знач.* Калі мы хадзілі ў лес, то чулі, як скугугу'кае сова (Дзяржынск. Лельч.).

СКУ'ДАВА *прысл..* адкуль. Я знав, ску'дова воны (Грушаўка, Нар.). *Парайн.* скуль.

СКУ'ЛЛЕ I *н, зборн.* скула. Каб табе ску'лле села! (Цярэшкавічы, Гом.).

СКУ'ЛЛЕ II *н., спец.* дэталь (ткацкага станка). Ску'лляў трэба набіць много (Стаўбун. Ветк.).

СКУЛЬ *прысл., тое, што* ску'дава. Скуль ты ідзеш? (Белы Пераезд, Петр.+Грушаўка, Нар.).

СКУЛА'Ч *м., мед.* скула. Які скула'ч буў у яе! (Піркі, Браг.). *Парайн.* скуля'нка.

СКУЛЯ'НКА *ж., тое, што* скула'ч. Бач ты, якая скуля'нка ўскочыла (Забалоцце, Раг.); На руце скуля'нку разразалі (Дубраўка, Петр.+Ламавічы, Акц.).

СКУПА'ЖА *аг., тое, што* скна'ра. Той мой мужык быў ні такі, а еты скупа'жа нейкі (Передавая, Раг.). *Парайн.* скна'рыца, скупя'нджа, скупярдзя'ка.

СКУПЕ'ННЫ *прым.* вельмі скупы. Скупе'нны вельмі ў яго дзядзько, нічого не вупрасіш (Стадолічы, Лельч.).

СКУПЯ'НДЖА *аг., тое, што* скна'ра. Яна ж такая скупя'нджа, зімою снега не возьмеш (Б.-Сафіеўка, Лельч.). *Парайн.* скна'рыца, скупа'жа, скупярдзя'ка.

СКУПЯРДЗЯ'КА *аг., тое, што* скна'ра. Ну і скупярдзя'ка ж ты, не дала дажа ў хату зайсці (Дубраўка, Добр.); Мой малодшы ўнук бальшы скупярдзя'ка (Хізы, Ветк.). *Парайн.* скна'рыца, скупа'жа, скупя'нджа.

СКУРА'НКІ *толькі мн.* лапці (*са скуры*). Скура'нкі былі раней амаль у кожнага (Юравічы, Калінк.).

СКУТО′К *м., тое, што* свой. Той скуто′к ляжыць і цяпер у куфры (Багданавічы, Карм.).

СЛАБАНЕ′Й *прысл.* свабадней. Каб умер, дак руцэ слабане′й (Піркі, Браг.).

СЛА′БКІ *прым.* слабы, не тугі (*пра вымя*). У многіх кароў вымя сла′бкае (Багуцічы, Ельск.).

СЛАБНЯ′К *м.* рой (*слабы*). Слабня′к называюць слабы рой (Хізы, Ветк.).

СЛАКАТА′ЦЬ *незак.* 1. смяяцца. Перастань слаката′ць (Вуглы, Ельск.); 2. шчыкатаць. Той крычыць, а ён яго слако′ча (Вуглы, Ельск.).

СЛАМЯНО′ *н.* журавель (*калодзежа*). Калі сламяно′ ў калодзяжы добрая, і ваду цягаць добра (Быч, Карм.).

СЛЕПАВО′КІ *прым.* падслепаваты. Слепаво′кі сабака (М. Аўцюкі, Калінк.).

СЛЕ′ПЕТ *м.* 1. *зборн.* пчолы (*дзікія*). Новыя пчолы ўцекаюць у лес, вядома, сле′пет (М. Аўцюкі, Калінк.); Пчолы дзікія — ета ж сле′пет (Баравікі, Светл.). *Парайн.* сле′пецень, сле′пцы; 2. дупло. Пчолы ў сле′пеце, дупле, жывуць (Баравікі, Светл.+Ламавічы, Акц.).

СЛЕ′ПЕЦЕНЬ *м., тое, што* слепет *у 1 знач.* Як толькі залецелі сле′петні ў вулей, вон адразу загудзеў, як вецер (Стадолічы, Лельч.); Налецела сле′петняў здесь з лесу (Дарашэвічы, Петр.). *Парайн.* сле′пцы.

СЛЕ′ПЦІ *незак.* слепнуць. Вока пачало сле′пці (Бялёў, Жытк.).

СЛЕ′ПЦЫ (СЛЯПЦЫ′) *толькі мн., тое, што* сле′пет *у 1 знач.* От колісь у лесі можно було мёду набраць, што сле′пцы наносілі (Мілашэвічы, Лельч.); Сляпцы′ боляй бываюць у дрэвах (Марозавічы, Б.-Каш.).

СЛЁЗНІК *м.,* бат. плакун-трава. Слёзнік яна называецца таму, што капае з яе сок, а мо вада (Бялёў, Жытк.); Плачэць слёзнік, ці ад яе плачуць (Багданавічы, Карм.).

СЛІ′ВІНА *ж.* сліва (*дрэва*). Бабка, слі′він колькі ў цябе ў садзе ёсцяка? (Саўгасная, Б.-Каш.).

СЛІЖ *м., заал.* галец. Попробуй удзержы того сліжа′ (С. Высокае, Ельск.).

СЛІ′ЖБА *ж.* колькасць. Ніколі не бачыла такой слі′жбы людзей (Харошчыва, Добр.).

СЛІ′ЗЕНЬ *м.* 1. слімак. Слі′зень прыліпае к грыбам, тады неахота дажа белы грыб браць (Хізы, Ветк.). *Парайн.* слізю′к, слі′мень; 2. п'яўка. Слі′зень упіваецца ў

цела, і выняць яго можна толькі, калі грэеш на сонцы ці спічкай (Хізы, Ветк.).

СЛІЗУ′ХА *м., бат.* масляк. Од етой слізу′хі рукі, як клей, зробіліся (С. Высокае, Ельск.); Слізу′хі растуць у сасняку (Баравое, Лельч.+Беразнякі, Петр.; Дарашэвічы, Добр.). *Парайн.* слюзя′нка.

СЛІЗЮ′К *м., тое, што* слі′зень *у 1 знач.* Слізю′к есць на козлечках, на дзераве, а ў вадзе таксама (Стадолічы, Лельч.). *Парайн.* слі′мень.

СЛІ′МЕНЬ *м., тое, што* слі′зень *у 1 знач.* Слі′мень як укусіць, дак і не адлечыш. Слі′мені етыя ўрэдныя (Чалюшчавічы, Петр.). *Парайн.* слізю′к.

СЛІ′ШЧА *н.* сцелішча. Лён сцелюць на слі′шчы (Дарашэвічы, Жытк.).

СЛО′КАТ *м.* козыт. Ён баіцца сло′кату (Вуглы, Ельск.+Бабовічы, Гом.).

СЛО′КАТНА *прысл.* козытна. А ён чуць не зайшоўся, так яму было сло′катна (Вуглы, Ельск.).

СЛОН *м.* услон. Ёсць у мяне і слон і лаўка (Бабовічы, Гом.); Глядзіце не зацапіцеся за слон, а то ён заняў увесь праход (Б. Сафіеўка, Маз.); Прайдзі да сядзь на слон (Гарадок, Жлоб.+Амельно, Раг.; Быч, Карм.; Верасніца, Ворнаўка, Жытк.; Запясочнае, Маз.; Іванаўка, Хойн; Косаль, Карм.; Майская, Жлоб.; Марозавічы, Б.-Каш.; Мікулічы, Браг.; Мілашэвічы, Лельч.; Мормаль, Жлоб.; Насовічы, Добр.; Палессе, Чач.; Піркі, Браг.; Р. Шлягіна, Ветк.). *Парайн.* сло′нец, стале′ц, сто′лак *у 1 знач.,* сто′ўчык.

СЛО′НЕЦ *м., тое, што* слон. Пастаў сло′нец к сталу (Дзяржынск, Лельч.).

СЛО′НІК І *м., памянш. да* слон. Для дзяцей трэба маленькі сло′нік (Косаль, Карм.+Гарадзец, Раг.); Да бабы маей зайдзі, у яе ёсць сло′нік (Бялёў, Жытк.+Марозавічы, Б.-Каш.).

СЛО′НІК II *м., заал.* даўганосік. Сло′нік—такі жучок з доўгім носам (Вуглы, Браг.+Ямпаль, Рэч.); Сло′нікаў нада знішчаць (Забалоцце, Раг.).

СЛО′НІЙ *м., тое, што* савашні′к. Дзе ты ўзяла сло′ній? (Макарычы, Петр.); Ну і нарасло ў нас гэты год сло′ній (Камаровічы, Петр.). *Парайн.* сана′ сон І, со′начнік, со′нкі, со′нца, со′ўнешнік.

СЛО′НЧЫК *м., памянш. да* слон. Сло′нчык — ета маленькі слон (Піркі, Браг.); Убіры сло′нчык (Рудня,

Чач.); На сло′нчыку сістра чысціць бульбу (Р. Шлягіна, Ветк.+Багданавічы, Карм.).

СЛУ′БІК *м.* сейбіт. Добры Якаў колісь слу′бік буў (Дубраўка, Добр.).

СЛУ′БЦІ *незак., тое, што* скуба′ць. Нявестка прыедзе, забіла курыцу, а цяпер слу′бці трэба (Дарашэвічы, Добр.).

СЛУКА′ *ж., заал.* слонка, вальдшнэп. Колькі разоў табе казаць? Ня бяры слуку′, мясо не ўкуснае. Вальдшнэпа ў нас старые слуко′й называюць (Бялёў, Жытк.).

СЛЮЗЯ′НКА *ж., тое, што* слізу′ха. Слюзя′нкі вельмі праціўна браць (Даманавічы, Калінк.).

СЛЮ′НЬКА *ж., заал.* рыба (*дробная, слізкая*). Каму слю′нькі тыя трэба? (Холмеч, Рэч.).

СЛЮТА′ *ж.* слота. Слюта′ якая на дварэ, не вылазіў бы з хаты (Холмеч, Рэч.).

СЛЯЗІ′ЦЬ *незак.* плакаць. Чаго вы слязі′це? (Піркі, Браг.).

СЛЯПА′К *м., арх.* каганец. Патушыце сляпа′к і запаліце лямпу (Вуглы, Ельск.); Сляпакі′ булі, яны дымілі толькі (Піркі, Браг.).

СЛЯСО′К (СЛІСО′К) *м.* узлесак. На празнік хлопцы і дзеўкі ідуць у слісо′к, ідуць весяліцца (Р. Шлягіна, Ветк.).

СМА′ЖАНЧЫК (СМА′ЖЭНЧЫК) *м., памянш.* кавалачак (*смажаніны*). З'еж сма′жэнчык, сало ж таке добрэ (Грушаўка, Нар.).

СМАЖО′НІКІ *толькі мн.* бульба (*смажаная*). Яна толькі смажо′нікі ўмее гатаваць (Заспа, Рэч.+Верасніца, Жытк.; Вышалаў, Петр.; Мікулінічы, Браг.).

СМАКТУ′Н *м., бат.* кветка (*канюшыны*). Мы ў вайну, у галадоўку са смактуна′мі хлеб пяклі (Дубраўка, Добр.).

СМАЛА′ I *ж.* смала (*з дрэва*). Сёння пашла сабіраць смалу′ ў лес (Насовічы, Добр.).

СМАЛА′ II *ж., толькі адз., тое, што* салёна. Трэба ісці здаіць смолу′ (Ляскавічы, Петр.+Стадолічы, Лельч.). *Парайн.* смаліна′ смалі′чка, смо′лак, смо′лка.

СМАЛГАВА′ТЫ *прым.* смуглявы. Вунь у соседа дзеці смолгова′ты (Аравічы, Хойн.).

СМАЛІНА′ *ж., тое, што* салёна. Смаліна′ — такое ліпкае малако перад ацёлам (Дубраўка, Добр.). *Парайн.* смала′ II, смалі′чка, смо′лак, смо′лка.

СМАЛІ'ЦЬ *незак., экспрэс.* ісці. Што ты сма'ліш па гразі, хіба дарогі табе німа? (Саўгасная, Б.-Каш.).

СМАЛІ'ЧКА *ж., памянш. да* смала' II. У нашай Красулі пачала цячы смалі'чка, наверна, цяліцца скора будзе (Халочча, Чач).

СМАЛЮ'К (СМОЛЮ'К). *м.* смаляк. Як болото корчавалі, то смолюко'ў богато було (Стадолічы, Лельч.).

СМАЛЯ'НКА I *ж.* гатунак груш. З ігруш у саду ў міне толькі смаля'нка (Пярэдзелка, Лоеўск.).

СМАЛЯ'НКА II *ж.* яйка *(вялікоднае).* Кожна дзіця хоча вубраць сабе смаля'нку (Баравое, Лельч.).

СМАЛЯ'НКА III *ж.* грыб *(паганы).* Хаця б заместа апеняк смаля'нак ні набраць (Каравацічы, Рэч.).

СМАЛЯ'НКА IV *ж., бат.* смолка. Смоля'нка ліпне за рукі, цвіце розавымі цвяточкамі, росце по старополіцах (Стадолічы, Лельч.).

СМАЛЯНУ'ЦЬ *зак., экспрэс.* пабегчы. Смаляну'ў дык смаляну'ў, аж дух заняло (Марозавічы, Б.-Каш.). *Парайн.* сукану'ць.

СМАЛЯ'Р *м.* смалакур. Мой бацька смаляро'м быў (Ручаёўка, Лоеўск.); Смаляры і жылі там, і смалу выраблялі (Кароткавічы, Жлоб.); У смаляро'ў раней дзёгаць бралі, шчоб калёсы смазываць у вазах (Дубраўка, Добр.+Стадолічы, Лельч.).

СМАЛЯЧО'К *м., памянш. да* смаляк. Падкладзі пад дровы смалячо'к (Палессе, Чач.); А смалячкі з карчоў сукаватыя (Бабовічы, Гом.+С. Дзятлавічы, Гом.).

СМАРКА'Ч *м., заал.* ёрш. Ерш — склізкі такі, смаркаты. Ершаў у нас ешчэ смаркачы' называюць. Смарка'ч — ето сама худша рыба: скольска, колецца (Чалюшчавічы, Петр.).

СМАРО'ДА *ж., бат.* кустарнік *(парэчкі).* Чагось смаро'да сохці пачала (Р. Бурыцкая, Лоеўск.); Ты гэта наламай смаро'ды, мая дзетка (Б. Крушынаўка, Раг.+ +Хізы, Ветк.; Халочча, Чач.).

СМЕТНІЧО'К (СМЯТНІЧО'К) *м.* верабейка. Смятнічо'к вядзецца ў хлеве (Лядцы, Светл.).

СМО'ЛАК *м., толькі адз., тое, што* салёна. Трэба не даіць зараз карову, бо я бачу, што ўжэ бяжыць смо'лак (Навінкі, Калінк.). *Парайн.* смала' II, смаліна, смалічка, смо'лка.

СМО'ЛДА *ж., бат.* смолка. Смо'лда тут рэдка сустракаецца (Піркі, Браг.); Карова смо'лду не есць, бо яна

тоўстая, нясмашная (Аравічы, Хойн.). *Параўн.* смо′лка II.

СМО′ЛКА I *ж., толькі адз., тое, што* салёна. Ужэ ў мае каровы выйшла смо′лка, ды клейкая (Завайць, Нар.)' Няма чагось у маёй каровы смо′лкі (Марозавічы, Б.-Каш.); Нясу вядзерца з капляй смо′лкі (Іванаўка, Хойн.; Меркулавічы, Чач; Чалюшчавічы, Петр.); Калі карова вот цяліцца, дык дае смо′лку (Баравікі, Светл.+ +Кароткавічы, Жлоб.; Насовічы, Добр.; Чалюшчавічы, Петр.). *Параўн.* смала′ II, смаліна′, смалі′чка.

СМО′ЛКА II *ж., бат., тое, што* смо′лда. Смо′лка больш на лугу расце, цвіце розавым, а сама ліпкая (Пярэдзелка, Лоеўск.); Смо′лку каровы не ядуць (Багданавічы, Карм.).

СМО′ЛКА III *ж.* смаліна′. Вон у мяне сколькі смо′лкаў на пячы (Дубраўка, Добр.). *Параўн.* смоль.

СМОЛЬ *ж., тое, што* смо′лка III. Раней палілі смоль на каменку і пралі (Любань, Б.-Каш.+Дзям'янкі, Добр.); А ў смо′лі копаць, а гарыць харашо (Неглюбка, Ветк.).

СМУГА′ I *ж., толькі адз.* смутак. Якаясь смуга′ напала на мяне (Дубраўка, Добр.).

СМУГА′ II *ж.* вяршок. Здымі з гладышкі смугу′, дай памажся, бялейшая будзіш (Холмеч, Рэч.).

СМЫК *м., перан.* чалавек *(худы).* Чым ты так сваю жонку дапякаеш, адзін смык з яе астаўся (Хальч, Гом.); Ездзіш усё, здзелаўся смы′кам (Быч, Карм.).

СМЫ′ЧЫЦЬ *незак.* прасці. Ты ж лаўчэй смы′чыш (Баравікі, Светл.)' Адной рукой смы′ча, другой круцял (Быч, Карм.).

СМЯРДЗЮ′К *м., заал.* тхор. Смярдзю′к краўся да куры (Дзяржынск, Лельч.).

СМЯРДЗЮ′Х *м., заал.* клоп. Нэ даві, поскідай лучэй, а то як начнут смердзець тэ смердзю′хі (Грушаўка, Нар.).

СМЯРДЗЮЧЫ′ХА *ж., заал.* самка тхара. Смердзючы′ха задушыла ціпляня (Дзяржынск, Лельч).

СМЯТА′ННЕ *н., пчал.* вылет *(маткі на аблёт).* Матка вылетае на смета′нне (Ламавічы, Акц.).

СМЯТА′ННІК *м., перан.* пястун. Гэты смята′ннік не хоча есці гуркоў (Пяраро ў, Жытк.); Калі адзін у сям'і, дык смята′ннік. Ды ў нас тут смята′ннікаў нямнога, дзяцей пабагату (Дубраўка, Добр.+Юравічы, Калінк.).

СМЯХО'ЦЦЕ *н., экспрэс.* смех. Ой, там такое было смяхо'цце! (Піркі, Браг.).

СМЯХУ'Н *м.* жартаўнік. Пятро ў нас смяху'н (Неглюбка, Ветк.).

СНОВА'ХА *ж.* снавальшчыца. У нас кросны сноваць заўсёды добру снова'ху завуць (Стадолічы, Лельч.).

СНЕГАЛО'М *м.* дрэвы *(зламаныя снегам).* Снегало'м — ета дрэвы, якія павалілі снегам (Бабовічы, Гом.) Як буран прайшоў, столькі снегало'му нарабіў (Бялёў, Жытк.); У гэтым году булі снегало'мы (Дарашэвічы, Петр.).

СНЕГАЎЦЫ' *толькі мн.* боты *(жаночыя).* Каб трохі падбіць каблук снегаўцо'ў, дык і бегала б шчэ зіму (Вышамір, Рэч.).

СНЕДЗЬ *ж., спец.* дошка *(для закрывання лятка).* Каб дзе дошку ўзяць добрую, трэба снедзь зрабіць (Мілашэвічы, Лельч.).

СНІ'МШЧЫК *м.* фатограф. У нас у дзярэўні німа свайго сні'мшчыка (Дубраўка, Добр.).

СНО'ЗА *ж., тое,* што скабка. Выцягні сно'зу з пальца (Грушаўка, Нар.).

СНО'САК *м.* яйцо *(малое).* Маладзенькі куры сно'скі даюць (Баравікі, Светл.).

СО'БСЦВЕННА *прысл.* асабіста. Пірадай, ніхай ён со'бсцвінна прыдзе (Радзівілавічы, Раг.).

СО'ДНІК *м., кулін.* блін *(на содзе).* Разводзім на вадзе і содзе і пячом, потым складаем учацвёра — со'днік (Грушаўка, Нар.); А то малыя ў нас бліны, так іх со'днікамі мы называем (Аравічы, Хойн.).

СО'ЙКА *ж., кулін.* сайка *(з салодкага цеста).* Ды вазьмі ж ты со'йку, яна ж смашная (М. Аўцюкі, Калінк.).

СО'ЛАНКА (СО'ЛІНКА, СО'ЛЯНКА) *ж., тое, што* сала'мка. Прыелася етая со'ланка ўжэ (Маркавічы, Гом.); Мой зяць як прыедзе, заўсёды яму со'ланку вару (Дубраўка, Добр.); Кажды дзень со'лінка да со'лінка (Зялёныя Лукі, Гом.); Вараная бульба ў нас завецца со'лянкай (Насовічы, Добр.); *Парайн.* салёнка, сало'нікі.

СО'ЛАМ'Е (СО'ЛАМЯ, СО'ЛАМ'Я) *н., толькі адз.* чалеснік. У печы абвалілася со'лам'е (Вуглы, Ельск.); Пастаў гаршчок у со'лам'е (Ломыш, Хойн.); Дровы гараць добра, дык хаця б со'ламя не загарэлася (Карот-

кавічы, Жлоб.); Со′лам'я выціраюць венікамі, каб сажа не загарэлася (Валокі, Хойн.).

СО′ЛЬНЫ *прым.* салёны. Чаго вада такая со′льная? Парасалілі? (Быч, Карм.).

СОН I *м., бат., тое, што* савашні′к Ну, кажа, зрэзаў сон (Калінін, Хойн.); Вераб'і і ўвесь сон паўклёвалі (Астрагляды, Браг.); Выбралі семкі з сона (Чкалава, Гом.); Сны ў калгасе сеюць з кукурузай (Аравічы, Хойн.)//шалупінне. Я тут ужо пазамітала, а ві зноў насмецілі со′намі (Грушаўка, Нар.). *Параўн.* сана′, сло′ній, со′начнік, со′нца, со′ўнешнік (со′нечнік).

СОН II *м., бат.* прастрэл. Сон вясной у ельніку цвіце сінім цветам (Баравікі, Светл.); Сон — трава цвіце такімі балбатункамі (Бялёў, Жытк.); Ужэ саны′ ў лесе ёсць (Барталамееўка, Жытк.).

СО′НАЧНІК (СО′НЕЧНІК, СО′НАШНІК, СО′НІШНІК, СО′НЯШНІК) *м., тое, што* савашні′к. Со′начніку насаджала поўны агарод (Забалоцце, Раг.); Со′нечнікаў мы мала сеім (Холмеч, Рэч.); Адкруці галовы со′нечнікам (Запясочча, Жытк.); Со′нашніку багата ў вас (Заходы, Рэч.); Зранку со′нішнікі паварочваюцца к сонцу (Заспа, Гом.); У агародзі посадзілі со′няшнік (Ламавічы, Акц.). *Параўн.* сана′, сло′ній, сон I, со′нца, со′ўнешнік (со′нечнік).

СО′НКІ *толькі мн., тое, што* савашні′к. На печку забярэшся ды со′нкі лузгаеш (Грушаўка, Нар.). *Параўн.* сана′, сло′ній, сон I, со′начнік, со′ўнешнік.

СО′ННІК I *м.* сцябло *(сланечніка)*. Длінныя со′ннікі параслі (Бабовічы, Гом.).

СО′ННІК II *м.* соня. У міне сын дык со′ннік, усё спіць і спіць. Ніколі не бачыла такога со′нніка (Чалюшчавічы, Петр.).

СО′НЦА *н., перан., тое, што* савашні′к. Со′нцы ж былі дужа харошыя, як на дзіва выраслі (Літвінавічы, Чач.); Со′нцы раней багата не сеялі (Марозавічы, Б.-Каш.). *Параўн.* сана′, сло′ній.

СО′ЎНЕШНІК (СО′ЛНЕЧНІК) *м., тое, што* савашні′к. Дзе ты скруціў со′лнечнік (Камаровічы, Петр.); У мене такія велікія колёса ў со′ўнешніку (Стадолічы, Лельч.); У етым годзе ў саўгасе насеялі многа со′ўнешнікаў (Багуцічы, Ельск). *Параўн.* сана′, сло′ній, сон I, со′начнік, со′нкі, со′нца.

СПАВЕЯ'Ч *м.* спавівач. Спавея'ч — гэта метры можа два-тры марлі (Хізы, Ветк.).

СПАВЯСЦІ'ЦЬ *зак.* апавясціць. Каб ты крыху раней спавясці'ў, дык ён не апаздаў бы (Тульгавічы, Хойн.).

СПАДНЯ'К I *м., спец.* камень *(ніжні ў жорнах).* Спадня'к ляжыць на дашчаным насціле і ахоўваецца кругом шынай (Хізы, Ветк.); Пайду дапамагу куваць яму спадня'к, а вярхняк пускай сам (Бабовічы, Гом.).

СПАДНЯ'К II *м.* спадніца *(ніжняя, саматканая).* Пад іспод насілі спадня'к, каб відны былі канурачкі, кружава (Ламавічы, Акц.); Наткала сабе спадняко'ў, а насіць некалі (Шылавічы, Чач.).

СПАЖЫ'ЦЬ (СПОЖЫ'ЦЬ) *зак.* нажыць. Будзе ўспомінок, што маці ткало. Да і трэ спожы'ць, каб було (Бялёў, Жытк.).

СПАЗНА'ЦЦА *зак.* пазнаёміцца. Сын спазна'ўся з дзяўчонкай і ажаніўся (Быч, Карм.).

СПАЛЯВА'ЦЬ *зак.* упаляваць. Мусіць, нічога сёння ні спалява'лі (Прудок, Калінк.).

СПАМАЛЕ'НСТВА *прысл.* змалку. Спамале'нства гора мне з ім (Неглюбка, Ветк.).

СПАМЫЛІ'ЦЦА *зак.* памыліцца. Спамылі'лася да ні так у бёрда кідаць стала (Гарадзец. Раг.).

СПАНІ'ЦА (СПОНІ'ЦА) *ж., тое, што* сінёўка. Спані'ца красівая, і я такую сабе пашыю (Насовічы, Добр.); Ну і споні'цы дзеўкі цяпер шыюць, аж не можна глядзець (Бялёў, Жытк.); І чаго яна тымі спані'цамі задаецца? (Камаровічы, Петр.).

СПАПАРАСКАВА'ЦЬ (СПАПАРЯСКАВА'ЦЬ) *зак.* спалохацца. Заікаецца дзіцёнак цяпер, як уночы ён яго спапаряскава'ў (Палессе, Чач.). *Парайн.* спапараскава'цца.

СПАПАРАСКАВА'ЦЦА (СПАПАРЯСКАВА'ЦЦА) *зак., тое, што* спапараскава'ць. Храбрэц заяц, ды ваўка спапаряскава'ўся (Палессе, Чач.).

СПАПЯНА'ЦЦА *незак., перан.* распінацца. Хоць жа ты тут спапіна'йсь: і ні адзець нечага, ні абуць (Палессе, Чач.).

СПАРАЖНІ'ЦЬ *зак.* апаражніць. Спаражні' мне пасудзіну (Палессе, Чач.).

СПА'РТА *ж., бат.* спарыш. На сцежы расце спа'рта (Неглюбка, Ветк.).

СПАРТО′СІЦЦА *зак.* сапсавацца. Етыя гуркі трохі спарто′сіліся (Палессе, Чач.).

СПАРЫЖУВА′ЦЬ *зак.* паралізаваць. Яго спарыжува′ла, як пасля вайны прыехаў (Грушаўка, Нар.).

СПАРЫШАВА′НЫ *прым.* зрошчаны. Усялякіх дзёраў я набачыўся, а вось спарышава′ных — первы раз (Б.-Крушынаўка, Раг.).

СПАРЫШЫ′ *толькі мн., бат.* зросткі *(агуркоў)*. Што гэта за прыкмета, на градзе адны спарышы′? (Новая Дуброва, Акц.); У маіх агуркоў столькі багата спарышо′ў (Даманавічы, Калінк.+Халочча; Чач.; Чалюшчавічы, Петр); *Парайн.* суро′сціна//зросткі *(дрэў)*. Вон тэй пакажа табе месца ў лесе, дзе спарышы′ растуць (Багданавічы, Карм.).

СПАРЫ′ШЫКІ *толькі мн., бат., памянш. да* спарышы′. Спары′шыкі сустракаюцца рэдка (Баравікі, Светл.).

СПАСКУ′ДЗІЦЬ (СПОСКУ′ДЫЦЬ) *зак.* сапсаваць. Спаску′дзіў ўвесь мне дзень (Узнаж, Рэч.); Хіба ты столькі з'еш? Толькі споску′дыш (Грушаўка, Нар.).

СПА′СНЫ *прым.* вынослівы. Вот спа′сны гэты жук, робіць штодзень і толькі красный такі (Навасёлкі, Петр.).

СПАСО′Б'Е *н.* пенсія. А ці палучаеш ты, маладзец, хоць спасо′б'е? (Гарадзец, Раг.); Спасо′б'е палучаю дваццаць гадоў (Пясчанікі, Жытк.).

СПА′СЦІЦЬ *зак.* патравіць. А помніш, як спа′сцілі атаву, а ён бучкі заняў у хлеў? (Прудок, Калінк.+Вышалаў, Петр.).

СПАТЫКА′ННЕ *н.* фігура кадрылі. У кадрылі ёсць розныя калены: спатыка′нне, ключа, праходка, вароты (Кароткавічы, Жлоб.).

СПАХА′НЫ *дзеепрым.* сцёрты *(венік)*. Розкач — дак ето што спаха′ны венік (Вышалаў, Петр.).

СПАХА′ЦЦА *незак.* аспрэчваць, пярэчыць. Ні буду спаха′цца, мо і так, як ты сказаў (Вышалаў, Петр.).

СПЕЦЫЯ′ЛЬНА *прысл.* добра, па-майстэрску. О, каб вы толькі знаті, як яны спецыя′льна іграюць (Быч, Карм.).

СПРА′ЎНЫ *прым.* прыгожы. Я адразу ўгледзіў, што гэта спра′ўная дзеўка (Усохская Буда, Добр.).

СПРАЦО′ВАНЫ *прым.* працавіты. Федар вельмі спрацо′ваны чалавек, ніколі без дзела не пасядзіць (Антонаў, Ельск.).

СПУСК *м.* палатно *(вышэйшага гатунку)*. Са спу′ску сарочкі шылі (Чалюшчавічы, Петр.); Калісь на вячорцы дзяўкі многа спу′ску ткалі (Вышалаў, Петр.).

СПЯВУ′Н *м.* спявак. Паглядзіце, спеву′н ужэ прышоў (Лельчыцы).

СТАВА′ *ж.* паша. Сёння товар у ставу′ погонят, мо там будзе трохі лепей (Бялёў, Жытк.).

СТАВЕ′Ц *м.* шафка. Ставе′ц стаў тут радам, ля вакна (Ветлін, Раг.). *Парайн.* су′днік, судзень.

СТАВО′К I *м.* запруда. Ета яна такая, як пападзеш— не выядзеш, во то і ставо′к (Дубраўка, Добр.+Дзяржынск, Нар.).

СТАВО′К II *м.* бабка *(снапоў)*. Нажала пяць стаўко′ў жыта (Махновічы, Маз.).

СТАВО′К III *м., тое, што* садо′к II. Учора ставо′к поўны палучыў (Бялёў, Жытк.).

СТАВЫ′ (СТА′ВЫ, СТО′ВЫ) *толькі мн., спец.* кросны. Чае ў вас такія нізкія ставы′? Узялі 'б мае, етыя ж некія незграбныя (Тонеж, Лельч.); Бакі станка — ета ставы′, што ткуць (Дубраўка, Добр.); Унясі ставы′, будзем кросна чыніць (Марозавічы, Б.-Каш.+Крапіўня, Рэч.; Паганцы, Светл.; Пярэдзелка, Лоеўск.; Старажоўцы, Жытк.; Хізы, Ветк.); Стовы′ ляжалі ў сенцах (Стаўбун, Ветк.). *Парайн.* стаў III.

СТАГАВА′ЦЬ *зак.* сціртаваць. Січас сена ўжо стагу′ем, а скора і салому будзім скірдаваць (Дубраўка, Добр.+Бабовічы, Гом.; Неглюбка, Ветк.).

СТАГА′Н *м.* чыгун. На такую араву нада яшчэ большы стага′н (Тульгавічы, Хойн.); Прыстаў у печ стага′н с картоплямі свінням (Бярэзнікі, Жытк.).

СТА′ДА *ж.* 1. статак. На нашым пасёлку бальшое ста′да кароў. (Іскра, Чач.); 2. *перан.* гурт *(людзей)*. У яе скрозь ста′да ля хаты (Баравікі, Светл.); 3. чарада. Вунь ста′да вераб'ёў паляцела (Неглюбка, Вет.).

СТАЖА′РНІК *м., бат.* пралеска. Стажа′рнік добра пры печані (Марозавічы, Б.-Каш.).

СТАЖО′К *м., перан.* мурашнік. Стажкі′ ў мурашак тут маленькія, не заўсёды і ўбачыш (Багданавічы, Карм.).

СТА′ЙЛА (СТА′ЙЛО) *н.* 1. дрэва *(дуплаватае, дзе жывуць пчолы)*. Найшлі ў лесе мы сёння ста′йла з пчоламі (Вышалаў, Петр.+Новая Дуброва, Акц.). *Парайн.* ста′йліна (сто′йліна); 2. пчальнік. У нашым колхозі ду-

жэ красівое ста′йло (Бялёў, Жытк.); Андрэй, збегай позові бацька да пойдзем на ста′йло хожаць пчол (Стадолічы, Лельч.).

СТА′ЙЛІНА (СТО′ЙЛІНА) *ж., тое, што* ста′йла *ў 1 знач.* Мой хлопец бачыў у лесе ста′йліну з пчоламі (Кароткавічы, Жлоб.); Як седзяць пчолы ў берозе, то завуць берозава сто′йліна (Заходы, Лельч.).

СТАКРО′ШКА *ж., бат.* маргарытка. Стакро′шка вельмі смачна пахне (Усохская Буда, Добр.).

СТАЛБУ′Х *м.,* цурбан. Мой Іван прынёс такі сталбу′х (Крупец, Добр.).

СТАЛБЯЧО′К *м., памянш.* да куплет. Бывае чатыры сталбячкі′ і пяць сталбячко′ў у песні (Хізы, Ветк.).

СТАЛЕ′Ц (СТО′ЛЕЦ) *м., тое, што* слон. Стале′ц такі маленькі, каб садзіцца (Піркі, Браг.); Стале′ц чыста памый (Аравічы, Хойн.+Углы, Нар.); Дай сто′лец прысесці чалавеку з дарогі (Нароўля, Калінк.); Вылумалася дзірка ў канапі і ў сто′лцы (Аравічы, Хойн.).

СТАЛО′Н *м., бат.* парастак. Летам з тых глазкоў стало′ны павырасталі (Піркі, Браг.).

СТАЛО′ЎКА *ж.* сталовая. А во ета стало′ўка рыбеча (Ручаёўка, Лоеўск.).

СТАЛЬВА′ГА (СТЭЛЬВА′ГА) *ж.* каромысел. Дзеўкі, чаго вы носіце вёдры ў руках? Бярыце стэльва′гу, лягчэй будэ (Грушаўка, Нар.).

СТАЛЬНІ′ЦА *ж., буд.* 1. сталяніца. У столі адна стальні′ца выгніла (Холмеч, Рэч.); Есць у нас і стальні′цы, ён здзелаў, а прыставіць німа калі (Баравікі, Светл.+Дуброўка, Добр.; Хізы, Ветк.). *Парайн.* стальні′чына//маснічына. Бульбу засыпалі пад самую стальні′цу (Р.-Шлягіна, Ветк.); 2. верх *(стала)*. Забітага кабана патрашыць паклалі на стальні′цу (Заспа, Рэч.).

СТАЛЬНІ′ЧЫНА *ж., тое, што* стальні′ца *ў 1 знач.* Вон тая стальні′чына сільна рассохлася (Янова, Ветк.); Стальні′чыны наразаюцца патаўшчэй, а то як хто ходзя па чардаку, дык стальні′чыны выгінаюцца аж (Косаль, Карм.+Гардуны, Добр.).

СТАЛЯ′РКА *ж.* 1. сталярная работа. Ды сталя′рку і не думалі пака пачынаць рабіць (Бялёў, Жытк.+Гардуны, Добр.; Крынкі, Рэч.; Чалюшчавічы, Петр.); 2. сталярства. Сталя′рка міне корме (Марозавічы, Б.-Каш.).

СТАЛЯРЫ′ХА *ж.* жонка сталяра. Ды сталяры′ха — мая суседка (Кароткавічы, Жлоб.).

СТАНАВІ'ЦЬ *незак.* будаваць. Паслалі грошай пасынку, трэба хату станаві'ць (Прудок, Калінк.).

СТАНО'ЖКА *ж., заал.* сараканожка. Стано'жка дзе сырасць, там яна пладзіцца (Юравічы, Калінк.); Сараканожак у нас называюць і стано'жкі, бо ў іх вельмі багата ножак, мо цэлых сто будзе, як пашчытаць (Чалюшчавічы, Петр.).

СТАРАДА'ЎНІШНІ *прым.* старадаўні. А старада'ўнішнія песні ў нас амаль ніхто ні помніць (Бялёў, Жытк.).

СТАРАЖО'ЎКА *ж.* 1. вартоўня. Старажо'ўка ўжо была старэнькая (Зенькавіна, Карм.); 2. пчала *(вартавая)*. Еты старажо'ўкі пільнуюць у вуллі (Баравікі, Светл.).

СТАРАЖО'ЎСТВА (СТОРОЖО'ЎСТВА) *н.* вартаўніцтва. Дзве сястры на сторожо'ўства пайшлі (Бялёў, Жытк.).

СТАРАКО'ЖУВАТЫ *прым.* разумны. Гэтае дзіцё такое старако'жуватае (Дубраўка, Добр.).

СТАРАНА' *ж.* прыстаронак *(у гумне для снапоў)*. Снапы звозілі ў гумно і клалі ў старану', а тады на ёўню (Марозавічы, Б.-Каш.); І тая і другая старо'ны закладзены жытам (Неглюбка, Ветк.+Халочча, Чач.).

СТАРАПО'ЛІЦА *ж.* залеж. Нашыя хлопцы ганяюць мяч на старапо'ліцы (Бялёў, Жытк.); На наступны год будзем сеяць на старапо'ліцы (Брынёў, Жытк.+Стадолічы, Лельч.). *Параўн.* старапо'ль.

СТАРАПО'ЛЬ *н., тое, што* старапо'ліца. Старапо'ль называлі, калі даўно апрацоўвалася зямля (Калінін, Хойн.).

СТАРА'ТЛІВЫ *прым.* старанны, працавіты. Міша ў нас самы стара'тлівы: за што ні возьміцца — не адступіць, пака не зробіць (Халочча, Чач.+Хізы, Ветк.). *Параўн.* стара'тны.

СТАРА'ТНЫ *прым., тое, што* стара'тлівы. Хазяін твой, мусіць, стара'тны чалавек? (Кароткавічы, Жлоб.).

СТА'РАЦКІ *прым.* жабрацкі. Хадзілі раней старцы з вёскі ў вёску, ігралі на бандурах, пелі песні ста'рацкія (Кароткавічы, Жлоб.).

СТА'РКА *ж.* першы ўкос травы. Як ста'рку ўбіралі, цёпла было (Палессе, Чач.).

СТАРКАВА'ЦЬ *зак.* здзерці. Ё каму есьці: сённі кош бульбы старкава'ла на аладкі (Млынок, Ельск.).

СТАРУ′ХА *ж.* старыца. Пайшоў мой хлопец на стару′ху з вудачкай (Дземідаў, Нар.). *Параўн.* стары′к *у 1 знач.*

СТАРЧА′ВЫ *прым.* корань дрэва *(галоўны).* Ёсць мелкія корні, а гэты старча′вы (Дуброўка, Добр.+Аравічы, Хойн.).

СТАРЧАКА′ *прысл.* старчаком. Напіўся, дык з усіх чатырох старчака′ паляцеў (Крыўск, Б.-Каш.).

СТАРШЫНІ′ХА *ж.* жонка *(старшыні).* Прыходзіла до нас у госці старшыні′ха (Грушаўка, Нар.).

СТАРЫ′К *м. 1. тое, што* стару′ха. Стары′к нашай рэчкі ўжэ зацягнуўся травой і цінай (Янова, Ветк.); На стары′к ужэ ўсе забыліся, што там лавілася рыба (Норкаўшчына, Карм.+Углы, Ельск.; Холмеч, Рэч.; Арэвічы, Хойн.); 2. дрэва *(старое).* У лесе старыко′ў было немнога (Храпавічы, Браг.); 3. месяц *(поўны).* На старыку′ нельзя косы абразаць (Холмеч, Рэч.).

СТАРЫЧО′К *м., памянш. да* стары′к *у 3 знач.* Заўтра старычо′к наступае (Дзям'янкі, Добр.).

СТАРЭ′ЗНЫ *прым.* састарэлы. Карова старэ′зная-старэ′зная, восенню здаваць буду (Бялёў, Жытк.).

СТА′ТУЙ *м., неадабр.* чалавек *(нязграбны).* Вось ста′туй пайшоў непаваротлівы (Холмеч, Рэч.); Ста′туй ты нягодны, непаваротлівы (Неглюбка, Ветк.); Чаго ты стаіш на парозі, як ста′туй? (Хізы, Ветк.).

СТАЎ I *м.* вадаём *(штучны).* Стаў у нас ёсцека даўнішні, его вукапалі шчэ гадоў мо сорак назад (Холмеч, Рэч.+Неглюбка, Ветк.).

СТАЎ II *м.* зямля *(зарослая хмызняком, балотная).* Сёлета будуць разрабатываць стаў (Капань, Рэч.).

СТАЎ III *м., тое, што* ставы′. Садзісь за стаў і пачынай ткаць (Бялёў, Жытк.).

СТАЎБНЯ′К *м., спец.* частка сахі. У маёй сахі зламаўся стаўбня′к (Неглюбка, Ветк.).

СТАЎБУ′Н I *м.* гладыш. Стаўбу′н з молоком спусці ў пограб (Карчовае, Хойн.).

СТАЎБУ′Н II *м., бат.* кветканоснае сцябло *(цыбулі).* Наша цыбуля ўся ў стаўбуны′ пайшла (Новая Дуброва, Акц.); Цыбуля ў стаўбуна′х стаіць (Зарэчча, Жлоб.+Юравічы, Калінк.). *Параўн.* стрэ′лка *ў 1 знач.*

СТАЎБУНО′К *м., памянш. да* стаўбу′н I. Стаўбуно′к і гаршчок — ета не одно і то жа (Святое, Жлоб.).

СТА′ЎНІЦА *ж.* бочка *(для збожжа).* Ста′ўніца —

веліка бочка, ля ста́ўніцы і жорнава навек стаялі (Рудня, Калінк.).

СТАЎПЕ́Ц (СТОЎПЕ́Ц) I *м., заал.* судак. Ну і ўмееш ты відумляць, шо зловіў аж дзесяць стоўпце́ў: іх ужэ пошчы нэма ў нашой рэці (Грушаўка, Нар.).

СТАЎПЕ́Ц II *м., спец.* брусок *(грабель).* Стаўпе́ц тожа бярозавы, можа быць альховы і з другога дрэва (Баравікі, Светл.+Н. Гута, Гом.; Харомцы, Акц.).

СТАЎЛЯ́НАЧКА *ж., памянш.* чарачка. За адзін год зрабілася як стаўля́начка (Баравікі, Светл.).

СТА́ЎЧЫК (СТО́ЎЧЫК) *м., памянш.* услончык. Ста́ўчык гэты шчэ дзед мой майстраваў (Тульгавічы, Хойн.); Памый, донька, ста́ўчыкі (Горваль, Рэч.+Кабанаўка, Жлоб.; Славань, Светл.); Я думаю, хто сто́ўчык выцягнуў. А ён з сто́ўчыка прыгая, мо ў больніцу запруць (М. Аўцюкі, Калінк.).

СТА́ЦІВА *ж., ткацк.* станіна. Ста́ціва зусім плохою стала (Сямецічы, Петр.); Ля ста́цівы і калыску стаў, заплача — калыхнеш (Гогалеў, Калінк.); А ў ста́ціву мы становім небо (Дарашэвічы, Петр.+Стадолічы, Лельч.; Юравічы, Жытк.). *Парайн.* ста́цівіна.

СТА́ЦІВІНА *ж., тое, што* ста́ціва. Нясі шчэ адну ста́цівіну (Караваці чы, Рэч.); Ста́цівіны мае нешта вельмі старыя, каб хто новыя здзелаў (Углы, Нар.).

СТА́ЦЦЕ *н.* хвароба. Падкінулася да яго ста́цце з прыстрэку, ледзь адхаялі (Граб'е, Акц.).

СТАШЧА́ЦЬ *зак.* пахудзець. Дужа сташча́ў ён (Неглюбка, Ветк.).

СТАЯ́К I *м.* 1. грубка. Мой чалавек сёлята пераклаў стаяка́ (Чалюшчавічы, Петр.); Нема цепер у нас стаяко́ў, а толькі печы простыя (М. Аўцюкі, Калінк.); 2. комін. Стая́к шырэйшы рабіць нада було: дыму як багата, дык на хату прэцца (Іванаўка, Хойн.+М. Аўцюкі, Калінк., Піркі, Браг.). *Парайн.* стая́н.

СТАЯ́К (СТОЯ́К) II *м.* від вулля. Вулей, які выдзеўблены з колоды, як стоіць, зовут стояко́м, а як лежыць на дзерэве — лежаком (Заходы, Лельч.+Багуцічы, Ельск.; Марозавічы, Б.-Каш.).

СТАЯ́Н *м., тое, што* стаяк I *у 2 знач.* У нашай печы стая́н пачынае развальвацца (Цешкаў, Нар.+Ст. Краснае, Рэч.).

СТАЯ́НКА *ж. стойка.* Яна і без стая́нкі навучылася

хадзіць (Карма, Добр.); Калісь былі стая'нкі для дзяцей (Дарашэвічы, Петр.). *Параўн.* стая'чка.

СТАЯ'ЧКА (СТОЯ'ЧКА) *ж.* 1. *тое, што* стая'нка. Малога пастаў у стая'чку і дай цацку (Маркавічы, Гом.+Піркі, Браг.); 2. табурэтка. Дзеўкі, бярыце з той хаты стоя'чкі ды пасядземце есці (Бялёў, Жытк.). *Параўн.* сто'лак *у 2 знач.*

СТО'БКА *ж.* стопка, варыўня. Сто'бка як хата малая, з каменьчыкаў стаіць печ, печ у ёй з каменейка (Баравікі, Светл.); Мяшкі бульбы згрузілі ў сто'бку (Марозавічы, Б.-Каш.); Там у сто'бцы ляжыць мяса (Гарадок, Жлоб.+Пясочная Буда, Добр.; Пярэдзелка, Лоеўск.). *Параўн.* сцёбка.

СТО'ЛАК *м.* 1. *тое, што* слон. Пашаруй сто'лак, а то гразі на корх (Дарашэвічы, Петр.); Наставіла тых сто'лкаў у хаце, шо не можно пройты (Будкі, Нар.+Рафалаў, Браг.). *Параўн.* сло'нец, ста'ле'ц (сто'лец); 2. *тое, што* стая'чка *у 2 знач.* Гляньце, дзеўкі, якая прыгожая ружа стаіць на сто'лку (Грушаўка, Нар.); Купілі сённі ў магазіні чатыры сто'лкі (Багуцічы, Ельск.).

СТО'ЛАЧКА *н.* 1. *памянш. да* сто'лак *у 2 знач.* Вунь у магазін прывезлі сто'лачкі (Навінкі, Маз.); 2. лаўка *(у лазні).* На сто'лачкі му ставім тазікі з вадой (Багуцічы, Ельск.).

СТО'ЛІШЧЫ *займ.* столькі. А цяпер ужо сто'лішчы людзей, што нас, старых жыцяляў, і не відно за імі (Антонаў, Ельск.).

СТО'ЛКА *ж.* пасма *(валасоў).* У восем сто'лак запляцець адну касу, дак яна, як пранік, тады ляжыць у каго косы харошыя (Баравікі, Светл.).

СТО'ЛЯ *ж.* столь. Ад радасці аж да сто'лі падскочыў (Аравічы, Хойн.); Заўтра свята, Купалаў дзень, сто'лю трэба пабяліць (Бялёў, Жытк.).

СТО'ПАК *м.* атопак. Выкінула з хаты еты сто'пак (Харомцы, Акц.); Міша, паўкідай ты еты сто'пкі куды (Грабава, Жытк.+Дарашэвічы, Петр., Ламавічы, Акц.).

СТОРЧ *прысл.* старчма. Сёння ўпаў з каня прама сторч галавой (Тульгавічы, Хойн.+Турбінка, Маз.).

СТО'ЎПЕЦ *м., спец.* падстаўка *(для трапання льну).* Ну і скрыпіць сто'ўпец, ух, надаеў (Сіманічы, Петр.); І дзе я той сто'ўпец палажыла (Крапіўня, Рэч.).

СТРАДА'ЛЬНЫ *прым.* пакутлівы. Бацька мой страда'льны: ні павязло яму ў жызні (Іскра, Чач.).

СТРАКА′ *ж.* вушка *(у лапці)*. Парваліся ў лапцях стро′кі (Багданавічы, Карм.); Стро′кі вялікія адпусціў (Нісімкавічы, Чач.); Уцягні ў стро′кі аборку (Неглюбка, Ветк.).

СТРАЛА′ *ж.* карагод. Гулялі карагод — стралу′ — ды прыпявалі (Баравікі, Светл.+Марозавічы, Б.-Каш.).

СТРАМНІ′НА *ж.* быстрыня. У тым канцы пачынаецца страмні′на ракі (Дарашэвічы, Петр.); На страмні′не трэба грэбці (Дзякавічы, Жытк.).

СТРАМНЫ′ *прым.* бессаромны. Які ў яе жаніх страмны′ (Плутоўка, Добр.).

СТРАМП *м.* пень. Многа стрампо′ў тырчала ў лесе (Белы Пераезд, Петр.).

СТРА′ННІК *м.* небарака. Мой сын тры гады паступаў у Мінск, але ж не паступіў, вот ужо стра′ннік (Дарашэвічы, Петр.).

СТРАПІ′ЛІСТЫ *прым.* стромкі. Вельмі ўжэ страпі′лістая страха ў суседа (Амельна, Раг.).

СТРАПКА′Ч (СТРЭПКА′Ч) *м.* ручнік. Побегай, мо я дам стрэпкачо′м (Верасніца, Жытк.).

СТРАХАПУ′Д *м., экспр.* страшыдла, пудзіла. Спужалася дзіця такого страхапу′да (Юркі, Акц.). *Парайн.* страхапу′дала.

СТРАХАПУ′ДАЛА *аг., экспр., тое, што* страхапу′д. Куды ты выйшла, страхапу′дала, зараз жа бягі ў хату (Харомцы, Акц.).

СТРАХАТА′ *ж., экспр.* жах. У тую вайну якая страхата′ була (Усохская Буда, Добр.). *Парайн.* страхаці′нне, страхо′цце.

СТРАХАЦІ′ННЕ (СТРАХОЦЕ′ННЕ) *н., экспр., тое, што* страхата′. О, якое ж ета було страхоце′нне (Бялёў, Жытк.). *Парайн.* страхо′цце.

СТРАХА′ЦЦА *незак.* баяцца. Як павязе на край свету, так тады не страха′йцеся, не сумуйце па мамам (Грушаўка, Нар.); Хоцела повечару пайці куды-небудзь, да страха′юся (Аравічы, Хойн.+Піркі, Браг.).

СТРАХО′ЦЦЕ *н., экспр., тое, што* страхаці′нне. Немцы хаты палілі, людзей забівалі. Ой, було страхо′цце (Млынок, Ельск+Браг.).

СТРА′ШКА (СТРА′ШКО) *прысл.* страшна. Як памёрла маці, а я дома сама на ноч засталася, ой, стра′шко (Аравічы, Хойн.).

СТРА′ШКІ *прым. брудны.* А я памыюся, а то стра′шкая такая (Баравікі, Светл.).

СТРО′ІЦЬ *незак.* 1. будаваць. Хацеў стро′іць сабе хату, дэй перадумаў, бо мала шчэ грошай сабраў (Завайць, Нар.+Ручаёўка, Лоеўск.; Тонеж, Лельч.); 2. рамантаваць. Трэба стро′іць хату: крыша пабурылася (Баравікі, Светл.) ‖латаць. Ты чаму панчохі ні стро′іш, рваныя адзяваіш? (Харомцы, Акц.+Бялёў, Жытк.).

СТРОЙ *м., спец.* матэрыял *(будаўнічы).* Строй для хаты ён збіраў некалькі год (Кароткавічы, Жлоб.); Пра строй у нас шчэ гавораць: строймaтэрыял (Бялёў, Жытк.+Засніцы, Лельч.).

СТРО′МІЦЦА *незак.* сароміцца. Не стро′міцеся, дзеўкі, ежце (Бялёў, Жытк.).

СТРО′МКА (СТРУ′МКА) *ж.* стрэмка. Бегаў па вуліцы і стро′мку ў палец загнаў (Дарашэвічы, Петр.); Дай шпульку стру′мку дастаць (Бялёў, Жытк.).

СТРО′ПАЛЬШЧЫК *м.* тралёўшчык. Вон стро′пальшчыкі ідуць ужо з работы (Халочча, Чач.).

СТРО′ПАЦЬ *незак., неад.* ісці. Ну-ка ты, стро′пай туды адсюль (Палессе, Чач.).

СТРО′ЧАНІКІ *толькі мн., арх.* лапці *(лепшага вырабу).* Стро′чанікі жаніхі нявестам дарылі перад свадьбай (Колбаўка, Ветк.).

СТРО′ЧКА I *ж.* шво. У маёй машыні такая гадкая стро′чка (Забалоцце, Раг.).

СТРО′ЧКА II *ж.* стужка. Калі ў дзевак стро′чка ў касе, як красіва глядзець (Кірава, Браг.); Цяпер там стро′чкі капронавыя, а мы так і ні зналі пра іх (Займішча, Добр.); Надзену розавую з стро′чкамі спадніцу (Неглюбка, Ветк.).

СТРУБ *м.* зруб. Старая хата раскіданая, астаўся толькі струб (Баравікі, Светл.+Быч, Карм.; Майскае, Жлоб.).

СТРУ′БІЦЬ *зак.* спаліць. Здзелаеце так ды хату стру′біце (Баравікі, Светл.); Вось так гулялі з агнём і ледзь селішча не стру′білі (Бялёў, Жытк.).

СТРУГА′ *ж.* рэчка *(невялікая).* Мой сасед учора каня ў струзе ўгрузіў (Карчовае, Хойн.).

СТРУГАНУ′ЦЬ *зак., экспр.* дзьмухнуць. Толькі з хаты выйшлі, а вецер як стругане′, дак мы назад (Пракапаўка, Добр.).

СТРУ′ДНІ *толькі мн., спец.* ліштва. Петро хорошыя стру′дні ў акне зрабіў (Бялёў, Жытк.).

СТРУ′ЖКА *ж.* дранка. Колькі трэба дашчанікі ці стру′жкі, залежа ад даху (Бялёў, Жытк.); У суседзей хата пакрыта стру′жкамі (Грушаўка, Нар.+Баравікі, Светл.; Углы, Нар.).

СТРУ′ЧЧА *н., зборн.* струкі *(бабовыя)*. Нарві і прынясі майму хлопцу стру′чча (Дубраўка, Добр.).

СТРУ′ШАНКА *ж.* трасянка, трушанка. Не хапае аднаго сена, дзелаем стру′шанку, хоць саломінка ў рот пападзе — болей будзе (Марозавічы, Б.-Каш.+Стаўбун, Ветк.).

СТРЫГ *м.* стрыж. Стрыгі′ цяпер ні жывуць у нас (Чалюшчавічы, Петр.).

СТРЫГАВА′ЦЬ (СТРЫГОВА′ЦЬ) *незак.* прымётваць. Стрыгава′ць ету мацерыю трэба белымі ніткамі (Вялікае Поле, Петр.); Стрыгова′ла рукаў і мерыла (Бялёў, Жытк.+Юравічы, Калінк.).

СТРЫЖО′НАК *м.* 1. асяродак. Зверху дзерава — ета балонь, а ў сярэдзіні стрыжо′нак (Неглюбка, Ветк.). *Параўн.* сухары′на//стрыжань. Які ў гэтай морквы смачны стрыжо′нак (Неглюбка, Ветк.); 2. нарыў. Глядзі, штоб выцягнула скабку, а то будзе стрыжо′нак (Сівенка, Ветк.).

СТРЫК *м., тое, што* сажань *у 2 знач.* Ну што той брыгадзір робіць? Возьме стрык дый ходзіць па полю дзень (Аравічы, Хойн.). *Параўн.* кавы′лка.

СТРЫКА′ЦЦА *незак.* пячыся. Палола грады, дык крапіва стрыка′лася (Неглюбка, Ветк.).

СТРЫКНУ′ЦЬ *зак., перан.* 1. кінуць. А ну стрыкні′ мяч сюды (Бялёў, Жытк.); 2. стрэліць. Стрыкне′ш, а порах не зразу ўспламяніцца (Ламавічы, Акц.).

СТРЫКУ′ЛЯ *ж.* дзяўчына *(хударлявая)*. А маёй стрыку′лі ўжэ шаснаццать гадоў, а яна хоць бы чуць попоўнела (Замошша, Жытк.).

СТРЫМБО′ЛКА *ж.* палка *(доўгая)*. На дварэ вунь ляжыць арэшкавая стрымбо′лка (Хвойнае, Хойн.).

СТРЫ′СЦІЦЬ *зак.* ссукаць. Каб звізаць свіцер, трэба стры′сціць некалькі нітак (Піркі, Браг.); Стры′сціла дзве ніткі ў кучу (Ламавічы, Акц.+Забалоцце, Раг.; Івакі, Добр.; Халочча, Чач.; Хізы, Ветк.).

СТРЫ′ФЛІК *м.* накладка *(на прарэх у кашулі)*. Адгладзь добра стры′флік (Чырвоная Буда, Добр.).

СТРЭ′ВА *н.* ствол. Стрэ′ва прамое ў сасны (Юравічы, Калінк.).

СТРЭ′ГЦІ *незак.* сцерагчы. То ты так, доню, стрэ′гла трахтара? (Грушаўка, Нар.).

СТРЭ′ЛКА *ж.* 1. *тое, што* стаўбу′н II. Цыбуля стрэ′лкі пусціла (Неглюбка, Ветк.); Ты толькі паглядзі, увесь часнок у стрэ′лкі пайшоў (Халочча, Чач.+Бялёў, Жытк.; Аравічы, Хойн.); 2. стрэлка *(гадзінніка).* У гадзінніку адна стрэ′лка даўжэй, а другая карацей (Кароткавічы, Жлоб.); Стрэ′лкі ў часах паламаліся (Марозавічы, Б.-Каш.+М. Аўцюкі, Калінк.; Ручаёўка, Лоеўск.); 3. лядзяш. Стрэлкі на страсе звісаюць, як са шкла (Кароткавічы, Жлоб.+Дарашэвічы, Петр.; Піркі, Браг.).

СТРЭ′ПАЧ *м.* дзве жмені льну. Адна змятая жменя льну называецца жменя, а дзве — стрэ′пач (М. Аўцюкі, Калінк.).

СТРЭ′ПКІ *толькі мн.* ніткі *(якія адрэзаны пасля ткання палатна).* Стрэ′пкі засталіся зусім кароткіе (Старажоўцы, Жытк.).

СТРЭ′ЦЬ *зак.* сустрэць. Я ўчора свайго брата стрэ′ла (Дубраўка, Добр.+Стаўбун, Ветк.).

СТУГНІ′СТЫ *прым.* нязграбны. Каб там нявестка була, а то такая нязграбная, стугні′ста (Ламавічы, Акц.).

СТУ′ДЗІНА *ж., кулін.* халадзец. Заўтра празнік, студзіны абязацельна навару (Грабаў, Петр.). *Парайн.* сцю′дзень.

СТУЛІ′ЦЦА *зак.* 1. схіліцца. А я галавой стулі′лася (Баравікі, Светл.); 2. схавацца. Я ўбачыла, як ён стулі′ўся ў хаце, да нічога не сказала (Быч, Карм.).

СТУ′ЛЛЕ *зборн.* штандары. Упакуюць дубовая сту′лля і складаюць падрубіну (Карма, Добр.).

СТУЛЬ *прысл.* адтуль. Партызаны стуль прыйдуць, з лесу (Грушаўка, Нар.).

СТУПА′К *м.* ступня. Баліць нага ў ступаку′ (Вышалаў, Петр.); Вот ступакі′ нахадзіла за дзень (Ламавічы, Акц.). *Парайн.* ступе′нь.

СТУПЕ′НЬ *м., тое, што* ступа′к. А што ж вы думаіці, калі ступе′нь шчыкатаць, сэрца зойдзіцца (Хізы, Ветк.+Залессе, Чач.; Піркі, Браг.; Ручаёўка, Лоеўск.; Холмеч, Рэч.)//Ступнём сенакос, лог яшчэ і цяпер у нас мераюць (Дубраўка, Добр.); А я ступе′нямі помераю свой огород, то і будзе, як у цябе (Стадолічы, Лельч.).

СТУ'ПКА *ж.* 1. ступка. От нацёрла маку ў сту'пцы да пірагі буду пекць (Дубраўка, Добр.+Багуцічы, Ельск.; Залессе, Чач.); 2. сальніца. Насып, доню, солі ў сту'пку (Грушаўка, Нар.); 3. адтуліна ў жорнах. Збожжа засыпаюць ў сту'пку (Залессе, Чач.); 4. калодка *(у коле)*. У сту'пку ўдзелуюцца спіцы (Неглюбка, Ветк.).

СТУСАВА'ЦЦА *зак.* уладкавацца. Ізноў усё стусу'ецца і будзе, як і было (Быч, Карм.).

СТУ'СЛА *ж.* сталюга. Без сту'сла нельга зрабіць рамца (Засінцы, Ельск.); Шчас прынясуць сту'сла і будзем доскі рэзаць (Халочча, Чач.).

СТЫКА'ЦЦА *незак.* знаходзіцца. Дык яна дома і не стыка'ецца (Піркі, Браг.).

СТЫЛЕ'ЧА *ж., экспр.* холад. На двары такая стыле'ча стаіць (Янова, Ветк.). *Параўн.* стыль.

СТЫЛЬ *ж., тое, што* стыле'ча. Ох, стыль якая, носу не высуніш (Піркі, Браг.+Насовічы, Добр.; Ухаў, Ветк.).

СТЫ'РТА *ж., перан.* дзежка, кубел. Шчэ ў мене непачатае сты'рта жыта (Завайць, Нар.).

СТЫ'РЫЦЬ *зак., груб.* украсці. Шчо ты ўжо сты'рыла? Ці не бульбы? (Дубраўка, Добр.). *Параўн.* сцёбнуць *у 2 знач.,* сцы'брыць.

СУ'БАР (СУ'БОР) *м., толькі адз.* сумесь *(збожжа, мукі)*. Су'бар — смешанае зерно, унь, у мяне куча су'бару: ячменю з жытам (Хізы, Ветк.); Су'бар — ета калі змешваюць ячмень і грэчку; і бліны пячы добра з яго (Хізы, Ветк.+Кароткавічы, Жлоб.); Су'бор не кажды дзелаў, а хто багацей буў (Холмеч, Рэч.); Намяшаеш аўса, шчэ чаго-небудзь, ды звязеш, перамелеш на су'бар (Кароткавічы, Жлоб.+Бабовічы, Гом.; Дубраўка, Добр.; Неглюбка, Ветк.; Шылавічы, Б.-Каш.).

СУ'БАРНЫ *прым.* сумесевы, змешаны *(пра муку)*. Трэба купіць мяшок су'барнай мукі, а то ўжэ канчаецца (Багданавічы, Карм.); У калгасе больш для ската мелюць, такую робяць су'барную муку, падмешваюць у корм (Кароткавічы, Жлоб.+Неглюбка, Ветк.).

СУ'ВЕРТАК *м.* вязанка *(лыка)*. Трэба ісці ў лес і надраць хоць су'вертак луцця (Баравікі, Светл.).

СУВО'ЙКА *ж.* сувой. Вон колькі баба суво'ек наткала (Кірава, Жлоб.).

СУВО'ЙЦЫ *толькі мн.* прадоўжаны край бёрда, у

які устаўляюцца трасцінкі. Суво′йцы тарсцінкамі скрапляюць, каб яны не выпадалі (Марозавічы, Б.-Каш.).

СУГА′К *м.* швайка. Гэты суга′к зроблены з косці (В.-Стралкі, Раг.).

СУГЛА′ДЫ (СУГЛЯ′ДЫ) *толькі мн., абрад.* розгляды. Прывядзе во хлопец якую Марыну, і без сугла′д усё здзелаеш (Хізы, Ветк.); Заўтра пойдзем у сугля′ды (Халочча, Чач.).

СУДНО′ *н.* посуд. Бачыш судзён колькі заўтра мыць (Палессе, Чач.).

СУ′ДНІК *м., тое, што* ставе′ц. У мяне быў калісь су′днік для гаршкоў, гладышак, а цяпер німа (Дубраўка, Добр.); Міскі вымі з су′дніка да палажы на стол (Гарадок, Жлоб.); Пастаў у су′днік усе талеркі, а то пераб'юцца (Апанасаўка, Гом.+Загор'е, Б.-Каш.; Маркавічы, Б.-Каш.; Хізы, Ветк.). *Параўн.* су′дзень.

СУ′ДЫ *толькі мн.,* вёдры *(на каромысле).* На ноч прынесла су′ды вады, дык усю выхлябала (Баравікі, Светл.); Байбук вырас нейкі, хоць бы матцы су′ды якія вады прынёс (Меркулавічы, Чач.+Любань, Б.-Каш.).

СУ′ДЗЕНЬ *м., тое, што* ставе′ц. У хаці круп німа, паглядзі там у су′дні (Пакалюбічы, Гом.). *Параўн.* су′днік.

СУЗДРО′М *прысл.* 1. разам. А пралі ўмесці асеродкі і абдзіркі і казалі суздро′м прадом (Холмеч, Рэч). // адразу. Забралі немцы ўсё суздро′м (Бабовічы, Гом.); 2. зусім. Мая дачка пакінула чалавека і суздро′м перайшла к нам жыць (Неглюбка, Ветк.).

СУКА′ЙЛА (СУКА′ЙЛО) *н.* сукала. Беры сука′йло, трэба насучыць ніток, каб хваціло просцілку кончыць (Бялёў, Жытк.+Крапіўня, Рэч. Сямовічы, Петр.; Углы, Ельск.; Юравічы, Калінк.).

СУКАЛЕ′НА *н.* сучляненне *(на сцябле).* Як возьмеш саломінку ў рукі, дык сукале′на адразу відно, як вузлік (Гармавічы, Жлоб.).

СУКАЛЕ′НЦА *н., памянш.* да сукале′на. У пырая е сукале′нцы (Баравікі, Светл.).

СУКАНАПРА′ДКА *ж.* калаўрот. Сыровыя ніткі ссукаюць суканапра′дкай (Баравікі, Светл.).

СУКАНУ′ЦЬ *зак., экспр., тое, што* смаляну′ць. Як сукану′ў праз гразь, толькі пырскі паляцелі (Дзербін, Акц.).

СУКА′Р *м., кулін.* булачка *(з кіслага цеста)*. Я пошла ў лес і ўзяла сукаро′ў з варэннем (Бялёў, Жытк.).

СУКА′Ч *м., ткац.* стрыжань *(на які надзяюць цэўку)*. Сука′ч атрымаўся няўдалы (В.-Стралкі, Раг.).

СУ′КНЯ *ж.* сукенка. Каб доўжэйшая су′кня была, було б хорошей (Дарашэвічы, Петр.); Дам я табе сваю су′кню, будзіш адзяваць? (Хізы, Ветк.+Чкалава, Светл).

СУКО′ННІК I *м.* поўпаліто *(мужчынскае з даматканага сукна)*. Суко′ннік быў цёплы і дажджу не баяўся (Быч, Карм.).

СУКО′ННІК II *м., кулін.* аладка *(з дранай бульбы)*. Печы суко′ннікі хутчэй (Махновічы, Маз.).

СУКО′ННІКІ *толькі мн.* штаны *(суконныя)*. А як жа, сукно ткалі, з яго суко′ннікі мужчынам шылі, ето верхнія штаны (Юравічы, Калінк); У суко′нніках па дровы ездзім (Чкалава, Светл.+Залессе, Чач.).

СУКО′НІЦЫ *толькі мн.* ягады *(цёртыя)*. Яшчэ з таго году засталося многа суко′ніц (Бялёў, Жытк.).

СУ′КРУ′ТКА *ж.* вузел *(на нітках)*. Сукру′тка звілася, бо нітку пацягла (Ламавічы, Акц.); Пагано насучыш ніткі, су′крутак тады багато (Чалюшчавічы, Петр.). *Парайн.* сукры′цель.

СУКРЫ′ЦЕЛЬ *м., тое,* што сукру′тка. Ето калі ніткі з авечкі саўюцца і назыаецца сукры′цель (Юравічы, Калінк.).

СУ′ЛАЎКА *ж.* посцілка. У су′лаўку ўвярцелі (Быч, Карм.).

СУЛУПНУ′ЦЬ *зак., неад.* сказаць *(недарэчнасць)*. Другі раз дзе сулупне′ш — і не красіва (Быч, Карм.).

СУМА′К *м.* бервяно *(у прасценку)*. Гэтае палена пойдзе на сумакі′ (Маркавічы, Гом.).

СУМЕ′СНІЦА *м.* месца *(агульнага карыстання)*. Раней суме′сніцай у нас востраў быў, а цяпер ета ўжо казённы лес (Кароткавічы, Жлоб.).

СУ′МНА I *прысл.* маркотна. Ой, так мне су′мна было! (Піркі, Браг.).

СУ′МНА II *прысл.* наўрад. Су′мна, каб вона столькі ела, бо така худзенька (Грушаўка, Нар.).

СУМО′СНЫ *прым.* сумны. Чаго ты такі сумо′сны, наверна, двойку адхапіў (Міхалькі, Гом.).

СУМЫ′ЛЬ *м., неад.* чалавек *(маўклівы)*. Такі ўжэ сумы′ль (Неглюбка, Ветк.). *Парайн.* сунду′к *у 2 знач.,* сурмі′ла.

СУНДУ′К (СУНДЫ′К) *м.* 1. куфар. Калісь сундукі′ былі, а даўней шчэ кублы былі: ета дзежка такая, туды усё складаюць, а тады закрываюць (Ліпнякі, Лоеўск.+ +Баравікі, Светл.; Грабаўка, Гом.; Дуброва, Петр.; Р.-Шлягіна, Ветк.; Халочча, Чач.); Сундыко′ў ціпер пасці што німа (Дубраўка, Добр.); 2. *перан., тое, што* сумы′ль. Такі маўчун, што слова не выб′еш, празвалі сунду′к (Барталамееўка, Ветк.+Дубраўка, Добр.). *Параўн.* сурмі′ла.

СУНО′ЖКА *ж.* ножка *(табурэткі)*. Будзеш мыць — выцірай суно′жкі ў табурэтцы (Рудня, Чач.).

СУ′НУЦЦА *незак., неад.* 1. мяшацца. Не су′нься ты не ў сваё дзела (Дубраўка, Добр.); 2. цягнуцца, плесціся. Нам трэба было ўжо спяшацца дамой, а ён су′нецца там, як назаўтра трэба (Хвойнае, Хойн.); Так сёння ўтамілася, што чуць су′нуся (Баравікі, Светл.+Дубраўка, Добр.; Камаровічы, Петр.).

СУ′НЕЧА *прысл.* на самай справе, сапраўды. Ён ужо су′неча п'яны стаіць (Крыўка, Раг.).

СУПО′ННЕ *н.* супоня. Без супо′ння каня не запражэш (Дубраўка, Добр.).

СУ′ПРАТКІ *толькі мн., этн.* вячоркі, попрадкі. Су′праткі кончыліся, і ўсе пайшлі дадому (Белы Пераезд, Петр.).

СУПРАЦІ′ВАК *м., тое, што* старана′. Супраці′вак малы вельмі, няма дзе снапоў класці (Амельна, Раг.); На супраці′вак ужэ склалі снапы (Багдановічы, Карм.).

СУ′ПША *ж., тое, што* су′бар. Замалолі свінням су′пшчы (Дуброўка, Добр.).

СУРАЕ′ЖА *ж., бат.* суравежка. Сурае′жы растуць на пораслях (Баравое, Лельч.).

СУРМІ′ЛА *аг., неад., тое, што* сумы′ль. Такая ўжо сурмі′ла, анічога нельга выпутаць (Аравічы, Хойн.+Углы, Ельск.). *Параўн.* сунду′к *у 2 знач.*

СУРО′КІ *толькі мн., чараўн.* урок. Я калісь ішла з сваім Алёшам маленькім, а Марына паглядзела на яго дай кажа, што вельмі харошы хлопчык, дык ён з тых суро′каў чуць ня ўмер (Хамічы, Калінк.+Хімы, Раг.). *Параўн.* суро′цы.

СУРО′П *м.* 1. сіроп. Як была ў Гомелі, дак выпіла два стаканы суро′пу (Шырокае, Б.-Каш.+Дубраўка, Добр.); 2. самагонка. Нада суро′пу нагнаць к празніку (Антонаўка, Добр.+Буйнавічы, Маз.).

СУРО′СЦІНА *ж., тое, што* спарышы′. Вось некалі

стаяла суро′сціна (Забалоцце, Раг.+Шуты, Ельск.); Суро′сціну нада во ў ета месца палажыць (Холачча, Чач.).

СУРО′ЎКА *ж.* 1. палатно *(суровае)*. Выткала суро′ўку на посцілкі (Забалоцце, Раг.); 2. абрус *(суровага палатна)*. На стол пасцялілі красівую суро′ўку (Забалоцце, Раг.).

СУРО′ЦЫ *толькі мн., чараўн., тое, што* суро′кі. Гэта дзіця нездарова, у яго суро′цы: хто-та паглядзеў нядобра (Касцюкоўка, Гом.); Ад суро′цы — соль у вочы (Беразнякі, Петр.+Хутар, Светл.).

СУРО′ЧЫЦЬ *зак., чараўн.* уракнуць. Гэта чалавек вельмі ўрэдны: ён можа суро′чыць, вока ў яго вельмі дрэннае (Касцюкоўка, Гом.); І хто цябе так суро′чыў, каб яго ліха пабрала (Дуброва, Петр.); У це вочы такія паганыя: карову суро′чыла (Ліпнякі, Лоеўск.+Бабовічы, Гом.; Багдановічы, Карм.; Багуцічы, Ельск.; Неглюбка, Ветк.; Пракопаўка, Добр.; Холмеч, Рэч.).

СУРЧЫ′НЫ *прым.* сурковы. Бачыла сурчы′ны вывадак (Ямполь, Рэч.).

СУРЧЫ′ХА *ж., заал.* самка *(сурка)*. Сурок і сурчы′ха вельмі падобны між сабой (Ямполь, Рэч.).

СУРЭ′ПА *ж., бат.* свірэпа. Сурэ′пу сталі добра свінні есці (Р.-Бурыцкая, Лоеўск.).

СУСЛІ′НЫ *прым.* суслікавы. Убачыла першы раз суслі′ную сям'ю (Ямполь, Рэч.); Суслі′ныя норы ў зямле (Засніцы, Ельск.).

СУСЛІ′ХА *ж., заал.* самка *(сусліка)*. Суслі′ха нарадзіла дзяцянят (Кароткавічы, Жлоб.); Я бачыў суслі′ху на полі с суслянятамі (Бялёў, Жытк.); Суслі′х развялось шмат (Бабовічы, Гом.). *Параўн.* суслічы′ха.

СУСЛІЧЫ′ХА *ж., тое, што* суслі′ха. Найшлі хлопцы суслічы′ху (Неглюбка, Ветк.).

СУСО′ЛКА *ж., тое, што* стрэ′лка *ў 3 знач.* Так і всігда перад вясною: на крышах сусо′лкі намірзаюць (Янова, Ветк.); Набярэш етых сусо′лак і смокшыч іх (Марозавічы, Б.-Каш.+Бабовічы, Гом.; Насовічы, Добр.; Палессе, Чач.).

СУСТО′Й *м.* вяршок *(малака)*. Саллі сусто′й і забялі боршч (Асінаўка, Чач.).

СУ′ТАЧКІ *толькі мн.* 1. дрывотнік. У нас цяпер хваціць дроў на зіму: наклалі поўныя су′тачкі (Чамярысы, Браг.); Пашла за дровамі ў су′тачкі, а яны як загрымелі, дык чуць не прыбілі (Піркі, Браг.); 2. праход *(паміж*

*будынкамі)*. Заганіца цялё ў су′тачкі (Холмеч, Рэч.+ +Мормаль, Жлоб.); 3. прамежак (*паміж печкай і сцяною*). Дзед ляжыць на пячы і галаву вусунуў у су′тачкі (Палессе, Чач.).

СУТЫ′РА *ж.* сварка. Суты′ра ў хату ўскочыла (Грушаўка, Нар.).

СУХАВЕ′РШНІК *м., заал.* дзяцел. Сухаве′ршнікі вялікія не буваюць, яны ўсе малыя (Ліпляны, Лельч.).

СУХАВІ′НА (СУХОВІ′НА) *ж.* сухастой. Тут сухові′ну я з покрова наглядзеў (Стадолічы. Лельч.).

СУХАМО′СКІ *прым.* худы *(чалавек)*. І чаго яна такая сухамо′ская (Лельчыцы).

СУХАПА′РАМ *прысл.* раптоўна. Мая цётка памерла сухапа′рам, ні аднаго дня не паляжала (Піркі, Браг.).

СУХАПА′РЫКІ *толькі мн.* бульба *(смажаная)*. Прыстаў сухапа′рыкаў на дзень (В.-Бярэзнікі, Жытк.).

СУХА′Р *м.* 1. *кулін.* сухар. Хлеб на сухары: пасушы (Залессе, Чач.). *Парайн.* сухрапец *(у 1 знач.)*, сушка *(у 2 знач.)*; 2. коржык. Сёгодні такі смачныя сухары′ ўдаліся (Грушаўка, Нар.+Бялёў, Жытк.); 3. *перан.* груда *(замёрзлая)*. Не едзь на лісапеці, аб сухары′ калёсы пагнеш (Неглюбка, Ветк.).

СУХА′РЫК *м., памянш.* да суха′р *у 2 знач.* У цябе такія смачныя суха′рыкі палучыліся (Заспа, Рэч.); Смачных суха′рыкаў напякла, дак дзеці выцяглі ўсё (Н. Дуброва, Акц.).

СУХА′РЫНА *ж., тое, што* стрыжонак *у 1 знач.* У гэтым дрэве тоўстая суха′рына (Забалоцце, Раг.).

СУХАРЭ′БРЫК *м.* чалавек *(сухарлявы)*. Які ж ты сухарэ′брык, аж косці тырчаць (Н. Гута, Гом.).

СУХАТА′ *ж., толькі адз.* 1. суш. Сухата′ высушыла ўсю зямлю (Насовічы, Добр.); Такая сухата′, што ўсё пагарэла на гародзе (Лучын, Раг.+Янова, Ветк.). *Парайн.* сухме′нь; *2. перан.* турбота. Зноў будзе сухата′ на шыі дасада (Белы Пераезд, Петр.); Да нас зноў прышла сухата′ (Антонаўка, Добр.+Жгунь, Добр.; Перароў, Жытк.).

СУХІ′ *прым., перан.* худы. Янка сухі′, а Мар'я глёўкая (Камаровічы, Петр.); Ой, які ты саўсім хлопец сухі′ стаў, як шчэпка (Леніна, Хізы, Хойн.).

СУХМЕ′НЬ *ж., толькі адз., тое, што* сухата′ *ў 1 знач.* Сухме′нь усё высушыла (Насовічы, Добр.+Марозавічы, Б.-Каш.).

СУХРА′К *м.* сухастоіна. Засох ён, як сухра′к (Холмеч, Рэч.).

СУХРА′ПЕЦ *м. 1. тое, што* суха′р *у 1 знач.* Усе сухра′пцы свінне размачыла (Апанасаўка, Гом.). *Парайн.* су′шка I *у 2 знач.*; 2. выраст *(у хлебе)*. Матка хлеба з сухра′пцамі напекла (Бабовічы, Гом.).

СУШЭ′ННЕ *н., толькі адз.* суша. На другі дзень сатварыў бог сушшэ′нне (Баравікі, Светл.).

СУ′ШКА I *ж. 1. кулін.* абаранак. Су′шкі ў лаўку прывезлі (С. Рудня, Жлоб.+Меркулавічы, Чач.); 2. *тое, што* сухра′пец *у 1 знач.* Су′шак свінням ужо цэлую кайстру насабірала (Ручаёўка, Лоеўск.); 3 грыб. *(сушаны)*. Ты кажды дзень ходзіш у лес, дык у цябе мо багата су′шкаў (Даманавічы, Калінк.). *Парайн.* сушо′нік; 4. рыба *(вяленая)*. Су′шку так пасушым, калі хочым, з півам добра (Хізы, Ветк.).

СУ′ШКА II *ж.* матыка. Дзядзько, я нашу су′шку забяру, самі кортоплю разгоняць будзем, дак паднімаць трэбо (Бялёў, Жытк.).

СУШО′НІК *м, тое, што* сушка I *у 3 знач.* У тым гаду сушо′нікаў здала я на 70 рублей (Баравое, Лельч.).

СУШЧУ′КНУЦЬ *зак.* сціхнуць. Сушчу′кні ты, радзі бога, прамо ў вушах звініць (Саўгасная, Б.-Каш.).

СУ′ШЧЫК *м., кулін.* хрушч. А як жа, су′шчыкі пеклі (Маркавічы, Гом.).

СУХРА′П′Е *н., зборн., тое, што* суха′р *у 3 знач.* На дарозе ад сухра′п′я не праехаць (Зялёныя Лукі, Гом.).

СХАДО′К (СХОДО′К) *м.* фаза месяца *(апошняя)*. Вось ужо і сходо′к, можно рабіць усё (Стадолічы, Лельч.); Пасля схадка′ зноў настае маладзік (Івакі, Добр.). *Парайн.* сход.

СХВАТА′ЦЬ *зак., перан.* змайстраваць *(хутка)*. Бацька быстра лапця схвата′ў (Гарадзец, Раг.).

СХВАЦІ′ЦЬ *зак., перан.* пашкодзіць. Схваці′ў туман кветачкі (Холмеч, Рэч.).

СХМА′РЫЦЬ *зак.* захмарыцца. Схма′рыла, будзе дождж (Забалоцце, Раг.).

СХО′ВАНКА *ж.* логава. Ідзеш, а сабака ўжо падняў зайца са схо′ванкі (Хізы, Ветк.); Пазнаў я пра гэту схо′ванку і пайшоў туды (Баравікі, Светл.).

СХОД *м., тое, што* схадо′к. У досвітку наступае сход луны (Кароткавічы, Жлоб.); На схо′дзі маладзіка нільзя абразаць косы (Бабовічы, Гом.).

СХО′ДЗБІШЧА *н.* патрабаванне. Вашы схо′дзбішчы справядлівыя, што і казаць (Злодзін, Маз.).

СХО′ДЦЫ *толькі мн.* сходы. Мамачка, а наш Жучка лёг на схо′дцы і спіць (Бялёў, Жытк.); Дык хіба ж мне старой па тых схо′дцах лазіць (Піркі, Браг.).

СХО′ЖЫ *прым.* падобны. Я, глядзі ты, трохі схо′жа на іхні род (Аравічы, Хойн.).

СХУДНЕ′ЦЬ *зак.* пахудзець. Ой, як ты схудне′ў (Неглюбка, Ветк.); Схудне′ла дзеўка, бы тая шчэпка (Бялёў, Жытк.).

СЦЕБАНУ′ЦЬ *зак., экспр.* пабегчы. Ну заяц сцебану′ў, так сцебану′ў (Каранёўка, Гом.).

СЦЕ′ЖКА *ж., перан.* завязка. Ушыла сце′жкі ў кальсоны, а то кузікі надаела ўжо прышываць (Р. Каменева, Лоеўск.).

СЦЕ′ЛЬНІКІ *толькі мн.* соты. Пчолы робяць з воску сце′льнікі, шчэ на іх кажуць соты, або гнезды (Заходы, Лельч.).

СЦЕ′ЛЬНІЦА *ж.* сарочка *(начная).* У мяне новая сце′льніца (Б. Балсуны, Ветк.).

СЦЕ′НКА *ж.* мера *(палатна).* Вярхоўя тры сце′нкі сёння наткала (Кірава, Жлоб.).

СЦЕ′НЦЫ *толькі мн.* адросткі пер'яў *(пасля ліњкі).* На маіх гусях адны сце′нцы асталіся (Неглюбка, Ветк.).

СЦЕ′РЦІ *зак.* 1. запаліць. Трэба хоць сце′рці запалку, а то так цямно, нічого не бачно (Стадолічы, Лельч.); 2. памыць *(падлогу).* Мне ішчэ нада сце′рці мост ды і на работу бегчы (Амельна, Раг.).

СЦЁБКА (СЦЁПКА) *ж., тое, што* сто′бка. У сцёпцы бульбы ўже мало засталося (Аравічы, Хойн.); Як уроджайный год, то трэшчаць сусекі ў сцёпках нашых (Грычынавічы, Жытк.+Мікулічы, Браг.; Р. Шлягіна, Ветк.; Стадолічы, Лельч.) // хата *(невялікая).* Насця і дасюль сядзіць у сцёбцы (Антонаў, Ельск.) // прыбудова. Узяліся строіць к хаці сцёбку, а рабіць німа каму (Бялёў, Жытк.).

СЦЁБНУЦЬ *зак.* сцебануць. Сцёбнуў добра мяне дубцом па спіне (Камаровічы, Петр.) // *экспр., тое, што* сты′рыць. Да яна пяцьсот рублёў сцёбнула ў мяне, дый хацела шубу купіць (Баравікі, Светл.). *Парайн.* сцы′брыць.

СЦЁРАН *м.* іржышча. А сцёран с клевярам скашу, дак зімой карова за маліну паесць (Бывалькі, Лоеўск.+

+Апанасаўка, Гом.; Дземяхі, Рэч.). *Параўн.* сцёрнішча.

СЦЁРКА I *ж.* дошка *(пральная)*. Будзіш у горадзе, купі новую сцёрку (Марозавічы, Б.-Каш.); Мы на сцёрцы сціраем, хоць на рэчку ідом (Стаўбун, Ветк.). *Параўн.* сці′рка I.

СЦЁРКА II *ж.* запалка. За дзень сцёркі адсырэлі, аж агонь не распалілі (Антонаў, Ельск.).

СЦЁРНІШЧА *н., зборн., тое, што* сцёран. На сцёрнішчы клевер пасадзілі (С. Буда, Б.-Каш.).

СЦІ′ЖБА *толькі адз., зборн.* мноства. На полі пасецца сці′жба авец (Баравікі, Светл.).

СЦІ′ПЛЫ *прым.* 1. эканомны. Ён у мяне хлопец сці′плы, капеечку беражэ (Дубраўка, Добр.); 2. скупы. Такі ён сці′плы, аж дрыжыць за капейку (Баравікі, Светл.).

СЦІРА′ЛЬНІЦА *ж.* балея. Поўную сціра′льніцу бялля натаптала (Чачэрск, Гом.).

СЦІ′РДА *ж., тое, што* скі′рда. І як токі токіе сці′рды поробіла (Грычынавічы, Жытк.).

СЦІ′РКА I *ж., тое, што* сцёрка I. Мая сці′рка зусім паламалася (Кароткавічы, Жлоб.); На сці′рцы лягчэй церці (Дубраўка, Добр.).

СЦІ′РКА II *ж.* ануча. Ну такая ж гразная сці′рка, аж сорам (Неглюбка, Ветк.).

СЦІРКА III *ж.* карта *(ігральная)*. Сці′ркі ляжалі на стале (Замосце, Петр.).

СЦІ′СЛІВЫ *прым.* сарамлівы. Дачка ў яго сці′сліва була такая (Піркі, Браг.).

СЦІХАМІ′РЫЦЦА *зак.* уціхамірыцца. Ойкаў, ойкаў, а тады сціхамі′рыўся (Дубраўка, Добр.).

СЦЫ′БРЫЦЬ *зак., тое, што* сты′рыць. Ён у мяне сцы′брыў сшытку (Белы Пераезд, Петр.). *Параўн.* сцёбнуць *у 2 знач.*

СЦЫНЗО′РЫК *м., заал.* мурашка. І адкуль толькі ў хаце сцынзо′рыкі? Мабыць, салодкае пачулі (Багуцічы, Ельск.).

СЦЫРА′ТА *ж.* цырата. Вытры пасля яды сцыра′ту (Камаровічы, Петр.).

СЦЮ′ДЗЕНЬ (СЦЮ′ДЗІНЬ, СЦЮ′ДЗЯНЬ) *м., тое, што* сту′дзіна. Сцю′дзень смачны атрымаўся (Меркулавічы, Чач.); Наварыла дзесяць рынак сцю′дзяня. К свадзьбі сцю′дзінь варыла, а шчэ вон цэлы пограб стаіць (Карма, Добр.).

СЦЯБА′ЛКА *ж., спец.* трапло. Дай мое сцяба′лку, бо лён не сцябаны (Белы Пераезд, Петр.).

СЦЯГА′ЦЦА *незак., перан.* цягнуцца (доўга). От табе ўжэ і мінуты сцяга′юцца (Грушаўка, Нар.).

СЦЯБО′К (СЦІБО′К) *м.* чалавек *(які крочыць шырокімі шагамі)*. Са сцібко′м колькі ні бяжы, не сойдзешся (Г. Слабада, Рэч.).

СЦЯГНІ′К *м.* сцягно. З сцягніка′ каўбасы чынам (Меркулавічы, Чач.). *Параўн.* сцягня′к.

СЦЯ′ГЦІСЯ *зак.* прачнуцца. Як бы сця′гціся заўтра рана, дык можна па грыбы схадзіць (Бялёў, Жытк.).

СЦЯГНЯ′К *м., тое, што* сцягні′к. Забілі кабана, дык адзін сцягня′к аддала сыну, а другі дачцэ (Майсееўка, Акц.+Чалюшчавічы, Петр.).

СЦЯЖА′Р *м.* жэрдка *(пасярэдзіне стога)*. Сцяжа′ры забіваюць, каб вецер не здуў стог (Баравікі, Светл.).

СЦЯКЛІ′НА (СЦІКЛІ′НА) *ж.* шкло *(аконнае)*. Ён учора выбіў сцяклі′ну ў вакне (Р. Шлягіна, Ветк.).

СЦЯКЛЯ′НКА (СЦЕКЛЯ′НКА) *ж.* банка *(шкляная)*. Сцекля′нка вісіць на колі (Дзяржынск, Лельч.); Вазьмі сцякля′нку і прынясі вады (Уб.-Рудня, Лельч.).

СЦЯНУ′ЦЦА *зак.* паварухнуцца. У бок так закалола, што й сцяну′цца не магла (Задуб'е, Раг.).

СЦЯНУ′ЦЬ *зак.* патрэсці. Сцяні′ сліву, каб пападалі ўніз (Вышалаў, Петр.).

СЧЭ′ЗНУЦЬ *зак.* ссохнуць. Каля маёй хаты дрэва счэ′зла (Карчовае, Хойн.).

СЫГЛА′ЦЦА *зак.* пасябраваць. Іны так сыгла′лісь, ні знаю, што будзе далей (Амельна, Раг.).

СЫНКАВА′ННЕ *н.* пасынкаванне. Трэба ўжо думаць аб сынкава′нні памідораў (Барталамееўка, Ветк.).

СЫНКАВА′ЦЬ *незак.* пасынкаваць. Ты ўжо памідоры сынкава′ла? (Барталамееўка, Ветк.).

СЫНО′К *м., тое, што* ступка *ў 3 знач.* У верхнім камні ёсцька сыно′к, куды сыпецца зярно (Асінаўка, Чач.).

СЫРАВЕ′Ц *м.* квас *(хлебны)*. Добра было б дастаць сыраве′ц з пограба, а то смажыць (Яланы, Светл.).

СЫРАМАЦЬ *ж.* дровы *(сырыя)*. Сы′рамаць адна, ніяк не гарыць (Галееўка, Гом.).

СЫ′РНІК *м.* клінок. Сы′рнік парваўся саўсім (Апанасаўка, Гом.); Памый сы′рнік, а то ён у тварагу (Ка-

пань, Рэч.) // клінок з сырам. Трэба камянь на сы′рнік пакласці (Дзям'янкі, Добр.).

СЫ′РНІЦА *ж.* посуд *(драўляны, для творагу).* Сы′рніца — ото такая з дзерава, яна ў кажнуй хаці раньшэй була (Стадолічы, Лельч.); От наступіць мясаед, дык ядзяць сыр, што ў пост у сы′рніцу складаюць (Стадолічы, Лельч.).

СЫРЫ′ЗНІНА *ж.* палатно *(нябеленае).* Колісь сыры′зніну ў карыце мулі (Чалюшчавічы, Петр.).

СЫРЫ′ЦА *ж.* шкура-сырэц. Сыры′ца — ета ў нас неабдзеланая кожа (Дубраўка, Добр.); З сыры′цы хочу зрабіць лейцы (Заспа, Рэч.); Павесь ету сыры′цу, хай падсохне (Неглюбка, Ветк.); Таку сыры′цу рэжуць на ботога (Стадолічы, Лельч.).

СЫ′СЛА *ж.* соска. Такі вялікі, а сы′слу з зубоў не выпускае (Бялёў, Жытк.) // сусла *(соска самаробная).* Калісь дзецям сы′слу давалі з хлеба (Бялёў, Жытк.). *Параўн.* сысо′лка.

СЫСО′ЛКА *ж., тое, што* сы′сла. У сысо′лку, што было, то й жвалі, і мякіну дайжа. Шчэ давалі з бульбіны сысо′лку ў рот (Неглюбка, Ветк.).

СЫ′ТАЎКА *ж., заал.* шылахвостка. Сы′таўка ляціць у вырай пад крылом у жарава (Лядцы, Светл.); Раней, як у нас многа лясоў було і балот, то і птаства було, і сы′таўкі булі (Углы, Браг.).

СЫ′ТЫ *прым.* тлусты. Етая міска сы′тыя, у ёй сцірацьне можна (Баравікі, Светл.); Якія чашкі сы′тыя (Шарпілаўка, Гом.).

СЫ′ЦЬ *ж.* сыта. Зрабі сы′ць для пчол (Неглюбка, Ветк.).

СЫЧА′С *прысл.* зараз. Сыча′с жа ідзі дамоў! (Ніўкі, Добр.+Жгун.-Буда, Добр.).

СЯБЁР *м.* халасцяк *(стары).* Глянь-ка ты на яго: сябёр ужэ, а не жэніцца (Саўгасная, Б.-Каш.).

СЯВЕ′Ц *м., тое, што* се′яннік. Сяве′ц з яго слабы: стары ўжэ (Дземехі, Рэч.); У мяне за сеўца′ дзед шчэ (М. Аўцюкі, Калінк.); Мой бацька добрым быў сяўцо′м (Багданавічы, Карм.). *Параўн.* се′яншчык, сяво′к I, сяўба′к, сяўбе′ц, сяўбі′к, сяўбі′т, сяўшчы′к.

СЯВО′К I *м., тое, што* се′яннік. Цяпер у нас сяўко′ў німа, машыны сеюць (Бялёў, Жытк.); *Параўн.* се′яншчык, сяўба′к, сяўбе′ц, сяўбі′к, сяўбі′т, сяўшчы′к.

СЯВО′К II *м.* 1. лубянка. Сяво′к неслі на грудзі, а

рукой кідалі (Бялёў, Жытк.) // кошык. Мой хлопец прынёс поўны сяво′к грыбоў (Камаровічы, Петр.); Поўны сяво′к ягад набрала ўчора (Навасёлкі, Петр.); 2. пачак *(запалак)*. Толькі ж быў поўны сяво′к спічак (Белы Пераезд, Петр.).

СЯВО′К III *м.* цыбуля-сеянка. У мяне ўжэ ўзышоў сяво′к: насенне рана песеяла (Забалоцце, Раг.+Стадолічы, Лельч.; Харомцы, Акц.). *Параўн.* сяву′шка.

СЯВУ′ШКА *ж., тое, што* сяво′к III. Сяву′шка сёлета добрай урадзіла (Сямёнаўка, Рэч.).

СЯДА′К *м.* пасажыр. Зрабіў, як на валах сядако′ў возячы (Турок, Петр.).

СЯДУ′Н *м., тое, што* седзень. Сяду′н, доўга не ходзе, во ўжо два гады (Неглюбка, Ветк.).

СЯДУ′ХА I *ж.* фасоля *(якая не ўецца)*. Сяду′ха не круціцца і расце пры зямлі (Піркі, Браг.); Нада пасадзіць квасолі-сяду′хі (Барталамееўка, Ветк.); А сяду′ху падпіраць не трэба (Бялёў, Жытк.+Новая Бухалаўка, Гом.); Сяду′хай добра абсадзіць грады (Харомцы, Акц.).

СЯДУ′ХА II *ж., тое, што* самасадка. У мяне сяду′ха седзіць ужэ другу недзельку (Дарашэвічы, Петр.); Трэба сяду′ху пакарміць, з гнязда зляцела (Ямполь, Рэч.+ +Юравічы, Калінк.). *Параўн.* самасе′дка.

СЯДУ′ШКА *ж., памянш.* да сядуха I. Цэлы пуд нарасло ў міне сяду′шкі (Казялужка, Хойн.); Пазыч мне сяду′шку, бо ў міне німа (Даманавічы, Калінк.+Багуцічы, Ельск.; Залессе, Чач.).

СЯДЗЕ′ЛЬНІК *м.* стул. Дай сядзе′льнік чалавеку сесці, не стаяць жа ў парозе (Узнаж, Рэч.).

СЯЕ′НАЧЫ *прысл.* у гэту ноч. Сяе′начы такі паганы сон плёўся (Астрагляды, Браг.).

СЯЛЬНІ′К *м., тое, што* се′ннік *у 1 знач.* К марту сяльні′к пусты (Апанасаўка, Гом.); Цялятка трэба пакуль што паставіць у сяльніку′ (Бывалькі, Лоеўск.+ +Маркавічы, Гом.; Углы, Ельск.; Хізы, Ветк.).

СЯМЁРКА *ж.* назва касы *(па памеру)*. У мяне була тоже сямёрка (Пучын, Браг.); Колісь я вучыўся косіць сямёркай (Калінін, Хойн.); Ё сямёркі ў магазіне (Ст. Буда, Б.-Каш.). *Параўн.* сяміру′чка.

СЯМІРУ′ЧКА *ж., тое, што* сямёрка. Бацька любіў касіць сяміру′чкай (Чкалава, Гом.+Астрагляды, Браг.).

СЯНЯ′НКА *ж., тое, што* саламя′нік. Трэба скора пе-

расыпаць сяня′нку (Дубраўка, Добр.+Стадолічы, Лельч.); Трэба памяняць ў сяня′нцы салому (Маркавічы, Гом.). *Параўн.* се′льнік (сяльні′к).

СЯРГА′ *ж.* 1. завушніца. Падары ты мне лучшай се′ргі (Чырвоная Буда, Добр.); 2. *анат.* мочка. Сяргу′ колюць і надзяваюць завушніцы (Кароткавічы, Жлоб.).

СЯРДЗЕ′ЧНІК *м., бат.* відомец. Сярдзе′чнік высоканькі, на пост расце паўз рэчку, яго топяць і ад сэрца п'юць (Хізы, Ветк.); У сярдзе′чніка цвецікі галубенькія (Дубраўка, Добр.+Падворак, Лельч.; Пярэдзелка, Лоеўск.).

СЯРО′ДКІ *толькі мн.* адыходы ад ільну *(пры часанні)*. Як шчоткай пачэшыш, астаюцца адны толькі сяро′дкі (Быч, Карм.).

СЯРО′ЖКА *ж., бат.* 1. фуксія. А етыя цвяты ў нас сяро′жкамі называюць (Дуброўка, Добр.); 2. *перан.* каташок. У вярбы такія сяро′жкі павырасталі (Бабовічы, Гом.).

СЯРО′Н (СЯРЭ′Н) *м., тое, што* сару′н. Сённі сяро′н які крэпкі стаў (Хізы, Ветк.); Чобаты палузаў: па сярэ′ну ішоў (Багуцічы, Ельск.+Аравічы, Хойн.). *Параўн.* се′ран, се′рань.

СЯРПА′НКА *ж.* марля. Узяла кісляку банку і сярпа′нку ў лес (Аравічы, Хойн.).

СЯРЭ′БШЧЫНА *ж., абрад.* абдорванне *(маладых)*. На сярэ′бшчыну гукаюць, як едуць па нявесту, а каравай назаўтра (Быч, Карм.).

СЯРЭ′ДНАЧЫ *прысл.* уночы. Прыйшла дадому сярэ′дначы (Махновічы, Маз.).

СЯ′СЛЫ *толькі мн.* кара *(ліпавая)*. Трэ, каб ся′слы не парасохлі на сонцы, а то потым лапці з іх будуць хутка псавацца (Аравічы, Хойн.).

СЯСТРУ′ХА *ж.* сястра *(траюрадная)*. У мяне е шчэ і сястру′ха (Піркі, Браг.).

СЯЎБА′К *м., тое, што* се′яннік. Еслі сяўба′к прапусціў, то і ета агрэх (Марозавічы, Б.-Каш.); Сяўбакі′ пайшлі на поле (В.-Нямкі, Ветк.). *Параўн.* се′яншчык, сяво′к I, сяўбе′ц, сяўбі′к, сяўбі′т, сяўшчы′к.

СЯЎБЕ′Ц *м., тое, што* се′яннік. Сяўбе′ц сея, а мы бырануем (Літвінавічы, Чач.). *Параўн.* се′яншчык, сяве′ц, сяво′к I, сяўба′к, сяўбі′к, сяўбі′т, сяўшчы′к.

СЯЎБІ′К *м., тое, што* се′яннік. Мой чалавек заўсёды быў за сяўбіка′ (Чкалава, Гом.); Раней сяўбікі′ ўруч-

ную сеялі, а цяпер машыны (Неглюбка, Ветк.); Ты знайшла сабе сяўбіко′ў? (Насовічы, Добр.). *Параўн.* се′яншчык, сяве′ц, сяво′к I, сяўба′к, сяўбе′ц, сяўбі′т, сяўшчы′к.

СЯЎБІ′Т *м., тое, што* се′яннік. Нашых сяўбіто′ў усе зналі (Калінін, Хойн.+Пачун, Браг.). *Параўн.* се′яншчык, сяве′ц, сяво′к I, сяўба′к, сяўбе′ц, сяўбі′к, сяўшчы′к.

СЯЎНІ′К *м.* сеялка. У наш калхоз прыслалі еты год тры сяўнікі′ (Астрагляды, Браг.).

СЯЎШЧЫ′К *м., тое, што* се′яннік. Сяўшчы′к на поле пайшоў (Баравікі, Светл.+Багуцічы, Ельск.). *Параўн.* се′яншчык, сяве′ц, сяво′к I, сяўб′ак, сяўбе′ц, сяўбі′к, сяўбі′т.

СЯЧКА′РКА *ж.* сячкарня. Вельмі добра працуе сячкарка (Багуцічы, Ельск.).

## СКАРАЧЭННІ І УМОЎНЫЯ АБАЗНАЧЭННІ

### 1. Назвы раёнаў Гомельшчыны

Акц. — Акцябрскі; Б.-Каш. — Буда-Кашалёўскі; Браг.— Брагінскі; Ветк.— Веткаўскі; Гом.— Гомельскі; Добр.— Добрушскі; Ельск.— Ельскі; Жлоб.— Жлобінскі; Жытк. — Жыткавіцкі; Калінк. — Калінкавіцкі; Карм. — Кармянскі; Лельч. — Лельчыцкі; Лоеўск. — Лоеўскі; Маз. — Мазырскі; Нар. — Нараўлянскі; Петр. — Петрыкаўскі; Раг.—Рагачоўскі; Рэч.—Рэчыцкі; Светл.— Светлагорскі; Хойн.— Хойніцкі; Чач.— Чачэрскі.

### 2. Граматычныя і стылістычныя паметы

*абрад.*— абрадавае; *абразл.*— абразлівае; *аг.*— агульны род; *выкл.*— выклічнік; *груб.*— грубае; *дап. дз.*— дапаможны дзеяслоў; *дзеепрым.*— дзеепрыметнік; *ж.*—жаночы род; *заал.*— заалагічнае; *займ.*— займеннік; *зак.*— закончанае трыванне; *зборн.*— зборнае; *зневаж.*— зневажальнае; *злуч.*— злучнік; *Іран.*— Іранічнае; *ласк.*— ласкальнае; *лаянк.*— лаянкавае; *м.*—мужчынскі род; *мад.*— мадальнае; *н.*— ніякі род; *незак.*— незакончанае трыванне; *павел.* — павелічальнае; *памянш.* — памяншальнае; *пар. ст.*— параўнальная ступень; *перан.* — пераноснае; *праст.* — прастамоўнае; *прым.* — прыметнік; *прыназ.* — прыназоўнік; *прысл.*— прыслоўе; *спец.*— спецыяльнае; *субст.*— субстантываванае; *толькі адз.*— толькі адзіночны; *толькі мн.*— толькі множны; *устар.*— устарэлае; *экспр.*— экспрэсіўнае.